

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 13 студзеня 1989 г. № 2 (3464) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## М. С. ГАРБАЧОЎ:

# «ПЕРАБУДОВА СТАВІЦЬ У ЦЭНТР УСЯГО ЧАЛАВЕКА»

**6 СТУДЗЕНЯ Ў ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КПСС АДБЫЛАСЯ ЧАРГОВАЯ, УЖО МОЖНА СКАЗАЦЬ, ТРАДЫЦЫЙНАЯ СУСТРЭЧА З ДЗЕЯЧАМІ НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ.**

**НА ЁЙ З ВЯЛІКАЙ ПРАМОВАЙ І ЗАКЛЮЧНЫМ СЛОВАМ ВЫСТУПІЎ М. С. ГАРБАЧОЎ.**

Сёння ў краіне ўсё больш шырока разгортваюцца перабудовачныя працэсы. Яны ахопліваюць усе сферы нашага жыцця, закранаюць мільёны людзей, іх інтарэсы. Перабудова пранікае ў самыя тоўшчы народнага жыцця, прыводзіць у рух велізарныя грамадскія сілы, увесь, можна сказаць, патэнцыял краіны. Можа быць, мы толькі зараз па-сапраўднаму разумеем, што такое перабудова, толькі цяпер пачынаем па-сапраўднаму адчуваць навізну і вастрыню праблем і, вядома ж, вялізныя маштабы маючай быць работы.

**Многае з таго, што адбываецца ў краіне, нас радуе. Аднак шмат што і трывожыць, выклікае непакой. Сёй-той, не адмаўляючы відавочнага факта, што наш народ рашуча выступае за перабудову, спрабуе ўсё ж пасеяць і зерне сумнення: што, маўляў, для перабудовы рамкі сацыялізму нібыта зацесныя, што патрэбны палітычны плюралізм, шматпартыйнасць і нават прыватная ўласнасць. Больш таго, пад выглядам галоснасці робяцца спробы атакаваць партыю, якая распрацавала і прапанавала перабудову, якая сёння ўзначальвае работу па дэмакратызацыі, стымулюе ўсе перабудовачныя працэсы і якая сама зведвае глыбокае абнаўленне.**

**Такія погляды, незалежна ад таго, якія прычыны ляжаць у іх аснове і пад уплывам якіх акалічнасцей яны ўзнікаюць, безумоўна, памылковыя, супярэчаць інтарэсам народа, па сутнасці скіраваны супраць перабудовы.**

«Па партыі б'е той, хто хоча сарваць перабудову, нашкодзіць ёй, — падкрэсліў М. С. Гарбачоў. — Глыбока перакананы, што перабудову мы задумалі і вядзём у цэлым правільна, і гэта не толькі мая думка. І з гэтай дарогі нам нізавошта нельга збочваць. У гэтым я таксама цвёрда перакананы. Перабудова нам крайне неабходна».

Вядома, поспехі апошніх чатырох гадоў маглі б быць большымі. Аднак няма ўсё ж падстаў ставіць наш выбар пад сумненне, няма падстаў для песімізму, смутку і тым больш для панікі. Як бы там ні было, а перабудова аказвае пазітыўны ўплыў на развіццё эканомікі і сацыяльнай сферы. Калі яе ўплыў сказваецца яшчэ недастаткова, дык віною ў гэтым не перабудова, а нашы ўласныя ўпушчэнні, нашы непаваротлівасць і безадказнасць. Мы пакуль што так і не разбурылі да канца механізмы затратнай эканомікі, марудна асвойваем эфектыўныя метады гаспадарання, і перш за ўсё — пераход на арэнду, гаспадарчы разлік, самафінансаванне. Мы пакуль што не нанеслі ўдар па адчужэнні чалавека ад сродкаў вытворчасці, не змаглі вярнуць працаўніку пачуццё гаспадара, раскрыць яго асабовы патэнцыял.

**1989 год будзе, несумненна, вельмі важным этапам у ажыццяўленні радыкальнай эканамічнай рэформы. Усе галіны матэрыяльнай вытворчасці пераводзяцца на прынцыпы гасразліку і самафінансавання. Гэта няпростая задача. Трэба дзейнічаць так, каб рашуча зняць усе перашкоды, якія замінаюць разгортванню перабудовачных працэсаў у эканоміцы.**

**Аднак нічога не адбудзецца ў эканамічнай і сацыяльнай сферах, калі адначасова мы не будзем рашуча ажыццяўляць глыбокага рэфарміравання палітычнай сістэмы. Без гэтага не раскрыць патэнцыял сацыялізму, не ўключыць увесь народ у пераўтваральныя працэсы. Менавіта таму пытанні палітычнай рэформы і былі ў цэнтры ўвагі XIX партканферэнцыі.**

**Нябачаныя па сваім маштабе, ахопе і глыбіні працэсы перабудовы арганічна звязаны з сур'ёзнымі зрухамі ў грамадскай свядомасці. Яна таксама зведвае пералом, адэкватны таму, які адбываецца ў самім жыцці. І тут паўстае незаменная, унікальная роля, а значыць і адказнасць нашай навуковай і мастацкай інтэлігенцыі.**

У час сустрэчы М. С. Гарбачоў гаварыў: «Партыя высока цэніць уклад вучоных, дзеячаў культуры ў стварэнне новай маральна-палітычнай атмасферы, якая аказвае велізарны ўплыў на ўсе працэсы, што адбываюцца ў грамадстве. У немалой меры дзякуючы гэтым намаганням нам удалося разбурыць шматгадовыя стэрэатыпы мыслення, светаўспрыманне застойнага часу, пераадолець палітычную апатыю ў грамадстве. Тут няма ніякага перабольшання, і я пра ўсё гэта кажу не дзеля таго, каб сказаць вам прыемнае, а каб падкрэсліць: і ў далейшым у сувязі з узрастаннем маштабаў перабудовы будзе павышацца роля інтэлектуальных сіл народа, у першую чаргу інтэлігенцыі».

І працягваў: «Калі мы ставім у практычную плоскасць абнаўленне нашага грамадства на высокіх інтэлектуальных і маральных каштоўнасцях, нам не абысціся без велізарнай работы ў духоўнай сферы. Перабудова ставіць у цэнтр усяго чалавека. Як ніколі, нам цяпер важна выкарыстаць усе нашы культурныя дасягненні і ўзбагаціць іх новымі набыткамі».

Духоўнае жыццё грамадства ніколі, бадай, не было ў нас такім актыўным, ніколі не вылучалася такім зацікаўленым, жывым удзелам у ім не толькі інтэлігенцыі, але і ўсяго народа, такой шматстайнасцю форм. Але і тут, як і ў іншых сферах, глыбокія, маштабныя працэсы носяць складаны, а часам і супярэчлівы характар. Адмаўленне ад колішніх догмаў і схем грамадскага развіцця, перабудова закасцянелых форм грамадскіх адносін, вызваленне аграмадных патэнцыяльных сіл народа праз дэмакратыю і галоснасць сяго-таго вывелі з раўнавагі, змусілі ў чымсьці ўсумніцца, разгубіцца. Чуюцца самыя розныя галасы. Адны хочуць прыспешыць перабудову, другія, наадварот, выказваюць незадаволенасць яе крокамі, бачаць ва ўсім толькі негатыў. Справа даходзіць наогул да адмаўлення нашага сацыялістычнага выбару, сэнсу і прызначэння перабудовы. Такая крытыка — і «справа», і «злева» — непрымальная. Непрымальная тым больш, што зыходзіць ад інтэлігенцыі, да голасу якой людзі прывыклі прыслухоўвацца, з аўтарытэтам якой лічацца.

**У сувязі з гэтым гаварылася на сустрэчы і пра паляпшэнне атмасферы ў творчых саюзах, пра павышэнне культуры дыскусій і спрэчак, пра тое, што трэба вучыцца сапраўднаму плюралізму думак, быць у адказе за слова вымаўленае і надрукаванае. Падкрэслівалася, што лозунг больш дэмакратыі — гэта заўсёды больш адказнасці, больш правоў — гэта заўсёды больш абавязкаў, што паняцці гэтыя заўсёды побач.**

**Асабліва непрымальная нецярпімасць у сферы міжнацыянальных адносін, рэальную карціну якіх таксама дапамагла ўбачыць перабудова. І гэтае веданне рэальнасцей дапамагае нам зараз знаходзіць правільныя шляхі рашэння праблем, што тычацца развіцця ўсіх нацый і народнасцей нашай краіны, іх эканомікі, мовы і культуры. Працэс гэты, на жаль, ідзе часта супярэчліва. І шлях тут адзін: усё пазітыўнае, што прапануецца перабудоваю ў мэтах гарманізацыі міжнацыянальных адносін, трэба падтрымліваць і развіваць.**

Падсумоўваючы вынікі гаворкі, М. С. Гарбачоў заначыў: «Мне думаецца, што ўсе мы падзялілі тую заклапочанасць, пра якую я гаварыў у сувязі з новым этапам перабудовы. На ўсіх накірунках перабудовы трэба ісці ўперад. Толькі так можна разлічваць на поспех. І хацелася б спадзявацца, што ўсе зразумелі, што нам патрэбна кансалідацыя. Не любой цаной, не, а на шляхах прыверджанасці палітыцы перабудовы, на аснове нашых сацыялістычных каштоўнасцей. Каб рухаць перабудову, каб большы ўпор рабіць зараз на стваральную работу, на падтрымку таго, што так цяжка нам даецца ва ўсіх сферах — у эканоміцы, у палітычным працэсе, у духоўным жыцці».

*Менавіта гэтымі словамі Міхаіла Сяргеевіча і хочацца скончыць кароткі канспект яго выступлення на сустрэчы з дзеячамі савецкай навукі і культуры. І перакінуць адсюль масток да аднаго з ключавых матэрыялаў сённяшняга нумара (стар. 2—3, 14—15)—справаздачы з лімаўскага «круглага стала», за якім мы сабралі сваіх найбольш актыўных, грамадска неабыякавых чытачоў. Стала, парадак дня якога быў вызначаны вось так коратка і важка: «Перабудова і мы». Там таксама гучала нямала трывог і непакою за стан і будучыню перабудовы. Там таксама ішоў пошук шляхоў яе далейшага руху, далейшага абнаўлення ўсіх сфер грамадска-палітычнага і духоўнага жыцця краіны.*

## У НУМАРЫ:


А. ЛЯГУЦКІ


І. НАВУМАЎ


А. ТРУСАЎ


А. ХАТЭНКА


Я. ЯНУШКЕВІЧ

**жынер Заходняй пошукава-здымачнай партыі Беларускай гідрагеалагічнай экспедыцыі Аркадзь БЛІНКОЎСКІ (г. Баранавічы), экскурсавод аб'яднання «Мінсктурыст», гісторык Анатоль ВАРАВА, інжынер-механік Дзяржаграпрома БССР Расціслаў ВАШКЕВІЧ з Мінска, інжынер Мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл» Сяргей ДЫЧОК, інжынер Гродзенскага рачнога порта Аркадзь ЖУКОЎСКІ, слесар аднаго з мінскіх прадпрыемстваў Іван КРЫСАК, урач-венеролаг Асіповіцкай раённай бальніцы Анатоль ЛЯГУЦКІ, студэнт Гродзенскага медыцынскага інстытута Ігар НАВУМАЎ, кандыдат гістарычных навук, начальнік аддзела комплекснага вывучэння помнікаў інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» Алег ТРУСАЎ, старшы эксперт Беларускага фонду культуры Антаніна ХАТЭНКА і навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР Язэп ЯНУШКЕВІЧ (усе трое з Мінска).**

**Амаль пяць гадзін доўжылася шчырая, зацікаўленая, эмацыянальная гаворка. На дзвюх мовах — па-беларуску і па-руску. Праўда, асаблівых дыскусій, перакрыкаваных спрэчак, як гэта звычайна бывае за «круглым сталом», не было. Хутчэй гэта былі ўзрушаныя маналогі аднадумцаў.**

**Забягаць наперад, пераказваць чытацкія маналогі няма, вядома, патрэбы. Адзначым хіба толькі вось што. Прадстаўнікі розных прафесій, людзі розных сацыяльных пластоў і ўзростаў, быццам згаварыўшыся, завастралі ўвагу найперш на пытаннях адраджэння беларускай мовы, нашай нацыянальнай гісторыі і культуры. Само сабой, ішла гаворка і пра іншае, закраналіся самыя розныя жыццёвыя праблемы і з'явы, у тым ліку сацыяльнага і маральна-этычнага парадку, аднак жа пераважалі менавіта культурна-моўныя пытанні.**

**Ды, урэшце, хай гавораць самі ўдзельнікі нашай рэдакцыйнай сустрэчы — у тым парадку, у якім яны бралі слова.**

за такім вось «круглым сталом» сядзелі рабочыя, інжынеры, урачы і гаварылі па-беларуску. Сёння ж гэта факт. Гэта і ёсць перабудова. Я прыйшоў у рэдакцыю аптымістычна настроены, а пайду яшчэ большым аптымістам. Вядома, шмат ёсць і праціўнікаў у нашага нацыянальнага адраджэння. Таму нам важна даследаваць праблему беларусізацыі рознабакова. Пытанне з пытанняў — феномен гарадской культуры ў Беларусі, напрыклад. Я — гараджанін, у мяне няма комплексу вяскоўца. А многія людзі, якія жывуць цяпер у горадзе, маюць гэты комплекс, а ён гіпертрафіраваўся ўжо да здрадніцтва, да адмаўлення сваёй культуры. Нацыя ж не можа жыць без горада. Гэта закон. Горад павінен быць аплотам нацыянальнай культуры.

## В. АРЛОЎ, выкладчык:

— Пытанні культуры, мовы — пытанні палітычныя. Улічваючы гэта, мы, члены віцебскага аб'яднання «Узгор'е», падрыхтавалі ліст і накіравалі яго ў ЦК КПСС, у камісію па падрыхтоўцы пленума па міжнацыянальных пытаннях. Мы ставілі пытанне аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў рэспубліцы, далі на гэты конт гістарычную даведку. Гаварылі мы і пра тое, што калі пасля вайны рускай мове надавалі пануючае становішча, ніхто дазволу на тое не пытаўся, а зараз, калі трэба адраджаць беларускую мову, узнікае моцнае супраціўленне: гэта, маўляў, насаджэнне, уціск, прымус. Неўзабаве прыехаў прадстаўнік з ЦК КПСС і звярнуў увагу нашых абласных кіраўнікоў на пастаўленыя пытанні. Пасля гэтага яны сустрэліся з намі і далі звесткі аб тым, якія захады робяцца. І я вам скажу, што ў Віцебску і вобласці асобныя абкомаўскія работнікі павярнуліся тварам да беларускай справы. Прывяду такі прыклад. Яшчэ год назад партыйныя работнікі гаварылі, што ў нас двухмоўе натуральнае і няма падстаў мяняць сітуацыю. Цяпер жа яны папраўляюць тых, хто кажа, што мова беларуская ім не трэба. Толькі ж — як папраўляюць? Маўляў, давайце правядзём апытанне, ці хочуць людзі валодаць мовай, ці не хочуць. Лічу, што гэта якраз тое пытанне, якое не вырашаецца галасаваннем. Яно павінна вырашацца на дзяржаўным узроўні.

Сёе-тое мы спрабуем рабіць у інстытуце. Аднак натыкаемся на перашкоды. Скажам, студэнты захацелі правесці дыскусію аб стане беларускай мовы, аб яе ўжыванні. Падрыхтавана была аб'ява. Аб'ява правісела літаральна дзве гадзіны і яе знялі. Аўдыторыя, якая ніколі не зачынялася, на гэты раз была зачынена, камендант не выдаваў ключ. Дзіўна, але чамусьці, як заходзіць гаворка аб культуры, дык адразу ж некаторыя таварышы блытаюць нацыянальнае з нацыяналістычным.

Аднак ёсць і пэўныя станоўчыя зрухі. Нядаўна мне прарэктар прапанаваў падрыхтаваць праграму вывучэння спадчыны. Мы ў аб'яднанні працуем над ёй, чарнавы варыянт ужо зрабілі, у праграму ўвойдуць пытанні па гісторыі, літаратуры, гісторыі архітэктуры. На жаль, мы сёння ў такім стане, што і самі дрэнна валодаем і мовай, і культуру сваю не ведаем. Парашылі, будзем, не саромеючыся, вучыцца. Запрасілі з Мінска гісторыка Анатоля Грыцкевіча. Ён прачытаў цыкл лекцый моладзі, камсамольскім актывістам, каб яны хоць нешта зналі з гісторыі нашай культуры.

Згадаю пад канец адзін трошкі экзатычны факт. У Міёры колькі гадоў назад прыехаў ксёндз-літовец. І што? Неўзабаве ён вывучыў беларускую мову і вядзе на ёй службу.

Перакананы, што беларуская мова павінна быць у рэспубліцы дзяржаўнай, толькі тады яна будзе пастаўлена ў аднолькавыя ўмовы з рускай. Згодзен, што трэба распрацоўваць праграму ўкаранення беларускай мовы ў шырокія масы.

## Э. АРЛОВА, пенсіянерка:

— Я хачу сказаць вось пра што. Абыходзіць маўчаннем наш друк бібліятэкі. Сама я з маленства прывыкла лічыць бібліятэку другім родным домам. Бібліятэка, разумею я, адзін з выдатнейшых асяродкаў культуры, там мы знаёміліся з шырокім светам, з дасягненнямі культуры, з навінкамі літаратуры. Сёння ж гэты ачаг не свеціць, а ледзь тлее. Залы ў бібліятэках цяпер прасторныя, кніг шмат, ды і колькасць бібліятэчных работнікаў — адукаваных, з дыпломамі — не параўнаць з тым, што было раней, а — дзіўная рэч: кнігі і часопісы нібы самі па сабе, а чытачы — самі па сабе. Бібліятэкары з ідэйных праваднікоў між імі ператварыліся ў «прыкніжных» чыноўнікаў. Выстаўку ці агляд навінак яны цяпер правядуць ці наладзяць толькі па загадзе зверху або да юбілейных дат. Паўсядзённай, зацікаўленай творчай работы з чытачамі няма. Рэдка ўбачыш у чытальнай зале прымацаваную навідавоку газету з цікавым злабадзённым артыкулам, які ўсхваляваў усіх. А кароткую выбарку з апошніх часопісаў? Таксама. Гэта тычыцца любой літаратуры, але беларуская ў гэтым сэнсе асабліва пакутуе. Яе бібліятэкары проста не заўважаюць. Пра якую прапаганду беларускай кнігі ці часопіса можна марыць, калі бібліятэкарка заяўляе: «Я не знаю белорусского языка и не буду его учить. Всю жизнь разговаривали по-русски, а теперь что, переучиваться?» Або яшчэ чуеш: «Да и зачем? Сами белорусы не уважают своей культуры, своим языком не пользуются». Або вось гаворым аб тым, што ў кіёску часам немагчыма набыць тую ці іншую беларускую газету праз гадзіну пасля яе прывозу, што часопіс «Маладосць» я адшукала ажно ў пятым па ліку кіёску, што «ЛіМ» наогул у Віцебску нельга купіць.

Ну, а такі выпадак? У Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа меўся адбыцца вечар, прысвечаны дню нараджэння У. Караткевіча. За некалькі дзён да гэтай падзеі зайшла я ў бібліятэку Віцебскага ветэрынарнага інстытута і прапанавала бібліятэкарам павесіць аб'яву аб гэтым вечары. Але, аказваецца, ім, прапагандыстам беларускай кнігі, не патрэбен ні Караткевіч, ні памяць пра яго: «Мы не обязаны писать и вешать объявление. Это не наше дело».

І яшчэ адно. У «ЛіМе» прачытала ліст намесніка загадчыка Дома палітасветы Віцебскага абкома партыі Мікалая Глушонка. Ён піша пра тое, як гарвыканком займаўся добраўпарадкаваннем горада: замяніў цепласеткі, заасфальтаваў вуліцы, пабудаваў новыя кафэ, магазіны. У лісце ён згадвае і пра рэстаўрацыю былых Пакроўскай царквы і касцёла св. Варвары. І не ўспомніў таварыш Глушонак, што ў гэтай справе немалая заслуга нефармальнага аб'яднання «Узгор'е». Мо ён не ведае, як узгор'еўцы з рыдлёўкамі пасля работы, вучобы ішлі расчышчаць тэрыторыі помнікаў? Ведае, несумненна, але не толькі не гаворыць пра гэта, а яшчэ і нападае на «нефармалаў», як рабіў ён гэта, выступаючы на фабрыцы «КІМ».

## І. НАВУМАЎ, студэнт:

— Тут ужо гаварылася пра тое, што трэба распрацоўваць праграму адраджэння нашай мовы, культуры. Я таксама з гэтым пагаджаюся.

Тут прагучала думка, што беларуская нацыя знаходзіцца яшчэ ў стане фарміравання. Гэта сапраўды так. Але, калі фарміруецца любы малады арганізм, у яго закладаецца ўсё самае лепшае, неабходнае для гарманічнага росту. А што атрымліваецца на самай справе? Возьмем сродкі масавай інфармацыі — магутны фактар фарміравання чалавечай свядомасці, узбагачэння яго духоўнага багажу, а, значыць, — і гонару за сваё кроўнае. Як абудзіць гэтае пачуццё гонару ў юнага гродзенца, калі праграма Беларускага тэлебачання ледзь прадзіраецца ў эфір праз нейкія тэхнічныя перашкоды? Вось ён і глядзіць днямі і начамі праграму... польскага тэлебачання. А ці хвалюе каго той факт, што беларускую хвалю ў радыёэфіры злавіць на Гродзеншчыне таксама вельмі цяжка...

Гродзенскія кіёскі «Саюздруку» стракацяць ад маляўнічых вокладак польскіх часопісаў, газет, даведнікаў. І я заўсёды думаю, умеюць жа прапагандаваць нашы суседзі сваю друкаваную прадукцыю! Вось бы і нам навучыцца падаваць так нашы не такія ўжо шматлікія беларускія выданні. Каб кожны мог набыць без праблем той самы «ЛіМ», рэспубліканскія газеты «Звязду» і «Чырвоную змену», часопісы «Крыніца», «Маладосць», «Полымя»...

Давайце ж будзем узаемаўзбагачацца, прапагандуючы суседзяў, але не забываючыся на сваё...

## А. ЖУКОЎСКІ, інжынер:

— Лічу, што прапаганда беларускасці павінна ісці на глыбокай павазе да іншых культур. Да польскай, у прыватнасці, якая аказала на Беларусь свой адметны ўплыў. Класік польскай літаратуры Адам Міцкевіч нарадзіўся на Навагрудчыне, матывы і вобразы ягонай паэзіі навеяны нашай зямлёй. Ён па праву належыць тром народам-суседзям — польскаму, беларускаму і літоўскаму.

Тэма нашай гаворкі — вельмі сур'ёзная і рознабаковая. Мне здаецца, што перабудова не адбудзецца, калі мы не паклапоцімся пра маральны дух нашых дзяцей. А хто выхоўвае, фарміруе той дух? Вядома ж, сям'я, школа, усё грамадства. І яшчэ — літаратура. Вось яе нам у рэспубліцы і не хапае. Так, так — не хапае! Што атрымліваецца? Як толькі пабачыць свет якая-небудзь дзіцячая кніжка на беларускай мове, дарэчы, з мізэрным тыражом, то адразу — праз месяц ці два — дубль на рускай мове, прычым у сто — дзвесце тысяч экземпляраў. Так нельга. Прагу дзяцей да чытання трэба наталяць праз роднае слова, у першую чаргу. Я, напрыклад, прачытаў упершыню «Конніка без галавы» па-беларуску, пра Тома Соера і Гекльберы Фіна — у даваенным выданні таксама ў перакладзе на родную мову. Для мяне гэтыя творы не страцілі сваёй прывабнасці ад таго, што былі выдадзены па-беларуску. Мова ні ў якім разе не з'яўляецца перашкодай у такіх выпадках. Успомніце хоць бы гісторыю з «Дзікім паляваннем караля Стаха» і «Чорным замкам Альшанскім». Гэтыя кнігі ў кнігарнях нельга было набыць. І што адметна: шмат людзей, якія не надта ведалі беларускую мову, чыталі гэтыя творы...

Як практычна далучыць нам дзяцей да роднага слова, да чытання кніг на сваёй мове? Пакуль мы рэфармуем школу, а чакаць, думаю, давядзецца доўга, трэба было б як мага хутчэй пачынаць выданне, напрыклад, «Бібліятэкі прыгодніцкай літаратуры» па-беларуску. Дзеці яе абавязкова прачытаюць. Будзе ім да чаго гарнуцца. А пакуль ім няма да чаго гарнуцца: няма, скажам, у нас нацыянальнай сімволікі, няма беларускіх сцяжкоў, значкоў, каляндарыкаў, якія можна было б купіць дзіцяці. Мінуў ужо 1988 год, а партрэтаў Каліноўскага так і не сабраліся надрукаваць. Не можам мы купіць партрэтаў нашых нацыянальных дзеячаў-бальшавікоў Жылуновіча, Чарвякова і іншых. Партрэты Купалы і Коласа таксама няпроста адшукаць. Так што, паўтараю, трэба ўзяць пад кантроль хоць бы дзіцячую літаратуру, выдаваць не толькі творы беларускіх пісьменнікаў, але і перакладаць на беларускую мову ўсё лепшае з сусветнай літаратуры.

Што тычыцца перабудовы ў эканоміцы, дык я лічу: тое, што зроблена, магло быць значна большым, калі б наша начальства паважала тыя законы, якія ёсць. Напрыклад, Закон аб прадпрыемстве. Ён практычна выконваецца ў той меры, у якой «знізу» яго здолеюць «узяць». Пакуль жа ніводны пункт закона нельга ўвасобіць у жыццё без барацьбы «вярхоў» і «нізоў», нават на такім малым прадпрыемстве, як Гродзенскі рачны порт, дзе я працую. Нягледзячы на ўсе рэарганізацыі, так і не зніклі рознага роду аддзелы, пададдзелы, кіраўніцтвы, канторы. Менавіта ў іх руках знаходзяцца лейцы праўлення, а нам — цуглі. Такая «мадэль» гаспадарчага разліку вельмі абмяжоўвае прадпрыемствы. Напрыклад, наша невялікая кантора дае дзяржаве паўмільёна прыбытку. Гэта многа, калі ўлічыць, што штат наш — 180 чалавек. Але амаль усе зробленыя намі грошы забірае «верх», г. зн. параходства, якое знаходзіцца ў Гомелі. З параходства да таго ж ідзе безліч папер, на якія мы абавязаны рэагаваць. Ці ж не ўмацоўваем мы, мякка кажучы, бюракратычную машыну такім вось метадам: у аддзеле галоўнага ўпраўлення ў Мінску, які нас курыраваў, працавала чатыры чалавекі, а ў параходстве такі аддзел «разросся» да васемнаццаці чалавек. І кожнаму з іх нам трэба выслаць па паперцы...

Цяпер мы рыхтуемся да другой мадэлі гаспадарчага разліку. З яе дапамогай, спадзяюся, пераможа і сама добрая ідэя Закона аб прадпрыемстве.

## Р. ВАШКЕВІЧ, інжынер:

— Рос і гадаваўся я ў вёсцы Драгічынскага раёна. Потым трапіў на Урал, закончыў там інстытут механізацыі, у 60-м годзе вярнуўся і працую ў Беларусі. Што я скажу аб перабудове? З першага выступлення Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова ў памятным Красавіку я зразумеў, што скончыўся перыяд «эканомнай эканомікі». Гэты лозунг я наогул ніколі не разумеў, але не надта задумваўся, чаму мы то «пяцігодку эфектыўнасці і якасці» выконвалі, то яшчэ нейкую. Толькі цяпер, калі за плячыма ладны жыццёвы і працоўны вопыт, пачаў задумвацца, адкуль усё гэта так буйна цвіло. У 60-м годзе мне, маладому інжынеру, было жахліва ўсведамляць, што ў пашане не якасць, а — жульніцтва, нейкая фальшывая эканоміка. Мяне бацькі, дзяды вучылі: рабі добра, рабі якасна. Адкуль жа ўзнікла праблема якасці, калі кожны з нас павінен заўсёды сумленна, а, значыць, і якасна, рабіць сваю справу? Яшчэ ў інстытуце нам тлумачылі, што паняцце «якасць» пахіснулася ў гады вайны, калі век вырабаў кароткі (скажам, самалётаў-знішчальнікаў). Таму кантралёры ўказвалі толькі на тыя непаладкі, без якіх самалёт не мог узляцець. Нібы адтуль, з таго часу пайшло паслабленне патрабаванняў да якасці. Потым запанавала эпоха павышаных сацабавязацельстваў, асабліва ў час кіравання Хрушчова, які заахвочваў гэтыя высокія сацабавязацельствы. Нам трэба былі тэмпы росту, каб дагнаць і перагнаць Амерыку. Пайшлі ў ход усялякія прыпіскі, людзі пачалі падманваць адзін аднаго.

Што я вынес са свайго жыццёвага вопыту, са сваіх назіранняў у сувязі з праблемай

(Працяг на стар. 14—15).

*На тэму дня*

Не памятаю сходу, да якога рыхтаваўся б з такім хваляваннем і пачуццём адказнасці, як да таго, што адбыўся ў нашым Доме літаратара 3 студзеня і быў прысвечаны вылучэнню кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР ад Саюза пісьменнікаў СССР: агульны сход беларускіх пісьменнікаў павінен быў прапанаваць свае кандыдатуры маючаму адбыцца пленуму праўлення ўсесаюзнай пісьменніцкай арганізацыі. Сёння наша кандыдатура вядома: Васіль Быкаў. І гэта не проста вылучэнне кандыдата, як было некалі, — гэта пацвярджэнне нашай прынцыповай пазіцыі ў барацьбе за рэвалюцыйную перабудову, наша пазіцыя ў спрэчцы, якая не ўчора пачалася і не заўтра скончыцца.

# ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР

**«Дзяды» ахуталі зямлю**
**журбой кастрычніцкай**
**парошы...**
**І зноў агонь па Васілю**
**адкрылі сталінцы, як бошы!**
**Глядзяць у снайперскі прыцэл,**
**як Сталін, лютымі вачыма.**
**А ў Васіля пяро ў руцэ**
**і толькі Праўда за плячыма.**
**Мана шалее нездарма,**
**бо ўсё-ткі зразумець у стане:**
**лупі па зорцы хоць з гармат—**
**яна свяціць не перастане.**

Так, Васіль Быкаў не толькі для нас, беларускіх літаратараў, але, упэўнены, і для членаў усяго пісьменніцкага саюза кандыдатура несумненная. А побач з ім яшчэ адно слаўнае імя — Алесь Адамовіч. І хоць наш пісьменніцкі сход не вылучаў яго кандыдатуру па прычынах, так сказаць, геаграфічных, на той падставе, што Алесь працуе і жыве ў Маскве, мне хочацца сёння падаць за яго свой голас. Не сумняваюся і на хвіліну, што не толькі мне. Думаецца, што «геаграфічная» прычына фальшывая, што толькі наша нявопытнасць у сапраўднай перадвыбарчай барацьбе пасадзейнічала таму, што мы пагадзіліся з гэтай прычынай.

Як і Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч — увасобленая прынцыповасць. І давайце тое-сёе ўспомнім.

Усе чулі альбо чыталі прамову М. С. Гарбачова ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый 7 снежня 1988 года. Дык вось у гэтай прамове ёсць па меншай меры чатыры прынцыповыя палажэнні, якія два гады назад — у лютаўскім нумары часопіса «Политический собеседник» за 1987 год — дужа сярдзіта крытыкаваліся. Я маю на ўвазе пісьмо групы ваеннаслужачых з каментарыем двух вучоных мужоў — В. Боўша і У. Бегуна. І ў пісьме ваенных, і ў каментарыі да яго гэтыя чатыры палажэнні Міхаіла Гарбачова, якія я маю на ўвазе, крытыкаваліся, мала таго — разбіваліся ўшчэнт як ідэйна няспелыя, «пацыфісцкія» сцвярджэнні Алеся Адамовіча. Бо што імена выклікала гнеў і вайскоўцаў і аўтараў каментарыя, за што яны білі пісьменніка? За тое, што ён гаварыў і пісаў аб магчымасці і неабходнасці такіх крокаў, як аднабаковае раззбраенне і скарачэнне ўзброеных сіл, гаварыў аб прыярытэце агульначалавечых інтарэсаў над класавымі, аб непадзельнасці гуманізму ў сучасным свеце на абстрактны і нейкі яшчэ, гаварыў аб немагчымасці, вар'яцкасці націскання кнопак на пускавых пультах ядзерных ракет. Інакш кажучы гаварыў тое, што адпавядае новаму палітычнаму мысленню, новай ідэалагічнай стратэгіі нашай партыі.

Не ведаю, як для каго, а для мяне, і з поўнай адказнасцю магу сказаць, што не толькі для мяне, усе гэтыя псеўдапалемічныя атакі на Алеся Адамовіча, таксама, як і на Васіля Быкава,— бліскучыя радкі ў іх характарыстыку, характарыстыку людзей новага мыслення, двух адважных і бескампрамісных прарабаў перабудовы. Як сказаў некалі паэт Сцяпан Гаўрусёў, маланкі б'юць у дрэвы, а не ў гнілыя пні! (Гэтыя словы паэта я прыгадаў, калі пазнаёміўся са свежым нумарам «Политического собеседника»: тыя ж дэмагагічныя атакі ў той жа адрас.)

Ці не смешна, калі сапраўдных змагароў за перабудову, якія свае сённяшнія пазіцыі занялі яшчэ ў пяцідзесятыя-шасцідзесятыя гады, абвінавачваюць у ідэйнай няспеласці? Як і многіх іншых, хто не пагаджаецца з тым прынцыпам плюралізму, калі плюралізм павінен быць узгоднены з начальствам, калі дыялог разумеецца як маналог адных і падпяванне гэтаму маналогу «нижестоящими товарищами»? Напрыклад, прыхільнікаў стварэння Беларускага народнага руху за перабудову «Адраджэнне». Я на апошнім сходзе «групы падтрымкі «Адраджэння» пашкадаваў, што не было на ім тых, хто любіць гаварыць пра ідэйную няспеласць нашу, пра наша, бачыце, палітычнае невуцтва. Бо калі на гэтым сходзе выступіў прадстаўнік латышскага так званага «Саюза за незалежнасць» і пачаў выкладаць сапраўды нацыяналістычныя, сепаратысцкія, авантурыстычныя погляды групы, якую ён прадстаўляе, ён атрымаў рашучы адпор з пазіцыі інтэрнацыяналізму і здаровага сэнсу, з пазіцыі разважлівасці і вялікай адказнасці за лёс перабудовы, за лёс сацыялізму. І гэта — лепшае сведчанне таго, што не збіраемся мы слепа капіраваць прыбалтыйскія народныя франты, не збіраемся ісці на павадку ў экстрэмістаў, розных «незалежнікаў» з хутарскім, вузкалобым ухілам. Гэта некаторыя нашы ідэалагічныя начальнікі чамусьці ўпэўнены, што без іх апекі, без іхняга павадырства мы абавязкова сыдзем з тропу, заблытаемся, не здолеем адрозніць, дзе правы бок, а дзе левы. Дайшло да таго, што пачалі папракаць творчую інтэлігенцыю кавалкам хлеба, настройваць супраць яе рабочы клас і сялянства! Ну, што ж, на гэтыя папрокі быў дадзены адказ 6 студзеня ў Цэнтральным Камітэце ЦК КПСС на сустрэчы з дзеячамі навукі і культуры, у выступленні М. С. Гарбачова: «Мне ўжо не раз даводзілася гаварыць, і лічу патрэбным сказаць яшчэ раз на нашай сустрэчы, аб велізарным укладзе інтэлігенцыі ў перабудову, аб тым, што духоўны фарватэр перабудовы ў значнай ступені пракладваецца тымі, хто ўспрыняў яе душой і сэрцам, зразумеў неабходнасць вываду нашага дзяржаўнага карабля на чыстую, шырокую ваду абнаўлення». Вось што варта ўважліва перачытаць тым, хто не пасаромеўся кінуць цень на інтэлігенцыю, на яе лепшых прадстаўнікоў. Знамянальна, што і яны — Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў — былі ўдзельнікамі сустрэчы ў Крамлі. Там, дзе сёння працуе штаб перабудовы, яны былі нашымі пасланцамі.

Гэта правамерна, як правамерна і тое, што менавіта яны павінны быць сярод самых дастойных, хто будзе абраны вясной у новы савецкі парламент.

**Валянцін ТАРАС.**

## Лаўрэаты Дзяржаўных прэмій БССР 1988 года


Алег ЛЯШУК


Віктар АРСЕНЬЕЎ


Васіль САМЦОЎ


Валянцін ГАПІЕНКА


Міхаіл ЦЫНМАН


Валерый КЯСКЕВІЧ


Расціслаў ШЫЛАЙ


Аэравакзал у Брэсце.

## КАНДЫДАТЫ АД КАМПАЗІТАРАЎ

Пашыранае пасяджэнне праўлення Саюза кампазітараў БССР вылучыла кандыдатуры народных дэпутатаў СССР. У абмеркаванні ўдзельнічалі народныя артысты рэспублікі Д. Смольскі, Г. Вагнер, заслужаныя дзеячы мастацтваў БССР У. Дарохін, Р. Сурус, кампазітары К. Цесакоў, В. Войцік, Ф. Пыталеў, А. Сонін, С. Бельцюкоў, А. Рашчынскі, А. Залётнеў і інш.

Кандыдатамі ў народныя дэпутаты СССР названы І. Лучанок, Я. Глебаў, А. Багатыроў, Д. Смольскі, К. Цесакоў, Р. Сурус, А. Сонін, А. Шнітке, Р. Шчадрын, А. Эшпай.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА І ПЕРАБУДОВА

**Цяжка пераацаніць значэнне літаратурна-мастацкай публіцыстыкі ў сённяшнім дэмакратычным абнаўленні грамадства, яе ролю ў актывізацыі працэсаў перабудовы.**

**«Аб ролі і значэнні публіцыстыкі на сучасным этапе перабудовы» — так было акрэслена пытанне парадку дня выязнога пасяджэння Савета па публіцыстыцы Саюза пісьменнікаў СССР, якое прайшло 10 студзеня ў Мінску ў Доме літаратара. Адкрыў пасяджэнне і вітаў гасцей першы сакратар праўлення СП БССР Ніл Гілевіч. Вёў пасяджэнне савета яго старшыня, сакратар праўлення СП СССР Юрый Чарнічэнка.**

**З паведамленнямі аб стане сучаснай беларускай публіцыстыкі выступілі старшыня секцыі публіцыстыкі Саюза пісьменнікаў БССР Васіль Якавенка і прафесар Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна Барыс Стральцоў.**

**У абмеркаванні прынялі ўдзел: С. Алексіевіч, А. Анфінагенаў, А. Сідарэвіч, К. Шэрман, Г. Лісічкін, І. Дуэль, А. Дзмітрэнка, А. Казловіч, В. Тарас, Р. Ваганас, І. Васілеўскі, А. Бродскі, Ю. Калішчук, С. Букчын, В. Казакоў, Ю. Чарнічэнка.**

**Справаздача аб пасяджэнні Савета па публіцыстыцы СП СССР будзе змешчана ў адным з бліжэйшых нумароў газеты. НАШ КАР.**

**УЖО МЫ ПРЫВЫКЛІ** амаль кожны свой з'езд, пленум ці нават сход называць гістарычным, хоць большасць з іх былі чарговымі мерапрыемствамі, якія мала чаго ўнослі ў наша творчае асяроддзе, акрамя падліку сціплых дасягненняў і новых запэўніванняў цярплівых чытачоў апраўдаць іх спадзяванні.

Нават слушны заклік «Бліжэй да жыцця!» стаў валюнтарысцкім адлюстраваннем рэчаіснасці з дэфармаваным ладам жыцця і грамадскіх адносін у гады жудасных сталінскіх рэпрэсій і ў гады застою, калі эканоміка пачала прабуксоўваць на месцы, навука губляць свае заваяваныя раней пазіцыі, а літаратура і мастацтва, уціснутыя ў акасцянелыя схемы і догмы сацрэалізму, не маглі праявіць сябе ва ўсёй мастацкай разнастайнасці, переканаўчасці, наватарстве і рэвалюцыйнасці.

**Не маглі. Але гэта не значыць, што многія з нас не бачылі змрочнай рэчаіснасці, не спрабавалі прарвацца праз шчыльны частакол шматлікіх, часта супярэчлівых забаронаў, пастаноў, угодлівых крытычных ацэнак або разносных артыкулаў, падобных больш да безапеляцыйных прыгавораў, з чым прыходзілася тады сустракацца і лічыцца і пісьменнікам і рэдактарам, якіх за малейшы «недагляд» часта мянялі, а то і закрывалі часопіс.**

**Я помню, як не раз пасля такіх чарговых пастаноў і ўказанняў А. Куляшоў, П. Панчанка і я дзяліліся сваімі думкамі аб тым, што немагчыма, кіруючыся адвольнымі бюракратычнымі патрабаваннямі, стварыць у мастацтве нешта новае, вартае ўвагі, што было б трывалым укладам у нашу літаратуру.**

**Відаць, падобныя думкі наведвалі многіх пісьменнікаў, у чым лёгна пераканацца, бо мы знойдзем шмат твораў, напісаных і ў тыя гады, якія ніяк не ўкладваліся і не ўкладваюцца ў пракрустава ложа тагачасных схем.**

Зараз праводзіцца вялікая работа па аднаўленні нашай гісторыі і літаратурнай спадчыны.

Работа гэта і адказная і карпатлівая, якая патрабуе аб'ектыўнай ацэнкі, бо побач з выдатнымі творамі, якія не страцілі сваёй каштоўнасці, папоўніўшы нашу класіку, некаторыя адносяцца ўжо да гісторыі, бо, напрыклад, творы сённяшняй нашай маладой змены гавораць аб значна ўзрослым майстэрстве ў параўнанні з маладнякоўскімі. І гэта натуральна, бо старт яе пачаўся са значна большага даробку іх папярэднікаў, бо яны прыходзяць у літаратуру не з саматужнымі ведамі, а набытымі ў ВНУ, Літаратурным інстытуце.

І агулам панарама сённяшняй літаратуры і асабліва паэзіі значна шырэйшая. Мне нават цяжка даць ёй сінтэтычны вобраз, бо і сам, як многія, не стараюся трымацца кананізаваных правіл і нейкага аднаго стылю ці напрамку. Бо верш — споведзь перад акружаючым нас светам, крок да разгадкі таямніцы жыцця. Як вядома, рыфмаваная еўрапейская паэзія стала рыфмаванай толькі ў сярэднявеччы, запазычыўшы гэту форму ад кітайскай і арабскай. І не думаю, каб яна вярнулася да першабытнай сваёй формы. Хутчэй за ўсё характэрным для сучаснай і заўтрашняй паэзіі будзе суіснаванне ўсіх форм — ад «Слова» да Пушкіна і Маякоўскага і далей. І таму ўсе спрэчкі: якая паэзія мае перавагу — не з'яўляюцца істотнымі, бо ўсё вырашае зарад думкі, а не нейкая эквілібрыстыка ці фармалісцкае шаманства. Ды дыктатура любой якой-небудзь формы можа задаволіць толькі графаманаў, бо не трэба нічога адкрываць і нічым рызыкаваць.

**Трэба сказаць, што старт нашай маладой змены пачаўся ў знамянальны час рэвалюцыйнай перабудовы і аднаўлення ленінскіх норм ва ўсіх сферах грамадства, эканамічнага і культурнага жыцця краіны. Усё гэта ў многім праясніла перспектывы нашага развіцця, але і ўсклала нямала абавязкаў на плечы літаратуры — гэта перадусім нармалізацыя становішча з беларускай мовай у рэспубліцы, з мовай, якая за гады розных валюнтарысцкіх эксперыментаў выпала з нармальнага кругазвароту жыцця, ужывання ва ўстановах, ВНУ, школах і што патрабуе — а ўжо сёе-тое і робіцца — неадкладных мер па спыненні гэтай небяспечнай эрозіі, якая пагражае не толькі нашай, але і ўсёй шматнацыянальнай савецкай культуры. Адным словам, вярнуцца да ленінскіх норм у вырашэнні нацыянальнай палітыкі, да ажыццяўлення пастаноў XXVII з'езда партыі аб спалучэнні нацыянальных інтарэсаў усіх народаў нашай Радзімы з братэрскай інтэрнацыянальнай дружбай.**

Ужо даўно стала аксіёмай тое, што няма на свеце мовы, якая б замяніла мову арыгінала мастацкага твора. Справа беларускай мовы, на вялікі жаль, да гэтага часу часцей спыняецца на канстатацыі гэтага сумнага факта, бо, як высветлілася на апошнім пасяджэнні калегіі Міністэрства народнай адукацыі, колькасць школ з беларускай мовай у гарадах не толькі не павялічылася ў параўнанні з мінулым годам, а з 32% зменшылася да 20,6% і гэта не зважаючы на ўсе пастановы і захады дырэктыўных органаў, каб выправіць ненармальнае становішча з беларускай мовай у рэспубліцы.

Лёс народа і мовы — непадзельны, незалежна ад таго, гэта вялікі ці малы народ. Нават мова самага малога народа — з'ява непаўторная. Недзе чытаў, што на мове эскімосаў існуе 18 назваў снегу, якія маюць семантычную афарбоўку і не паддаюцца перакладу на самыя багатыя мовы. Мой нарачанскі зямляк і даследчык Поўначы В. Казлоўскі ў адным са сваіх нарысаў у газеце «Новая Колыма» піша, што ў эвенкаў 37 станаў снегу, 30 адценняў поўсці аленя. Ёсць незлічоная колькасць непаўторных слоў, адценняў, колераў, пахаў у мове кожнага народа, якімі народ-словатворца няспынна папаўняе сваю зачараваную скарбніцу мовы.

**Толькі за гады нігілістычных адносін да беларускай мовы мы панеслі такія страты, што нават акадэмічныя слоўнікі не могуць іх уваскрасіць. І не дзіва, што сённяшняя мова, асабліва нашых газет, стала такой шэрай і беднай, калі нават і мы, пісьменнікі, у слоўнай рудзе сваіх твораў знаходзім усё менш самародных залацінак. Відаць, каб выправіць гэта незайздроснае становішча, трэба ўзяць пад штодзённы кантроль выкананне ўрадавых пастаноў. Калісьці дом, сям'я, асяроддзе былі незгасальнымі вогнішчамі мовы. Але ў нашы часы розных скразнякоў, міграцый, неспрыяльных бюракратычных устаноў адказнасць за стан мовы амаль цалкам кладзецца на плечы школы, мастацтва, літаратуры, ідэалогіі.**

**А найбольш дзейсным было б, каб беларуская мова заняла свой пачэсны дзяржаўны пасад.**

Ад гэтага руская мова дзякуючы гістарычным традыцыям і блізкасці не страціла б сваёй ганаровай пазіцыі як мова, на якой загаварыла Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, як мова міру і дружбы нашых братніх народаў.

Я невыпадкова спыняюся на пытанні мовы, а не на тым, як стаць паэтам, пісьменнікам. Для гэтага ў першую чаргу неабходна мова. Ад яе пачынаюцца дарогі да праўды, любові, прыгажосці — дарогі да людскіх сэрцаў.

Хораша аб прыгажосці і праўдзе сказаў вядомы польскі пісьменнік, былы вязень гітлераўскіх канцлагераў Тадэвуш Бароўскі: «Няма **прыгажосці,** калі на ёй ляжыць крыўда, няма **праўды,** каторая гэту крыўду абыходзіць, няма **дабра,** калі яно з тым пагаджаецца».

**Праца пісьменніка надзвычай складаная. Бо, акрамя таленту, мне здаецца, неабходна і біяграфія, якая б гаварыла аб сувязі пісьменніка з жыццём. І зразумела — няспынная вучоба. Бо ніхто не можа сказаць, што ён дасягнуў вяршыні, за якой няма другіх вяршынь і небасхілаў.**

**«Перад напісаннем першай кнігі, — гаварыў Г. Кант, — трэба паставіць перад сабой сто прачытаных кніг, а перад адным апісаннем чалавека павінна стаяць сто чалавек, якіх ты добра ведаеш».**

**І, відаць, не трэба спяшацца ставіць новыя помнікі і зносіць старыя, спяшацца караначаваць і асуджаць, бо гісторыя літаратуры і мастацтва гаворыць, што асуджаныя часта жывуць даўжэй, як іх суддзі. Ці ж не скідалі калісь з парахода сучаснасці Пушкіна, Дастаеўскага, Талстога і іншых, і з вышыні небаскробаў, якіх тады яшчэ ў нас не было, глядзелі на іх, як на дробязь. Падобнае было, як вядома, і ў нас у часы «Маладняка».**

Гаворачы аб выхаванні моладзі, мы часта забываем, што гэта звязана і з перавыхаваннем нас саміх, не ўлічваем патрабаванняў часу, які адрозніваецца ад таго, калі мы былі маладымі. А нам неабходна, каб не перарывалася сувязь паміж пакаленнямі, каб даражылі нашай нялёгкай, але слаўнай спадчынай.

На сустрэчы з кіраўнікамі творчых арганізацый М. С. Гарбачоў гаварыў аб неабходнасці кансалідацыі нашых сіл, умацаванні радоў партыі, аб тым, што пара канчаць з хлюпаннем і хунвэнбінаўшчынай, падбухторваннем, якія тармозяць перабудову. «Што, дом свой хочаце спаліць?» Неабходна заўсёды помніць пра свае класавыя пазіцыі, з якіх нас стараюцца збіць, і не заігрываць перад Захадам.

Адным словам: партыя і народ чакаюць ад работнікаў творчых арганізацый **новых твораў.** А для гэтага трэба, каб кожны з нас глыбока ўсвядоміў тыя задачы, якія стаяць перад намі, — аднаўленне ленінскіх прынцыпаў у нашым грамадстве, у развіцці сацыялізму.

Перабудова ідзе па ўсіх участках нашага жыцця.

Ужо на апошнім з'ездзе СП СССР закраналіся справы рэарганізацыі апарату і самога СП, выдавецтваў і г. д., да чаго мы не раз, напэўна, будзем вяртацца, бо справы гэтыя не такія простыя, як некаторым здавалася. Мы, напрыклад, ведаем, як павялічыць колькасць сваіх пасяджэнняў, у чым набылі немалую практыку. Але пакуль што не ведаем, як павялічыць колькасць харошых твораў і знізіць рост макулатуры. Хоць у свой час Л. Сабалеў кінуў крылатую фразу, што Савецкая ўлада дала пісьменніку неабмежаваныя правы, толькі адабрала ў яго права пісаць дрэнна.

Відаць, на гэта ў нас толькі адзін спосаб: быць на самых перадавых лініях жыцця народа, больш самааддана працаваць і ствараць усе ўмовы для росквіту новых талентаў. І гэта справа неадкладная, дзяржаўная, усенародная — неад'емная частка нашай духоўнай перабудовы, якая з'яўляецца працягам Вялікага Кастрычніка

# Лёс мовы, лёс народа

Максім ТАНК

* Артыкул напісаны на аснове выступлення на нядаўнім пленуме праўлення СП БССР.

# РОДНАСЦЬ ДУШ І ТАЛЕНТАЎ

**«Вітчизна» на старонках «Полымя»**

Сам факт з'яўлення на беларускай мове лепшых твораў украінскіх пісьменнікаў, аўтараў часопіса «Вітчизна», — яшчэ адно пацвярджэнне плённасці нашых творчых кантактаў і ўзаемасувязяў, якія дзякуючы Вялікаму Кастрычніку ўзняліся на сённяшнюю вышыню. Тое ж, што па-беларуску апублікаваны матэрыялы непрыглянцаваныя, вострыя, напісаныя ў духу часу ці такія, якія зместам сваім, вырашэннем тэмы гэты час прадчувалі ці нават наблізілі яго, таксама сведчанне важных працэсаў у жыцці грамадства, незваротнасці іх.

З болю — нясцерпнага, ад якога пакуль што, на жаль, няма лекаў — пачынаецца гэтая гаворка пра час і месца чалавека ў ім: нумар адкрываецца вершам Б. Алейніка «Дарогай на Чарнобыль» (пераклад Н. Гілевіча). Невыпадкова адкрываецца, бо «усім. Не тоячы ані крупіны, яна раскрувае быцця сувой: тым, што за ганьбу права жыць купілі, і тым… хто ганьбай род не спляміў свой».

Амаль адразу пасля гэтага верша друкуецца часопісны варыянт рамана У. Дразда «Спектакль» (у перакладзе і з прадмоўкай Я. Лецкі). Напісаны ў 1979—1984 гадах, раман упісваецца ў рэчышча праблем, на якія грамадства звяртае сёння ўвагу. Тым самым мастацкае слова пісьменніка быццам прадугадала час. Немалаважна і тое, што матывамі свабоднымі, выкрывальным пафасам «Спектакль» у нечым пераклікаецца (на гэтым акцэнтуе свае разважанні і Я. Лецка) з «Запіскамі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя. Яшчэ адно пацвярджэнне у карысць таго, наколькі жывучыя характары-тыпы, выпісаныя майстрамі. Многія праблемы, негатыўныя з'явы, да якіх звярталася літаратура яшчэ ў дваццатыя гады, па-ранейшаму даюць аб сабе знаць. Далёка зайшлі мы ў сваім «шапказакідальніцтве», рапартуючы аб усё новых і новых поспехах у сацыялістычным будаўніцтве і не заўважаючы (ці не жадаючы гэта рабіць), што тое, што рабілася ў краіне, у лепшым выпадку можна было ўспрымаць як сумную пародыю на ленінскі план пабудовы сацыялізму.

Апавяданне А. Ганчара «Удвух уначы» (пераклад А. Клышкі), напісанае ў 1963 годзе, тэматычна блізка «Маленькай балерыне» У. Караткевіча, што з'явілася, як вядома, значна раней. На гэты раз «бацька народаў» паказаны ва ўзаемадносінах з Аляксандрам Даўжэнкам, які асмельваўся і яму гаварыць праўду ў гэтым творы.

З 1962 года прыйшло да беларускага чытача апавяданне В. Шаўчука «Я вельмі хачу ўбачыць…» (пераклад А. Жука). Герой яго — адзін з тых, хто загінуў за рэвалюцыю і хто сёння, адтуль, з небыцця, спрабуе ўбачыць цяперашняе жыццё, зразумець, наколькі правы быў ён і яго паплечнікі ў змаганні за самае шчаслівае грамадства на зямлі. Зноў суровая проза жыцця і бязлітасная праўда.

Нумар разлічаны ў першую чаргу на чытача неабыякавага, на такога, які захоча адначасова даведацца пра шмат якія старонкі нашых кантактаў і ўзаемасувязяў, што пакуль яшчэ слаба асветлены. Маем на ўвазе прывабны воблік цудоўнага ўкраінскага пісьменніка М. Хвылявога, апавяданне якога «Кот у ботах» з уступным словам Т. Кабржыцкай нядаўна друкаваў «ЛіМ». Яна ж, Т. Кабржыцкая, у «Полымі» больш падрабязна гаворыць пра творчасць М. Хвылявога і пра стаўленне да ўкраінскага пісьменніка Ц. Гартнага. «Урывак з аўтабіяграфіі», «Сіні лістапад» (пераклад У. Рагойшы) — маленькая частачка спадчыны пісьменніка, але частачка важкая, якая дазваляе не толькі ацаніць ва ўсёй паўнаце значнасць мастакоўскіх набыткаў М. Хвылявога, але, зноў жа, адчуць, наколькі і яго апавяданні сугучны творам беларускіх пісьменнікаў. І не толькі Ц. Гартнага (невыпадкова іх абодвух Т. Кабржыцкая называе «двума камунарамі»), а і, скажам, апавяданням таго ж А. Мрыя «Камандзір» і «Калектыў Яўмена».

Чытаючы артыкул В. Рагойшы «Вяртанне метэора» пра паэта Грыцька Чупрынку—з радасцю зазначаеш, што з ім «падтрымліваў сяброўскія адносіны Сяргей Палуян», і верыш В. Рагойшу, калі ён робіць такі інтуітыўны вывад: «Ёсць падставы меркаваць, што менавіта С. Палуян пазнаёміў з Г. Чупрынкам Янку Купалу і Максіма Багдановіча — сваіх блізкіх таварышаў, паплечнікаў на ніве нацыянальнага адраджэння».

Лёсы, знявечаныя абставінамі… Як не ўспомніць тут В. Сіманенку. Цяжкая, невылечная хвароба і толькі дваццаць восем пражытых гадоў… Сёння паэзія В. Сіманенкі, народжаная ў адлежныя гады, нанава вяртаецца да чытача. Перакладчык яго твораў С. Законнікаў не без падстаў на тое называе В. Сіманенку «народным сумленнем ва ўкраінскай савецкай літаратуры». Увазе чытача прапануюцца тыя з вершаў В. Сіманенкі, якія ўпершыню апублікаваны на Украіне толькі летась.

Ёсць у нумары таксама паэзія І. Драча, Д. Паўлычкі, Л. Кастэнкі, Р. Лубкіўскага, П. Скунця, У. Сасюры і іншых у перакладах В. Жуковіча, К. Цвіркі, В. Коўтун, С. Законнікава, Н. Гілевіча, В. Рагойшы; артыкул У. Вярнадскага «Украінскае пытанне і расійская грамадскасць»; рэцэнзія А. Вольскага на кнігу лірыкі Д. Паўлычкі «Таямніца вобліку твайго», выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Матэрыялы значныя, багатыя на змест і цікавыя тым, што запрашаюць да роздуму.

…У загаловак гэтага водгуку вынесены радкі з артыкула В. Рагойшы «Лісты Уладзіміра Караткевіча да Рамана Іванычука». Аўтар паведамляе, што У. Караткевіч, «пазнаёміўшыся з Раманам Іванычуком, знайшоў магчымасць пабываць у яго ў Львове, яшчэ больш адчуць роднасць душ і талентаў». Гэтую роднасць душ і талентаў адчуваеш, калі знаёмішся з «украінскім» нумарам «Полымя».

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

**Маладая літаратура, дакладней, маладыя ў літаратуры. Увага да іх. Хапае яе ці не хапае! Калі меркаваць па нашых часопісах і газетах, па тым, што ў іх амаль адсутнічае размова пра творы маладых, то не хапае. Трэба, аднак, удакладніць, якая размова!**

Таіса ГРАМАДЧАНКА

# НАРМАЛЬНЫЯ ПОШУКІ НОВАГА

Выходзіць зборнік — як правіла, з'яўляецца рэцэнзія на яго. Не як правіла, а як выключэнне, але з'яўляюцца водгукі на першыя публікацыі. Так было, скажам, з апавяданнем М. Філіповіч «Мадонна з Выселкаў». Яго назваў у ліку лепшых у колішнім аглядным артыкуле Г. Шупенька. Бадай, адразу былі заўважаны творы Х. Лялько, У. Ягоўдзіка, У. Арлова, І. Жарнасек, спрэчкі выклікалі першыя апавяданні А. Глобуса. Аднак заўважыць, назваць прозвішча ці творы яшчэ мала. Як і недастаткова абмеркаваць творчасць таго ці іншага кандыдата ў члены Саюза пісьменнікаў. Трэба прызнаць, што як і шмат што іншае ў нашым жыцці, клопат пра маладых, пра літаратурную змену праяўляецца пераважна метадам кампаній. Традыцыйнымі з'яўляюцца хіба нарады ў колішніх Каралішчавічах, а цяпер у новым доме творчасці. Аднак ці няма і тут ад усё той жа кампаніі? Мяне моцна закранула горкае прызнанне Г. Каржанеўскай у нядаўнім «ЛіМе»: «Я не запомніла яго імя». Імя маладога ўдзельніка колішняй нарады, у якога былі добрыя вершы... Я — гэта мы ўсе, каму хоць крышку дарагая родная літаратура і культура. Колькі іх, маладых парасткаў, з якіх штосьці прыстойнае можа вырасці, некуды бясследна знікае! Натуральны адбор? Але гэты адбор можа дзейнічаць як ва ўмовах змрочнай восені, так і ва ўмовах цёплай вясны. І вынікі будуць розныя. А вясну ці восень мы ствараем у многім самі.

Маладыя ўключаюцца ў літаратуру, у літаратурны працэс, займаюць у ім пэўнае месца. І вось пра гэта гаворка ў нас ідзе рэдка. Хто павінен весці такую гаворку? Безумоўна, крытыкі, але, безумоўна, і пісьменнікі, кожны па-свойму. Мала, думаецца, карысці маладым ад такіх дыскусій, якія распачала была ў мінулым годзе «Литературная газета», аднак мы і таго не мелі і не маем, нам нібыта няма пра што дыскутаваць.

Калі рыхтавалася да выступлення на пленуме, узнікла «крамольная» думка: не ўтварыся з гвалтам і грукатам літсуполка «Тутэйшыя», не вазьмі на сябе місію адваката маладых «адмоўны» крытык, як ён сам сябе назваў, А. Сідарэвіч, ці выйшаў бы пленум праўлення на абмеркаванне літаратурнага працэсу і маладога пісьменніка ў ім? Не ўпэўнена.

Самае агульнае ўражанне ад твораў тых, хто сёння ўваходзіць у літаратуру, — яны іншыя, чым былі некалі першыя творы І. Навуменкі, І. Шамякіна, ці І. Пташнікава, А. Кудраўца, ці В. Казько, В. Гігевіча, А. Жука, ці нават Х. Лялько, У. Ягоўдзіка, У. Арлова. Прычыну гэтай «іншасці» бачу не толькі ў розным жыццёвым вопыце ці розных умовах жыцця. Тут усё было б зразумела. Іншае бачу ў свядомым жаданні многіх маладых пераадолець нацыянальную традыцыю, пісаць не так, як пісалі папярэднікі. У творах, можна сказаць, адсутнічае тая ўвага да чалавека, да яго адчуванняў і перажыванняў, да яго радасцяў і бедаў, што былі, скажам, у ранніх творах В. Адамчыка, І. Чыгрынава ці каго яшчэ з пісьменнікаў.

Найперш у гэтым плане кідаюцца ў вочы творы А. Глобуса, хоць можна гаварыць і пра творы У. Сцяпана, У. Сіўчыкава, М. Клімковіча. Вось апавяданне А. Глобуса «А ты не смейся». Дыялог двух, знаёмых паміж сабой людзей, адзін з якіх з выразным парушэннем псіхікі з-за здрады жонкі. Ён сек сабе пальцы на руцэ, вые па начах у пустой кватэры. Аднак субяседніка Збысевы пакуты не кранаюць: «Такія людзі, як Збысь, спачатку выклікаюць спачуванне, а потым непрыязнасць...

Маўчу. Не ведаю, што казаць. Ці патрэбны тут словы. Збысь шукае падтрымкі. А чым я магу дапамагчы? Свaйі бяды хапае, магу пазычыць. Хто ён для мяне? Сябрамі мы не былі, так, знаёмыя. Ён гаворыць пра забойства. Паказвае скалечаную руку. Нарэшце даходзіць, што і я павінен гаварыць хоць што, толькі не маўчаць.

— Як жа гэта ты? — спачування не атрымліваецца ні на каліва».

У гэтым творы А. Глобуса, як і ў іншых, можна ўбачыць страшныя выявы нашага часу: адчужанасць паміж людзьмі, адмежаванасць, абыякавасць і глухую, нават варожую адасобленасць ад свету. А яшчэ — усведамленне ўласнай вышэйшасці (маецца на ўвазе, безумоўна, усведамленне героя твора). Гавару — можна ўбачыць, бо для гэтага трэба ўсё ж прыкласці сякія-такія намаганні. Па-першае, паверыць аўтару, што збедненасць, прымітыўнасць унутранага свету герояў свядомыя, што гэта прыём, а не звычайнае няўменне паказаць чалавека па-іншаму. А па-другое, быць самому з неатрафіраванымі пачуццямі жалю і смутку, каб хоць крыху сагрэць герояў, бо ў іх душах арктычны холад.

Вучоныя сцвярджаюць, што ў творах мастацтва, увогуле ў прадметах, з'явах павінен быць пэўны працэнт старога, звыклага, і новага, нязвыклага. Толькі тады гэты твор (прадмет, з'ява) успрымаецца. Калі працэнт зрушаны ў той ці іншы бок, узнікае непрыняцце і непаразуменне. Магчыма, з творамі некаторых нашых маладых, у прыватнасці А. Глобуса, якраз такі выпадак. Бо нельга папракнуць аўтара, што ён будуе свае творы няўмела ці неахайна, што ў іх адсутнічае думка, не вымалёўваюцца характары... Але чаму пры чытанні твораў немагчыма пазбавіцца ад нейкай нежыццёвай халоднасці герояў? Чаму ў іх няма болю за чалавека, — грэшнага і недасканалага, слабага і неразумнага?

Крытыка ўжо пэўным чынам выказалася адносна чытача гэтых твораў. Маю на ўвазе выступленне Я. Лецкі на нядаўнім пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, на якім ішла гаворка пра часопіс «Крыніца». Я. Лецка адзначыў, што «проза ў часопісе не традыцыйная, а мадэрновая, што, відаць, якраз і адпавядае сённяшняму маладому чытачу». Варта нагадаць, што ў «Крыніцы» друкаваліся пераважна творы маладых аўтараў: А. Глобуса, А. Асташонка, М. Шайбака, А. Наварыча, М. Клімковіча, А. Казлова. Дык што, узнікае пытанне, будучыня нашай прозы вось за такой, за мадэрновай літаратурай? Бо калі малады чалавек захапляецца ёю сёння, то наўрад ці заўтра, пасталеўшы, ён вернецца да Талстога і Чэхава, не кажучы ўжо пра Чорнага і Гарэцкага, — гэта прарокі ў сваёй айчыне, а іх, па вядомай прымаўцы, няма. Што тады ўвогуле рабіць з традыцыйнай літаратурай? Пэўна, таксама давядзецца агітаваць за яе як агітуем сёння за родную мову?

Сёння ў нашай літаратуры адбываюцца нармальныя пошукі новага. Яны, магчыма, толькі больш рашучыя, смелыя і шумныя, чаму спрыяе час. Акрэсліліся два кірункі гэтых пошукаў. Дык навошта, убачыўшы на палетках роднай літаратуры экзатычны кактус, запэўніваць сябе і іншых, што ён — тое адзінае, што павінна ў нас быць, і не заўважаць побач спрадвечную валошку? Падобнае назіраецца сярод маладых крытыкаў у падыходзе да традыцыйнай і нетрадыцыйнай літаратуры. Поспехам традыцыйнай быццам ужо і не радуюцца, ледзь не саромеюцца іх. Сярод «герояў» мінулагодняга маскоўскага абмеркавання маладой беларускай прозы не было У. Арлова, хоць ён паехаў у Маскву, маючы не толькі зборнік «Добры дзень, мая шыпшына», але і апавяданні «Місія папскага нунцыя», «Маўклівы маналог» і іншыя, якія засведчылі імклівы рост маладога празаіка. У асобе У. Арлова беларуская літаратура можа набыць пісьменніка, здольнага не толькі данесці да чытача невядомую інфармацыю. г. зн. пазнаёміць з роднай гісторыяй, але асэнсаваць пройдзены народам шлях, гожа працягнуць справу, распачатую У. Караткевічам. Арлову ж параілі не пісаць на гістарычную тэму, шукаць у кірунку, якім ішоў у асобных апавяданнях першага зборніка («Ліфт», «Зялёная Чара»). Збоку, аказваецца, не заўсёды бачна лепш. Аднак там былі і свае крытыкі! І, пэўна, найперш дзякуючы ім наша маладая проза, прынамсі, самае цікавае ў ёй, звязвалася толькі з прозвішчамі А. Глобуса, А. Асташонка, У. Сцяпана, так званых нетрадыцыяналістаў.

Неразумна адмаўляць шлях, абраны гэтымі пісьменнікамі. Ён мае такое ж права на існаванне, як і ўсе астатнія ў літаратуры. Аднак, перш чым абвясціць яго магістральным, мо варта паглядзець, ці сказала мадэрновая літаратура, карыстаючыся выразам Я. Лецкі, нешта такое пра чалавека і свет, чаго не здолела сказаць літаратура традыцыйная? Ка-

У аснову артыкула пакладзена выступленне на апошнім пленуме праўлення СП БССР.
Ганарар аўтар просіць перавесці на рахунак 700412 у фонд дапамогі пацярпеўшым ад землетрасення ў Арменіі.

# ЖЫЦЦЁ, КНІГІ І ДРУЖБА



Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву споўнілася шэсцьдзесят гадоў, а яшчэ, здаецца, зусім нядаўна мы ў добрым сяброўскім коле ды старым звычаем адзначалі яго першы юбілей — тады гэтаму абаяльнаму чалавеку было ўсяго, як звычайна гавораць у такім выпадку, пяцьдзесят. Але адразу ж варта сказаць тут і вось пра што: цяпер, у свае шэсцьдзесят, ён гэтакі ж няўрымслівы, што і дзесяць гадоў назад, а галоўнае — усё яшчэ бескампрамісны ў сваіх ацэнках літаратурных і грамадскіх з'яў.

Помніцца ён і зусім малады, калі ішоў у свой час у шэрагу тых літаратурных крытыкаў, якія ўзялі на сябе смеласць сказаць на ўвесь голас, што ёсць што ў паэзіі, у прозе, у драматургіі і хто ёсць хто наогул у нашай літаратуры. За доўгія гады, бадай, упершыню якраз пад уздзеяннем «асветных ідэй», калі можна сказаць так, гэтых крытыкаў мастацкія творы пачалі ўспрымацца ва ўяўленні шматлікіх чытачоў альбо як сапраўды мастацкія творы, альбо як творы шэрыя, пасрэдныя. Адбыўся такі працэс, вядома, не без супраціўлення. Было тады шмат і енку, і непаразуменняў, і нават помсты. Можна было б сёння нават назваць тых, хто арганізоўваў у газетах пісьмы, а ў часопісах дыскусіі, аднак усё-ткі хутчэй прыходзяць на памяць іншыя імёны, тым больш, што далейшая наша літаратурна-крытычная практыка, асабліва ў апошнія гады, аднавіла ранейшую невыразнасць у ацэнках — якраз з таго шэрагу, у якім стаяў Бугаёў, — гэта і У. Юрэвіч, і Р. Шкраба, і У. Калеснік, Н. Пашкевіч, А. Адамовіч, В. Каваленка, А. Лойка, Ю. Канэ, М. Стральцоў, В. Бечык...

Пісьменніку звычайна цяжка пісаць пра тых, хто ўвесь час апекаваўся і апякуецца яго творчасцю. Прызнацца, мне таксама. У маім жыцці быў адзіны момант, калі Дзмітрый Якаўлевіч моцна падтрымаў мяне; здагадваўся я і пра тое, як даставалася яму пасля за гэта... Але сёння тое, даўняе, няйначай, можна лічыць ужо за адзін з накладных выдаткаў літаратурнага жыцця, якое нават у самыя добрыя часы мала калі вызначалася справядлівасцю; прынамсі, не толькі наша, але, бадай, ніякая іншая літаратура не можа засцерагчыся ад гэтага. І адбываецца такое не таму, што ў літаратуры страсці таксама вызначаюцца адвечнай сваёй уласцівасцю — разгарацца і затухаць. Відаць, пэўную ролю тут адыгрываюць, мякка кажучы, так званыя калялітаратурныя акалічнасці. Так, менавіта калялітаратурныя, дарма што іншы раз выдаюць іх за высокую прынцыповасць.

Ды я зноў пачну тым часам пра тыя гады, калі сапраўды навідавоку адбывалася размежаванне і ў літаратуры, і самой літаратуры. Маё пакаленне празаікаў і паэтаў знаходзілася пад вельмі моцным уплывам такіх крытыкаў, як Дзмітрый Бугаёў. Дакладней, у сілавым полі іх дзейнасці. Многа і не толькі добрага можна было б сказаць пра той час, але адно бясспрэчна — і пра гэта ўжо мне даводзілася гаварыць, — тая наша літаратура з асаблівай, упартай і нейкай цяжкай сілай гаварыла пра самае глыбокае ў чалавеку; якраз вось гэтае — адкрываць у чалавеку самае глыбокае — і склала тады галоўны пафас часу, выявіла яго духоўную атмасферу.

Бугаёў шмат працаваў гады, шмат працуе ён і цяпер. І ўсё з той жа адказнасцю і адданасцю. І ў юбілей, відаць, не абысціся без пералічэння ягонага набытку. Зрабіць гэта можна нават паводле энцыклапедыі: «Друкуецца з 1957 г. Аўтар кніг пра творчасць М. Лынькова («Шчодрае сэрца пісьменніка», 1963), М. Танка («Паэзія Максіма Танка», 1964), У. Дубоўкі («Уладзімір Дубоўка», 1965), М. Гарэцкага («Максім Гарэцкі», 1968), К. Крапівы («Зброяй сатыры, зброяй праўды», 1971), І. Мележа («Вернасць прызванню. Творчая індывідуальнасць Івана Мележа», 1977). Працы Бугаёва вызначаюцца ўвагай да фактаў грамадскага і творчага жыцця пісьменнікаў, аргументаванасцю вывадаў. Выступае ў друку па праблемах сучаснага літаратурнага працэсу, мастацкага майстэрства, стылю (зборнік артыкулаў «Шматграннасць», 1970). Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (т. 1-2, 1965—1966) і «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1981).

Але энцыклапедыя не была б энцыклапедыяй, каб не адставала ад паступовага руху наперад. Тым часам, як яна стваралася ды выходзіла з друку, Дзмітрый Якаўлевіч выдаў кнігі «Чалавечнасць», «Васіль Быкаў. Нарыс жыцця і творчасці». За кнігу артыкулаў «Талент і праца» яму была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа. Зрэшты, назвы кніг, лічбы і даты, не іначай, будуць прыгаданы і ў юбілейным адрасе Саюза пісьменнікаў БССР. Але мне хацелася таксама ўспомніць пра іх, каб такім вось чынам пацвердзіць яшчэ адну добрую якасць Бугаёва, — яго вялікую працавітасць.

У нас мала хто з пісьменнікаў, у тым ліку і крытыкаў, акрамя, вядома, маладзейшых ды самых маладых, не надрукаваў свайго жыццяпісу ў тых трох тамах аўтабіяграфій, што выйшлі ўжо; аўтабіяграфіі Бугаёва няма ў іх, здаецца, не будзе яе і ў чацвёртым томе, што збіраўся гэтыя гады ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». А я шмат ездзіў з Дзмітрыем Якаўлевічам, многа гаварыў — размоўшчык ён цікавы і шчодры; словам, давялося ў жыцці нам нямала пабыць адзін на адзін. Таму хацелася б што-кольвек згадаць з таго перагаворанага, асабліва, што датычыць ягонага асабістага жыцця, пра якое ён усё яшчэ ніяк не збярэцца сам расказаць.

Помню, як мы вярталіся ўзімку з Дзмітрыем Якаўлевічам з Мсціслава, калі ездзілі на ўгодкі Максіма Гарэцкага. Насупроць вёскі Асавец, за якой чыгуначная станцыя з такой жа назвай, Дзмітрый Якаўлевіч папрасіў спыніцца. Вылезлі з машыны. Якраз заходзіла сонца. Яно стаяла з правага боку ад нас. І вось Дзмітрый Якаўлевіч паказвае трохі лявей: «Там мая вёска, Сычык». — «То, можа, заедзем?» — «Другім разам». Што ж, другім дык другім. Але і другім разам, калі здарыўся выпадак, ён таксама не схацеў заглянуць туды. Праехалі міма. Тым не менш, я сам наведаўся ў Сычык. Гэта было пазней, улетку. Я тады «збіраў матэрыял» пра Васіля Вашчылу. Ужо ведаў, што правадыр Крычаўскага паўстання, — з Лобжы, якая ў Клімавіцкім раёне. А з Лобжы да Сычыка — усяго, здаецца, пятнаццаць кіламетраў, не болей. Дай, рашыў, з'езджу. Думаў, гэта маленькая вёсачка, ну, з тых, неперспектыўных, што пакутуюць і цяпер яшчэ на нашай зямлі. Дык не. Вёска як вёска. Цэнтр калгаса. Вядома, не стрымаўся я, каб не пацікавіцца ў тамтэйшых людзей. Але, як гэта цяпер бывае, даўніх жыхароў у Сычыку таксама не багата. І ўсё-такі адна старая на маё запытанне сказала: «А-а-а, ета Гапчын Міцька. Дык яны жылі вунь тама!..»

Цяпер гэта толькі месца, дзе «яны жылі». Вялікая сям'я Бугаёвых таксама раз'ехалася «па ўсім свеце...»

Дзмітрый Якаўлевіч расказаў, як аднаго разу, здаецца, у трыццаць шостым годзе, прачнуўся ўранні і ўпершыню свядома ўбачыў бацьку. Той толькі што вярнуўся з турмы, куды трапіў на пачатку калектывізацыі. Якаў Якімавіч быў конюхам у калгасе, і хтосьці данёс у ДПУ, што ён нібыта насыпае на стайні ў карыта свайму каню больш аўса і кладзе ў яслі больш сена, чым іншым!.. А «свой» конь і «іншыя» коні былі ўжо калгасныя!.. Зразумеўшы з дапамогай маці, што гэта нарэшце вярнуўся з турмы ягоны бацька, малы хлопчык раптам кінуўся ад неспадзяванай радасці ў скокі, прыпяваючы: «Цяпер і ў нас ёсць бацька, цяпер і мы не без бацькі!» Толькі не дужа доўга панавала ў іхняй хаце радасць. У трыццаць сёмым Якава Якімавіча зноў арыштавалі. Цяпер ужо невядома з якой прычыны. Дамоў ён больш не вярнуўся...

З расказаў Дзмітрыя Якаўлевіча ведаю я і пра тое, як хадзіў ён тады з Сычыка, за тры кіламетры, у Губішчанскую школу. Стаяла яна на высокім

лі не сказала, то ў чым яе перавагі?

І яшчэ адно. Горача вітаючы адкрывальнікаў новай формы і новага зместу, будзе не лішне час ад часу ставіць пытанне: а наколькі яны новыя? Спроба прышчапіць на роднай глебе штосьці ад «новага рамана» ці якога іншага накірунку заходнееўрапейскай літаратуры наўрад ці раўназначна самастойна знойдзенаму. А можа, не спатрэбіцца і ісці далёка ад уласнага парога? Штосьці з «адкрытага» сёння маладымі мы, магчыма, убачым у традыцыяналістаў-папярэднікаў, калі ўважлівей прыглядзімся, напрыклад, да літаратуры 20 — пачатку 30-х гадоў? Былі ў ёй, варта нагадаць, і перыяды нігілізму, адмаўлення традыцыйнага, «старога».

Сённяшнім маладым у многім можна па-добраму пазайздросціць. Ці маглі пачаткоўцы ў папярэднія гады выйсці да чытача з такімі творамі, як выйшлі, напрыклад, А. Наварыч, А. Федарэнка? Маю на ўвазе апавяданні, змешчаныя ў калектыўнай кнізе прозы «Жнівеньскі праспект». Да гонару колішніх маладых (не ўсіх, вядома), яны імкнуліся, спрабавалі, ды, як гаворыцца, часцей за ўсё намер так і заставаўся намерам. Так здарылася з аповесцю В. Хамчук.

Дзіўныя рэчы часам назіраюцца ў літаратуры. Раней творы не маглі з'явіцца, бо тэма была забаронена. Цяпер яны не з'яўляюцца, бо гэта тэма лічыцца ўжо ледзь не кан'юнктурнай. Пісаць пра п'янства сёння, калі вядзецца з ім кампанія па барацьбе, неяк быццам і несур'ёзна. Толькі, думаецца, кан'юнктурным можа быць падыход да тэмы, а не яна сама, у чым яшчэ раз пераконвае апавяданне А. Наварыча «Азм адпомшчанне уздам».

У многіх з нас, дзяцей вёскі, адклалася ў памяці такая карціна: «Вось наша самая ўтульная на свеце кухенька, родная кухенька дзяцінства: печ, услон і лава, стол і шафка, а за сталом, пакрытым парэзанай цыратай, амаль у покуце, пад абразом Трохручыцы — заўсёдняя бочка брагі». Ну, можа, не заўсёдняя, але не такая і рэдкая госця. І ў многіх з нас тады ды і пасля такая карціна выклікала трывогу? Гэта было сапраўды, як паказвае малады аўтар, нешта настолькі звыклае, бы абраз на покуце, бы самаробныя зэдлікі і сталы, бы дзень і ноч. Толькі сёння большасць з нас усвядомілі, як спакваля, незразумела лёгка абжывалася ў нашых хатах страшная бяда.

Творы А. Наварыча, думаецца, вельмі прыкметная і шматабяцаючая з'ява ў маладой прозе. У гэтага аўтара — натуральная, багатая мова, ёсць думка, ёсць складаны, супярэчлівы чалавек, ёсць жыццё, жывое не алітаратуранае.

У спрыяльны час уваходзяць у літаратуру сённяшнія маладыя. Час, калі «праўда стала Праўдай сапраўды» (радок з паэмы С. Грахоўскага). Безумоўна, жыццё не стала менш складаным і менш драматычным, ды і ці можа яно ўвогуле быць просценькім і лёгкім? Як сведчыць сітуацыя ў нашай літаратуры, распрыгоньванне чалавечага духу, адмаўленне ад рэгламентаванай нарміраванай праўды не нараджае аўтаматычна высокамастацкія творы. Чытаючы сённяшнюю перыёдыку, не-не ды і ўзнікне думка: «А ці не была наша літаратура больш смелай у папярэднія гады?». І запэўніваеш сябе, што пішуцца, пішуцца «вострыя» творы, што яны на падыходзе. Урэшце, не «вострыя», бо проста крыкнуць пра нешта цяжкое і трагічнае, што было ці ёсць, для сённяшняга часу ўжо замала. Патрэбны аналіз, мастакоўскае асэнсаванне і даследаванне, тое, што не пад сілу публіцыстыцы. Мы ж пераважна кіпім, бурлім, сыходзім парай. Магчыма, без гэтага «пераходнага» этапу ў адраджэнні не абыдзешся, тут дзейнічае свая заканамернасць. Але каб не заціхла ўсё, не закончылася на ім. Каб у сваёй пераважнай большасці мы аказаліся здольнымі на вялікае, без чаго народ не становіцца нацыяй, а інтэлігенцыя не можа прэтэндаваць на духоўнае павадырства. Мы — гэта зноў усе: пісьменнікі, крытыкі, вучоныя, артысты, мастакі... І сталыя, і маладыя.

---

узгорку, пасярод былога панскага саду, які яшчэ быў моцны: грушава-яблыневы. З таго ўзгорка далёка быў відаць Волчас — рака дзяцінства. Вучыўся Дзмітрый Якаўлевіч у гэтай школе і ў час нямецкай акупацыі, але ўсяго адну зіму — большыя хлопцы, седзячы ў класе на задніх партах, прайгралі ўсю тую вучобу ў карты. Ды і не была ім залічана яна: у сорак чацвёртым годзе, пасля вызвалення, давялося зноў ісці ў пяты клас. І як адно з самых вялікіх уражанняў таго часу — савецкія лістоўкі аб перамозе пад Сталінградам, за якія паліцаі гразіліся «задаць» школьнікам (а тыя збіралі іх па шаране ў полі) шампалоў.

Я і сам з акупацыі багата што вынес, дарма што быў па тым часе значна меншы; можа, таму заўсёды з цікавасцю слухаю таксама чужыя згадкі... Прыход Чырвонай Арміі Гапчыны дзеці сустрэлі ў лесе, за вёскай, а перад тым бачылі, як гарэла, нібыта свечка, іхняя хата. Дзмітрый Якаўлевіч так і запомніў: «нібыта свечка». І яшчэ ён сцвярджае, што «было цікава глядзець, калі гарэла хата».

**Зрэшты, усяго не перакажаш. І пачаў я прыводзіць тут запісы з расказаў Дзмітрыя Якаўлевіча хутчэй за ўсё таму, што сам ён яшчэ не падступаўся з пяром да іх.**

**Пасля вучобы ў педвучылішчы Дзмітрый Якаўлевіч настаўнічаў на Палессі. Пасля зноў вучыўся ў Магілёве, ужо ў педагагічным інстытуце. Аспірантуру канчаў у Мінску, пры інстытуце імя А. М. Горкага. Затым працаваў выкладчыкам у Мазыры.**

**Словам, як бачыце, чалавек прайшоў ужо вялікую частку свайго жыцця, але пражыў плённа, бо не толькі жыў, а і багата працаваў — цяпер ён аўтар шматлікіх кніжак, прафесар (праўда, сам жартуе — «халодны») і двойчы дзед.**

**Помню, як добра ставіўся да яго Мележ. З пісьменнікаў я апошні размаўляў з Іванам Паўлавічам, калі той канаў у бальніцы на Чырвонаармейскай. Мы тады шмат гаварылі з ім пра жыццё, пра літаратуру. Яму цяжка гэта давалася. Аднак мяне ён не хацеў адпускаць ад сябе. Адпачне, а пасля зноў пачне... Дык Мележ той раз часта згадваў Бугаёва. У дзевятым томе Збору твораў у яго ёсць такі запіс на 334-ай старонцы: «За апошнія дні парадавала па-сапраўднаму адно: артыкулы (цэлых тры) — вялікая работа пра маю творчасць Д. Бугаёва. Даўно не чытаў пра творчасць такога добрага і, галоўнае, талковага слова. Здаецца, я недарэмна жыў і пакутаваў у літаратуры».**

**Гэта ўсё праўда ў Мележа — і пра артыкулы Бугаёва, і пра ўласныя пакуты ў літаратуры.**

**Словамі Мележа можна было б і скончыць своеасаблівае эсэ (прашу прабачыць за вольнае абыходжанне з жанрам) пра аднаго з лепшых нашых літаратурных крытыкаў, але вось гартаю запісы, а ўсё карціць нешта дадаць яшчэ. Дык тады хіба вось гэта? Дзмітрый Якаўлевіч неяк расказваў: «Калі забіралі другі раз бацьку ў турму, па яго хадзіў у лес — там бацька зноў пасвіў калгасныя коні — наш сусед; той і прывёў яго, нічога не сказаўшы пра небяспеку, у вёску, каб здаць міліцыянерам; а многа пазней, ужо ў вайну, маці наша ўзяла таго суседа хросным для меншага брата; і я ніколі не разумеў учынка яе; так і цяпер я не ведаю, чым кіравалася яна тады, а спытаць, пакуль была жывая, не адважыўся».**

**Што ж, Дзмітрый Якаўлевіч, можа, і добра ты зрабіў, што не спытаў: у нашых маці былі ў грудзях вялікія сэрцы, у якіх месціўся свет з усім людскім!**

**Іван ЧЫГРЫНАЎ.**

---

**Віншуем!**

**12 студзеня споўнілася 70 гадоў вядомаму пісьменніку Васілю ХОМЧАНКУ. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем добрага здароўя, новых кніг.**

**Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць Васілю Фёдаравічу, свайму даўняму і актыўнаму аўтару, вострыя і злабадзённыя публікацыі якога выклікаюць жывую цікавасць у нашых чытачоў, — усяго самага добрага ў жыцці, творчага плёну.**

---

*Працяг тэмы*

**Барыс САЧАНКА**

# «А суд гісторыі цяжкі!»

У СЯРЭДЗІНЕ мінулага года на старонках «Літаратуры і мастацтва» былі надрукаваны мае эсэ-даследаванні — «Бэндэ» (30-я ў абліччах і дакументах) і «Сняцца сны аб Беларусі» (Загадка смерці Янкі Купалы). Мяркуючы па водгуках, рэакцыя чытачоў на іх была адназначная: дзякуй богу, што можна, нарэшце, не баючыся пісаць пра тое, пра што столькі гадоў маўчалі, а калі і гаварылі, дык часцей за ўсё няпраўду. Прызнацца, у час працы над гэтымі матэрыяламі асабіста ў мяне не было ўпэўненасці, што яны пабачаць свет. Тым не менш, я працаваў, працаваў захоплена, спяшаючыся: баяўся — раптам нешта зменіцца ў нашым грамадскім жыцці, зноў вернецца ранейшае і я не паспею сказаць таго, што хочацца сказаць. Тады якраз ішла падрыхтоўка да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, і хто мог наперад ведаць, якія рашэнні яна прыме. Канферэнцыя пацвердзіла курс краіны на дэмакратызацыю, на галоснасць, прыняла рашэнні, якія замацавалі многае з ужо дасягнутага. І дзякуючы гэтаму, дэмакратызацыя, галоснасць пайшлі ўглыб. Былі надрукаваны не толькі мае эсэ-даследаванні, а дзесяткі, сотні іншых, куды больш смелых, бескампрамісных, з багатай фактычнай асновай, якія выкрываюць сталінізм як з'яву. Злачынствы Сталіна і яго акружэння перад партыяй і народам сёння ўжо вядомы ўсім. Пашырылася ўяўленне і пра многае, што рабілася ў Беларусі ў тыя нялёгкія для рэспублікі гады, асабліва ў апагей разгулу рэпрэсій і бяспраўя — 1937 год.

Тады ў Мінск прыехалі для выкрыцця «антысавецкага падполля» Малянкоў і Якаўлеў, быў скліканы пленум ЦК КП(б)Б, які прыняў рашэнне, дзе ў адным з пунктаў гаварылася: «Прапанаваць усім партыйным арганізацыям:

а) хуткую і рашучую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва польскіх шпіёнаў Галадзеда, Шаранговіча, Бенека, Чарвякова і іншых шкоднікаў і дыверсантаў...»

Пацярпелі ні ў чым невінаватыя дзесяткі, сотні тысяч людзей...

Цяжкія страты былі нанесены беларускай літаратуры, культуры і навуцы. Дастаткова сказаць, што дваццаці аднаму з арыштаваных у той год пісьменнікаў была вынесена вышэйшая мера пакарання. Вось іх імёны: Анатоль Вольны (Ажгірэй), Якаў Бранштэйн, Уладзіслаў Галубок, Платон Галавач, Анатоль Дзяркач (Зіміёнка), Алесь Дудар (Дайлідовіч), Майсей Кульбак, Міхась Зарэцкі (Касянкоў), Васіль Каваль (Кавалёў), Тодар Кляшторны, Дзмітрый Курдзін, Валерый Маракоў, Янка Нёманскі (Пятровіч), Зяма Півавараў, Міхайла Піятуховіч, Алесь Салагуб, Васіль Сташэўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Уладзімір Хадыка, Ізі Харык, Юрка Лявонны (Юркевіч)...

Ці былі выкананы прысуды? Паводле тых звестак, што надрукаваны ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», у даведніках Саюза пісьменнікаў БССР даты смерці многіх з названых таварышаў стаяць іншыя, не трыццаць сёмы год. Але ці можна гэтым датам верыць? Пракурор Беларускай ССР Г. С. Тарнаўскі ў сваім інтэрв'ю для БЕЛТА расказаў, як мужна паводзіў сябе на допытах паэт Валерый Маракоў,— ён так і не прызнаў за сабой ніякай віны, заявіў на судзе, што выстаўленыя супраць яго абвінавачванні з'яўляюцца «прымітыўнай хлуснёй». Валерый Маракоў на пасяджэнні ваеннай калегіі Вярхоўнага суда БССР, якое працягвалася ўсяго 15 мінут, быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Праз дзень, 29 кастрычніка 1937 года, прысуд быў прыведзены ў выкананне. «Называючы гэтую дату,— сказаў у інтэрв'ю Г. С. Тарнаўскі,— я таксама прапаную ўнесці папраўкі ў энцыклапедыю, дзе жыццё Валерыя Дзмітрыевіча прадоўжана амаль на тры гады». Па ўсёй верагоднасці ўнесці папраўкі трэба і ў даты смерці іншых нашых таварышаў, якія былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Падставай для гэтага можа быць і ліст дачкі паэта Сяргея Клычкова Е. С. Клычковай, надрукаваны ў адзінаццатым нумары часопіса «Новый мир» за 1988 г. У ім паведамляецца, што названая раней дата смерці бацькі — 21 студзеня 1940 года, якая ўвайшла ў энцыклапедыі і розныя даведачныя выданні, сфальсіфікаваная. На просьбу дачкі паэта назваць сапраўдную дату смерці бацькі, дзе ён пахаваны і ў чым яго абвінавачвалі, начальнік сакратарыята Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР В. Палуянаў адказаў, што С. А. Клычкоў быў «неабгрунтавана асуджаны 8 кастрычніка 1937 года»... «да расстрэлу. Звестак пра дакладную дату выканання прысуду няма, аднак вядома, што па палажэнні, якое ў той час дзейнічала, такія прысуды выконваліся адразу ж па іх вынясенні. Месцы пахавання асуджаных не фіксаваліся».

Ёсць падставы лічыць, што даты смерці калі не ўсіх, дык ва ўсякім выпадку многіх, хто быў асуджаны ў тыя сталінскія гады і не вярнуўся жывы, недакладныя. На такое наводзяць многія факты. Вось ліст, які атрымаў я нядаўна з Варшавы ад вядомай дзяячкі рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, аўтара грунтоўных даследаванняў з гісторыі рэвалюцыйнага мінулага нашага народа Аляксандры Рыгораўны Бергман:

**«У мяне ўзніклі некаторыя сумненні наконт ДАТЫ і МЕСЦА СМЕРЦІ Максіма Гарэцкага. І вось чаму. Ва ўспамінах яго брата — Гаўрылы Гарэцкага ў кнізе «Максім Гарэцкі» (Мн., 1984) дата смерці Максіма запісана: 20 сакавіка 1939 г.; у БелСЭ дата смерці названа тая самая: 20 сакавіка 1939 г. З майго асабістага вопыту (і не аднаго майго) я не толькі дапускаю, але ўпэўнена, што гэтая дата аснована на дакуменце, атрыманым сям'ёй Гарэцкага ў сувязі з яго рэабілітацыяй, г. зн. у 50-х ці 60-х гадах. Маецца шмат бяспрэчных доказаў таго, што ў гэтага роду дакументах прыведзеная дата смерці ФІКТЫЎНАЯ. Згодна з пячаткамі, гэтыя дакументы напісаны, як правіла, у Маскве ў 50-х ці 60-х гадах, г. зн. далёка ад месца гібелі, без указання месца пахавання. Гэта датычыцца даты.**

**Пераходжу да пытання месца. Ці загінуў М. Гарэцкі ў Комі АССР? Маё жыццё так склалася, што ў 1936—1937 гг. сама была ў Комі АССР (Чыб'ю), а восенню 1937 г. мяне везлі этапам у групе з 19 чалавек з Комі на Захад. Дваіх з гэтай групы, мяне і яшчэ аднаго беларуса, прывезлі ў Мінск (на жаль, ні імя, ні прозвішча не ведаю). У мінскай турме я ДАКЛАДНА даведалася, што, акрамя нас дваіх, прывезлі яшчэ некалькіх, імёны і прозвішчы якіх ведаю. Мяркую, што М. Гарэцкі таксама быў вернуты ў Мінск і загінуў хутчэй за ўсё ў Мінску. Не выключана, што быў ён адным з тых, якія загінулі ў Курапатах.**

**Дык вось. Для таго, каб дакладна вызначыць гэта — трэба атрымаць афіцыйны тэкст прысуду і дату смерці ад КДБ. Ведаю на падставе маіх пошукаў у сувязі з іншымі «справамі», што ў КДБ і МУС такія дадзеныя ёсць.**

**У мяне, між іншым, засталося ўражанне, што Вы невыпадкова ўспомнілі пра М. Гарэцкага ў заметцы пра помнік Фран-**

(Працяг на стар. 10—11).

**Перад тым, як прапанаваць чытачам «ЛіМа» раздзел з рамана Дж. Оруэла «1984» у сваім перакладзе, хачу сказаць некалькі слоў — пра аўтара і ягоны твор.**

**Як так сталася, што адна з самых вядомых і папулярных кніг XX стагоддзя, перакладзеная болей чым на 50 моў, выдаваная мільёнными тыражамі амаль ва ўсім свеце, да апошніх часоў заставалася ў нас недаступнай і, як вынік, невядомай?**

**Хто ж такі Джордж Оруэл? Эрык Артур Блэйр (гэткае яго сапраўднае імя) нарадзіўся ў 1903 годзе ў Бенгаліі ў сям'і брытанскага службоўца. Скончыў прэстыжны коледж у Ітане (Англія), служыў у Бірманскай каланіяльнай паліцыі, у 1927 годзе вярнуўся ў Еўропу, займаўся публіцыстыкай, выдаў некалькі кніг эсэ, публіцыстыкі, успамінаў. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў Іспаніі на баку рэспубліканцаў, быў паранены. Там, у Іспаніі, Оруэл упершыню сутыкнуўся з дагматыкамі сталінскага гарту. Якраз тады і адбылася вырашальная пераарыентацыя сацыяльна-палітычных поглядаў Оруэла. Дагэтуль сацыяліст, ён канчаткова расчароўваецца ў сацыялістычных ідэях, якія на той час «паспяхова» развіваліся і ажыццяўляліся ў нацыянал-сацыялістычнай Германіі і ў «сацыялістычнай» імперыі Сталіна. Такі грамадскі лад Оруэл, гуманіст і дэмакрат з перакананняў, прыняць не мог. Вынікам яго роздуму, магутнай зброяй супраць нялюдскіх таталітарных дыктатур сталіся два яго славутыя раманы — «Скотны двор» (1945) і «1984» (1949). Першы з іх — алегорыя, натхнёная Свіфтам: свойскія жывёлы скінулі гаспадароў, зрабілі рэвалюцыю і ўсталявалі дыктатуру, дзе ўсе жывёлы роўныя, а некаторыя раўнейшыя за іншых. «1984» — раман-антыутопія, які працягнуў традыцыю гэтага жанру, развітую ў папярэднія гады Я. Замяціным, А. Дэблінам, О. Хакслі.**

**Пісьменнік уявіў сабе свет у 1984 годзе, які б мог быць, калі б сучасныя аўтару таталітарныя рэжымы і далей бы развіваліся і ўдасканальваліся. Перад чытачом паўстае змрочны, нялюдскі, жахлівы свет нянавісці, страху, хлусні, галечы і беспрасвецця.**

**У пяцідзесятыя — сямідзесятыя гады ў нашай краіне, відаць, поўнасцю прынялі крытыку Оруэла ў творы на свой рахунак і таму або цалкам яго замоўчвалі, або называлі «бібліяй антыкамунізму», «трызненнем ваяўнічага антысаветчыка» і г. д. Захад часоў «халоднай вайны» выкарыстоўваў твор у прапагандысцкіх мэтах. Але прайшло гадоў трыццаць, і аб'ектыўныя аналітыкі на Захадзе пазнаходзілі ў сваім грамадстве шмат з таго, што прадвяшчаў Оруэл. Учапіўшыся за гэтыя высновы, нашы спрытныя прапагандысты ў рэальным 1984 годзе змянілі стаўленне да твора: маўляў, гэта пра іх, а не пра нас! І толькі цяпер, праз 40 гадоў пасля напісання рамана, мы прыходзім да той простай ісціны, што раман пісаўся і «пра нас», і «пра іх», і пра ўсё чалавецтва, пра тое, што ніводзін лад, ніводная краіна не гарантавана ад смяротнага подыху таталітарызму. «1984» — гэта сапраўдны помнік чалавечнасці, дабрыні, праўдзе і справядлівасці. Недарэмна 1984 год быў абвешчаны ЮНЕСКА годам Оруэла.**

**Апошнімі гадамі краіна наша пачала ўсё болей і болей аддаляцца ад страшнай мадэлі Оруэла. Спадзяваймася ж, што мы ніколі не спынімся на гэтым шляху.**

**І яшчэ дадам у заключэнне, што творы Оруэла «1984» і «Скотны двор» рыхтуюцца да друку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».**

**ПЕРАКЛАДЧЫК.**

*Пераклады*

# Джордж Оруэл
# 1984
## урывак з рамана

У СТАЛОЎЦЫ, што знаходзілася глыбока пад зямлёй, чарга рухалася вельмі павольна. Зала была напханая да берагоў і аглушальна шумная. З акенца раздачы валіла пара ад густой поліўкі з кісла-металічным пахам, які, аднак, не мог заглушыць смуроду джыну «Перамога» — у канцы залы знаходзіўся маленькі бар, простая адтуліна ў сцяне, дзе можна было за дзесяць цэнтаў купіць вялікую шклянку джыну.

— Вось каго я шукаў! — пачуўся голас з-за спіны Уінстана.

Ён азірнуўся. Гэта быў яго сябар Сайм, які працаваў у аддзеле даследаванняў. Можа, слова «сябар» не надта яму пасавала. Цяпер сяброў не было, былі таварышы; але былі таварышы, з якімі было прыемней, чым з іншымі. Сайм быў мовазнаўцам, спецыялістам у навамоўі. Ён належаў да вялікай групы спецыялістаў, якім цяпер было даручана скласці Адзінаццатае выданне Слоўніка навамоўя. Сайм быў дробны, ніжэйшы за Уінстана, чалавечак, цёмнавалосы, з вялікімі вылупленымі вачыма, што пазіралі адначасна сумна і насмешліва і, здавалася, даследавалі пад час гутаркі твар размоўцы.

— Я хацеў спытацца, ці няма ў цябе часам лёзаў для галення, — сказаў ён.

— Ніводнага! — з вінаватай паспешлівасцю адказаў Уінстан. — Я шукаў паўсюль. Болей нідзе няма.

Увесь час нехта пытаўся пра лёзы. Праўду кажучы, у Уінстана заставаліся яшчэ два нечапаныя. Ужо некалькі месяцаў лёзаў нідзе не было. Цяпер увесь час бракавала якога-небудзь тавару першай неабходнасці, якога не было ў партыйных крамах. Часам гузікаў, часам цыравальных нітак або матузкоў на чаравікі. Цяпер жа не было лёзаў. Калі і можна было іх здабыць, дык толькі наведваючы час ад часу «чорны рынак».

— Я ўжо шэсць тыдняў галюся старымі, — зманіў Уінстан.

Чарга зноў пасунулася наперад. Спыніўшыся, Уінстан зноў павярнуўся да Сайма. Кожны з іх узяў тлусты металічны паднос з высока нагрувашчанага стосу, што стаяў на канцы стала раздачы.

— Ці ты хадзіў глядзець учора, як вешалі палонных? — спытаўся Сайм.

— У мяне было шмат працы, — адказаў безуважна Уінстан. — Пагляджу пасля ў кіно.

— Хіба ж кіно параўнаеш з сапраўднасцю, — сказаў Сайм і дапытліва паглядзеў на Уінстана.

Яго насмешлівы позірк прабег па Уінстанавым твары. Здавалася, яго вочы казалі: «Я цябе ведаю! Я бачу цябе наскрозь! Я вельмі добра ведаю, чаму ты не пайшоў глядзець». Сайм быў зацятым артадоксам, але з пэўнай дамешкай інтэлектуальнасці. Ён мог з нейкай асалодай, з нейкім агідным задавальненнем гаварыць пра верталётныя напады на варожыя вёскі, пра судовыя працэсы і прызнанні думзлачынцаў і пра катаванні ў сутарэннях Міністэрства Любові. Каб з ім пагаварыць, трэба было ўхіліцца ад гэтых тэм, і, калі магчыма, перавесці гаворку на тэхнічныя асаблівасці навамоўя, тэму, на якую ён мог гаварыць цікава, з захапленнем і веданнем справы. Уінстан адвярнуўся ўбок, каб пазбегнуць пранізлівага позірку вялікіх цёмных вачэй.

— Павешанне было вельмі цікавае, — сказаў Сайм, прыгадваючы. — Я думаю, што вельмі псуе ўсю справу тое, што ім звязваюць ногі. Я люблю глядзець, як яны дрыгаюць нагамі. І вельмі важна, каб пад канец відовішча з рота вылазіў язык, блакітны, светла-светла-блакітны. Якраз гэтая дэталь мне падабаецца.

— Наступны, калі ласка! — рыкнуў прол у белым фартуху з апалонікам.

Уінстан і Сайм пасунулі свае падносы пад акенца. Кожнаму адным рэзкім рухам быў накладзены стандартны комплексны абед: міса, поўная ружова-шэрай поліўкі, што была адначасова і першай і другой стравай, луста хлеба, кубік сыру, кубачак кавы «Перамога» без малака і кавалачак сахарыну.

— Там пад тэлеглядам ёсць пусты столік, — сказаў Сайм. — Давай захопім па дарозе джыну.

Джын выдаваўся ў фарфоравых кубачках без вушка. Яны прыблізіліся скрозь натоўп і разгрузілі свае падносы на металічны стол, на якім нехта перад тым разліў сваю поліўку — брудную кашу, падобную да ванітаў. Уінстан падняў свой кубачак з джынам, на хвілінку затрымаўся, каб набрацца адвагі, і хутка праглынуў напой, што смакам нагадваў алей. Перамогшы слёзы, што выступілі ўваччу, ён раптам адчуў, што хоча есці. Ён пачаў на поўную лыжку сёрбаць поліўку, на слізкай паверхні якое плаваў нейкі сіваваты ружовы кубік, напэўна, кавалак штучнага мяса. Абодва маўчалі, пакуль не з'елі ўсё, што было ў місах. За столікам злева ад Уінстана, трошкі ззаду, нехта гучна і няспынна гаварыў — гэтая непрыемная балбатня, падобная да кракання качкі, прабівалася скрозь гаману залы.

— Як пасоўваецца справа са Слоўнікам? — спытаўся Уінстан гучным голасам, каб перакрычаць шум.

— Пакуль што павольна, — адказаў Сайм. — Я цяпер сяджу над прыметнікамі. Вельмі цікава.

Пры адной згадцы пра навамоўе ён нібы аджыў. Ён адсунуў місу ўбок, схапіў адной сваёй далікатнай рукою лусту хлеба, другой — кавалак сыру. Каб не крычаць, ён схіліўся над сталом.

— Адзінаццатае выданне — гэта апошняя, канчатковая рэдакцыя Слоўніка, — растлумачыў ён. — Мы наводзім апошні глянец, мы надаём навамоўю такую форму, якую яно будзе мець, калі інакш ніхто ўжо не будзе гаварыць. Калі мы скончым, людзі накшталт цябе будуць вымушаныя вывучаць усю мову спачатку. Ты, напэўна, думаеш, што мы займаемся толькі тым, што вынаходзім новыя словы? Якраз наадварот! Штодня мы выкідаем старыя словы, у вялікай колькасці. Сотнямі. Мы спрашчаем мову да яе голага касцяка. У Адзінаццатым выданні не будзе болей слоў, патрэба ў якіх адпадзе да 2050 года.

Ён прагна адкусіў хлеба і, праглынуўшы пару кавалкаў, працягваў прамаўляць з фанатычным захапленнем. Яго худы, смуглявы твар ажывіўся, з вачэй знікла насмешлівасць, і яны зрабіліся амаль летуценнымі.

— І гэтае выкрэсліванне слоў — цудоўная рэч! Вядома ж, больш за ўсё даводзіцца выкідаць дзеясловы і прыметнікі, але ёсць таксама сотні назоўнікаў, якія гэтак жа лёгка можна выкінуць з мовы. Я маю на ўвазе не толькі словы з блізкім сэнсам, але і тыя, што перадаюць супрацьлеглае значэнне. У рэшце рэшт, якое права на існаванне мае слова, якое з'яўляецца ўсяго толькі супрацьлегласцю іншага слова? Кожнае слова мае ў сабе сваю супрацьлегласць. Напрыклад, слова «добры». Калі ёсць слова «добры», нашто ж тады яшчэ і слова «дрэнны»? Слова «нядобры» выконвае гэтую ролю гэтаксама добра, ці нават яшчэ і лепей, бо з'яўляецца дакладнай супрацьлегласцю добрага, чаго не скажаш пра слова «дрэнны». Калі ж, з другога боку, табе патрэбная мацнейшая ступень «добрага», дык у чым сэнс цэлага шэрагу няясных, непатрэбных слоў, як, напрыклад, «выдатны», «цудоўны» ці як там яшчэ? Слова «плюсдобры» найлепшым чынам выказвае патрэбны сэнс, а калі трэба нешта яшчэ мацнейшае, тады падыдзе слова «звышплюсдобры». Вядома, мы ўжо і цяпер ужываем гэтыя формы, але ў канчатковым варыянце навамоўя іншых слоў проста не застанецца. Уся сістэма значэнняў «добры-дрэнны» будзе прадстаўленая шасцю словамі, а ў рэшце рэшт і адным словам. Ці бачыш ты, Уінстан, усю прыгажосць гэтай ідэі? Вядома ж, ідэя гэтая належыць Вялікаму Брату, — дадаў Сайм, падумаўшы.

На згадку пра Вялікага Брата твар Уінстана на імгненне асвятліўся. Але Сайм усё ж адразу заўважыў, што не здолеў захапіць Уінстана.

— Ты не можаш па-сапраўднаму ацаніць навамоўе, Уінстан, — сказаў ён амаль са смуткам. — Нават калі ты пішаш на ім, ты ўсё роўна думаеш на старамоўі. Я чытаў пару тваіх артыкулаў, што ты час ад часу пішаш у «Таймз». Яны вельмі добрыя, але гэта ўсяго толькі пераклады. Ты яшчэ вельмі прывязаны да старамоўя з усімі яго няяснасцямі і непатрэбнымі адценнямі думкі. Ты яшчэ не адчуў прыгажосці знішчэння слоў. Ці ведаеш ты, што навамоўе — адзіная ў свеце мова, дзе колькасць слоў з кожным годам памяншаецца?

Не, Уінстан гэтага не ведаў. Ён усміхнуўся, паспрабаваўшы выявіць на твары разуменне, але не наважыўся адказаць. Сайм зноў адкусіў кавалак чорнага хлеба, хутка праглынуў і працягваў далей:

— Ці ж ты не бачыш, што мэта навамоўя — скараціць абсяг дзеяння думкі. У рэшце рэшт мы зробім немагчымым само існаванне думзлачынстваў, бо папросту не будзе слоў, якімі іх можна будзе выказаць. Кожнае паняцце, якое калі-небудзь трэба будзе выказаць, будзе азначацца толькі **адным** словам, пры гэтым яго сэнс будзе дакладна акрэслены, а розныя дадатковыя адценні значэння будуць зліквідаваныя і забытыя. Сёння, у Адзінаццатым выданні мы ўжо недалёкія ад гэтага. Але працэс увесь час будзе працягвацца, яшчэ доўга нават пасля нашай смерці. З кожным годам будзе ўсё менш і менш слоў, абсяг свядомасці будзе ўсё вузейшы і вузейшы. Вядома ж, ужо сёння не існуе ніякіх падстаў для апраўдання думзлачынстваў. Гэта проста пытанне самадысцыпліны, кантролю рэчаіснасці. Але ў рэшце рэшт і гэта не спатрэбіцца. Рэвалюцыя пераможа канчаткова, калі мы створым дасканалую мову. Навамоўе ёсць Ангсоцам, Ангсоц ёсць навамоўем, — дадаў ён з таямнічым задавальненнем. — Ці не задумваўся ты калі над тым, што ў 2050 годзе не застанецца ніводнага чалавека, які ўвогуле здолеў бы зразумець нашу цяперашнюю размову?

— Акрамя... — хацеў запярэчыць Уінстан, але не скончыў.

Ён збіраўся сказаць: «Акрамя пролаў», але стрымаўся, бо не быў цалкам упэўнены, што такая заўвага не падасца праявай нядобранадзейнасці. Аднак Саім адгадаў, што ён хацеў сказаць.

— Пролы — не людзі, — сказаў ён безуважна. — У 2050 годзе, а можа, яшчэ і раней, сапраўднае веданне старамоўя будзе немагчымае. Уся літаратура мінулага будзе знішчана. Чосэр, Шэкспір, Мілтан, Байран будуць існаваць толькі ў навамоўных перакладах і будуць не проста перакладзеныя, а ператвораныя ў супрацьлегласць таму, чым яны былі ў сапраўднасці. Нават партыйная літаратура не пазбегне перапрацоўкі. Нават лозунгі будуць гучаць інакш. Як, напрыклад, захаваецца лозунг «Свабода ёсць рабствам», калі само паняцце свабоды будзе зліквідаванае? Увесь сусвет думкі будзе выглядаць іначай. Увогуле **не будзе** існаваць ніякай думкі — прынамсі, у тым сэнсе, які мы цяпер укладаем у гэта паняцце. Добранадзейнасць значыць нядуманне — адсутнасць патрэбы ў думанні. Добранадзейнасць у бяздумнасці.

Аднойчы Сайма выпараць, адчуў Уінстан у глыбіні душы. Ён занадта разумны. Ён бачыць занадта ясна і гаворыць занадта шчыра. Партыі такія людзі не падабаюцца. Аднойчы ён знікне. Гэта ў яго напісана на твары.

Уінстан даеў хлеб і сыр. Ён павярнуўся на крэсле трошкі ўбок, каб выпіць каву. За столікам злева ад яго чалавек з пранізлівым голасам працягваў сваю бязлітасную прамову. Нейкая маладая жанчына, напэўна, яго сакратарка, што сядзела спіной да Уінстана, уважліва яго слухала і, здавалася, заўзята яго падтрымлівала. Час ад часу да Уінстана даляталі заўвагі накшталт: «Вы маеце рацыю. Я цалкам з вамі згаджаюся», прамоўленыя голасам, які, відаць, належаў маладой і не надта разумнай асобе. Але першы голас не сціхаў ні на хвіліну, нават тады, калі гаварыла дзяўчына. Уінстан ведаў мужчыну з твару, але ведаў пра яго толькі тое, што ён займае нейкую важную пасаду ў аддзеле мастацкай літаратуры. Гэта быў чалавек гадоў трыццаці з мускулістай шыяй і вялікім рухавым ротам. Ягоная галава бы-

ла трошкі адхілена назад, ён быў павернуты якраз так, што шкельцы акуляраў адбівалі святло, і таму Уінстан бачыў замест вачэй два пустыя бліскучыя круглячкі. Як ні дзіўна, але было амаль немагчыма зразумець хоць бы адно слова з таго бурлівага патоку, што вырываўся з яго рота. Толькі аднаго разу Уінстан пачуў больш зразумелы ўрывак: «...поўнае і канчатковае выкараненне гольдштэйнізму», — вылецела вельмі хутка, адным кавалкам, як нейкае цвёрдае цела. Астатняе было незразумелым краканнем: кра-кра-кра... Аднак, нават не чуючы, што кажа гэты чалавек, можна было не сумнявацца ў змесце яго прамовы. Ці ён цяпер абвінавачваў Гольдштэйна і патрабаваў суровейшых захадаў супраць думзлачынцаў і сабатажнікаў, ці ён выкрываў зверствы еўразійскіх салдат, ці ён услаўляў Вялікага Брата або герояў Малабарскага фронту — гэта было ўжо не так істотна. Што б ён ні казаў, можна было быць пэўным, што кожнае яго слова слушнае, ідэалагічна вытрыманае і адпавядае прынцыпам Ангсоцу.

Пакуль Уінстан разглядаў бязвокі твар, ніжняя сківаца якога хадзіла ўверх і ўніз, у яго з'явілася дзіўнае пачуццё, што гэта быў не сапраўдны чалавек, а нейкі манекен, і што яго прамова нараджалася не ў мазгу, а ў ягонай глотцы. Тое, што пры гэтым чулася, хоць і складалася са слоў, аднак не было чалавечай мовай у сапраўдным сэнсе слова; гэта былі несвядомыя, цалкам аўтаматычна вымаўленыя гукі, падобныя да качынага крякання.

Сайм на хвіліну замаўчаў і пачаў кончыкам лыжкі складаць нейкія ўзоры з рэштак поліўкі. Голас за суседнім столікам не сціхаў, ён быў добра чутны, нягледзячы на гаману, што стаяла навокал.

— У навамоўі ёсць адно слова, — сказаў Сайм, — не ведаю, ці ты яго калі чуў: качакрак. Гэта адно з найцікавейшых слоў, бо мае два супрацьлеглыя значэнні. Ужытае ў дачыненні да ворага яно з'яўляецца лаянкай; сказанае ж аб некім, хто падзяляе твае погляды, яно з'яўляецца пахвалой.

Без сумнення Сайма выпараць, зноў падумаў Уінстан з нейкім шкадаваннем, хоць і ведаў дакладна, што Сайм ставіўся да яго з пагардай і мог бы выдаць яго як думзлачынца, калі б на гэта была хоць якая прычына. Нешта ў Сайма было не ў парадку. Яму нечага бракавала: тактоўнасці, стрыманасці, нейкай уратавальнай дурасці. Яго нельга было назваць нядобранадзейным. Ён верыў у прынцыпы Ангсоцу, паважаў Вялікага Брата, радаваўся перамогам, ненавідзеў адступнікаў не толькі з перакanaння, зацята і непахісна, але і свядома, з пранікнёнасцю, якой бракуе звычайным членам Партыі. І ўсё ж было ў ім штосьці, што выклікала падазрэнні. Ён казаў такое, што лепей было б не казаць. Ён прачытаў шмат кніг і быў сталым наведнікам кавярні «Каштан», улюбёнага прыстанішча мастакоў і музыкантаў. Не было такога закона, нават неафіцыйнага, які б забараняў наведваць гэтую кавярню, і ўсё ж гэтая ўстанова мела благую славу. Старыя партыйныя дзеячы, што страцілі ласку ў кіраўніцтва, часта наведвалі гэтую кавярню, перш чым знікалі назаўсёды. Казалі нават, што самога Гольдштэйна бачылі тут часам некалькі гадоў ці дзесяцігоддзяў таму. Лёс Сайма было няцяжка прадбачыць. І, аднак, не было ніякага сумнення, што Сайм, калі б ён хоць на хвілінку даведаўся пра сапраўдную натуру патаемных намераў Уінстана, адразу б выдаў яго Паліцыі Думак. Магчыма, што гэта б зрабіў і любы іншы, але Сайм хутчэй за ўсіх. Заўзятай адданасці на гэта было недастаткова. Добранадзейнасць была ў бяздумнасці.

Сайм падняў вочы. «Сюды ідзе Парсанс», — сказаў ён.

Ён сказаў гэта такім тонам, што, здавалася, у думках ён дадаў: «Гэты ідыёт». І сапраўды, Парсанс, сусед Уінстана ў дамовым блоку «Перамога», прабіваўся скрозь натоўп — тоўсценькі невялічкі чалавек з бялявымі валасамі і жабіным тварам. У свае трыццаць пяць гадоў ён меў ужо ладны трыбух, але быў рухлівы і маладжавы. Усім сваім выглядам ён нагадваў хлопца-падростка, ды так моцна, што, нягледзячы на яго цяперашні камбінезон, яго цяжка было ўявіць інакш, чым у кароткіх сініх шортах, шэрай кашулі і з чырвоным шпіёнскім гальштукам. Калі спрабуеш уявіць яго, адразу бачыш голыя каленкі і пухленькія ручкі з закатанымі рукавамі. Як толькі выпадала найменшая нагода, накшталт калектыўнай вандроўкі або нейкай іншай формы фізічных практыкаванняў, ён заўсёды надзяваў шорты. Ён бадзёра прывітаўся і сеў за стол, пры гэтым навокал адразу пачуўся моцны пах поту. Кропелькі поту спрэс пакрывалі яго ружовы твар. Яго здольнасць пацець была неверагодная. У Доме Культуры заўсёды можна было вызначыць па вільготнай ручцы ракеткі, што Парсанс толькі што гуляў у настольны тэніс. Сайм дастаў шматок паперы, на якім была напісаная доўгая калонка слоў, і стаў уважліва іх вывучаць, трымаючы ў руцэ чарнакрэс.

— Паглядзіце, як ён працуе пад час перапынку! — сказаў Парсанс і штурхануў Уінстана ў бок. — Вось гэта стараннасць! Што ў вас там, стары? Напэўна, штосьці занадта мудрагелістае для мяне. Сміт, стары, зараз я вам скажу, чаму я вас шукаю. Гэта адносна складкі, што вы мне яшчэ не здалі.

— Што за складка? — спытаўся Уінстан і аўтаматычным рухам намацаў у кішэні грошы. Амаль чвэрць яго заробку ішла на розныя добраахвотныя складкі, якіх было так шмат, што цяжка было іх усе запомніць.

— На Тыдзень Нянавісці. Ну, вы ж ведаеце, збор складак па кватэрах. Я адказны за наш блок. Мы ўжо шчыруем, як можам, будзе нешта грандыёзнае. Магу сказаць, што я буду не я, калі наш стары добры блок «Перамога» не вывесіць найпрыгажэйшых у горадзе сцягоў. Вы абяцалі мне два долары.

Уінстан выцягнуў з кішэні дзве тлуста-брудныя паперкі і перадаў іх Парсансу, які адзначыў прынятую складку ў маленькім нататніку старанным почыркам малапісьменнага чалавека.

— Дарэчы, стары, — сказаў ён, — я чуў, што мой падшыванец стрэліў у вас учора з рагаткі. Я за гэта добра яго адлупцаваў і сказаў, што, калі такое паўторыцца, я адбяру ў яго рагатку.

— Ён проста быў не ў гуморы, бо яму не дазволілі пайсці на павешанне, — сказаў Уінстан.

— Ну, нічога, але ж які ў яго добры кірунак думкі, вам не здаецца? Хай мае абое малыя трошкі і гарэзныя, але ж заўзятасці ім не бракуе! У іх у галаве толькі іхнія шпіёнскія справы, ну і, вядома, вайна. Ведаеце, што зрабіла ў мінулую суботу мая дачушка, калі яе атрад хадзіў у вандроўку ў Бэркхэмстэд? Яна і яшчэ дзве дзяўчынкі цішком уцяклі ад астатніх і ўвесь вечар ішлі след у след за нейкім падазроным чалавекам. Яны праследавалі яго дзве гадзіны, у самай лясной гушчэчы, і калі прыйшлі ў Эмэрсхэм, здалі яго паліцэйскаму патрулю.

— Чаму яны гэтак зрабілі? — спытаўся ўражаны Уінстан.

Парсанс урачыста працягваў:

— Майму дзіцяці здалося, што той быў нібыта накшталт варожага агента — яго, напрыклад, маглі скінуць з парашутам. Але што самае галоўнае, стары, што ёй перш за ўсё кінулася ў вочы? Яна заўважыла, што ў яго былі нейкія дзіўныя чаравікі — яна сказала, што раней ніколі не бачыла, каб такія хто насіў. Тады яна падумала, што гэта быў нейкі замежнік. Разумная галоўка як для сямігадовай смаркачкі, га?

— Што сталася з тым чалавекам? — пацікавіўся Уінстан.

— Ну, гэта я ўжо, напэўна, не здолею сказаць. Але я б не здзівіўся, калі б..., — Парсанс паказаў з пальцаў пісталет і ляснуў языком, падрабляючы гук стрэлу.

— Добра, — сказаў няўважна Сайм, не паднімаючы вачэй з паперы.

— Вядома, мы не павінны рызыкаваць,—паслухмяна згадзіўся Уінстан.

— У рэшце рэшт, цяпер усё ж ідзе вайна, — адказаў Парсанс.

Быццам пацвярджаючы яго словы, з тэлегляда, што вісеў якраз над імі, грымнулі фанфары. Гэтым разам, аднак, перадавалася не паведамленне пра перамогу на фронце, а ўсяго толькі абвестка Міністэрства Дастатку.

— Таварышы! — закрычаў з запалам маладжавы голас. — Увага, таварышы! Мы маем для вас вельмі добрую навіну. Мы перамаглі ў працоўнай бітве! Апошнія афіцыйныя справаздачы пра вытворчасць тавараў народнага ўжытку ўсіх катэгорый паказваюць, што ўзровень жыцця ў параўнанні з мінулым годам павысіўся не менш, чым на дваццаць працэнтаў. Ва ўсёй Акіяніі сёння раніцай адбыліся стыхійныя дэманстрацыі, пад час якіх працоўныя прадпрыемстваў і ўстаноў маршыравалі са сцягамі па вуліцах, каб выказаць удзячнасць Вялікаму Брату за новае шчаслівае жыццё, якім надарыла нас яго мудрае кіраўніцтва. А зараз паслухайце ўдакладненыя лічбы: харчовыя прадукты...

Словы «наша новае шчаслівае жыццё» былі паўтораны некалькі разоў. Апошнім часам яны сталіся ўлюбёным выразам Міністэрства Дастатку. Парсанс, увага якога была абуджана фанфарамі, слухаў з нейкай здзіўленай урачыстасцю, нейкай павучальнай нудлівасцю. Ён не мог сачыць за лічбамі, але быў упэўнены, што яны нейкім чынам давалі падставу для задавальнення. Ён дастаў вялікую брудную люльку з напалову скураным тытунём. З нормай тытуню сто грамаў на тыдзень рэдка можна было напоўніць люльку да краёў. Уінстан курыў цыгарэту «Перамога», старанна трымаючы яе гарызантальна. Наступная раздача была толькі заўтра, а ў яго заставалася толькі чатыры цыгарэты. На хвілінку ён адключыўся ад гаманы ў зале і прыслухаўся да патоку слоў, што валіў з тэлегляда. Як выявілася, адбыліся нават дэманстрацыі, каб падзякаваць Вялікаму Брату за павышэнне нормы шакаладу да дваццаці грамаў на тыдзень. Але ж толькі ўчора, як ён памятаў, было паведамлена, што норма **скарачаецца** да дваццаці грамаў. Ці магчыма, каб прайшло ўсяго толькі дваццаць чатыры гадзіны, а народ ужо праглынуў гэтую хлусню? Так, яны праглынулі. Парсанс праглынуў лёгка, з дурасцю жывёліны. Бязвокае стварэнне за суседнім столікам праглынула фанатычна, з запалам, з шалёным жаданнем знайсці, выкрыць і выпараць таго, хто наважыцца сцвярджаць, што на мінулым тыдні норма складала трыццаць грамаў. Сайм таксама праглынуў, але, вядома ж, больш складаным чынам, не без прысутнасці двухдумства. Значыць ён, Уінстан, быў адзіны, хто яшчэ меў памяць?

А казачныя лічбы ўсё яшчэ гучалі з тэлегляда. У параўнанні з мінулым годам было болей ежы, болей адзення, болей дамоў, болей мэблі, болей посуду, болей паліва, болей караблёў, болей верталётаў, болей кніг, болей дзяцей — болей усяго, акрамя хваробаў, злачынстваў і вар'яцтваў. Штогод, штохвіліны ўсё навокал імкліва расло. Як і Сайм, Уінстан цяпер узброіўся лыжкай і вырабляў з рэштак поліўкі на стале разнастайныя ўзоры. Ён з прыкрасцю разважаў пра фізічныя асаблівасці жыцця. Ці заўсёды яно было такое? Ці заўсёды ежа здавалася яму такой смачнай? Ён агледзеў сталоўку. Нізкая столь, напханая да берагоў зала, сцены, брудныя ад незлічоных дотыкаў. Паўгінаныя металічныя сталы і крэслы, так цесна папрыстаўляныя адно да аднаго, што седзячы можна было дакрануцца локцем да суседа. Пагнутыя лыжкі, місы са шчарбатымі краямі, вялікія белыя кубкі, бліскучыя ад тлушчу, бруд куды ні глянь. І над усім гэтым кіслы смурод ад дрэннага джыну, ад нізкаякаснай кавы, ад поліўкі з металічным прысмакам і ад бруднага адзення. І ўвесь час у страўніку і на скуры адчуванне гідкасці, нібы нейкі пратэст, пачуццё, быццам цябе падманулі з тым, на што ты меў права. І, аднак, яго памяць не захавала нічога істотна адрознага. Наколькі ён помніў, ежы не хапала ніколі, шкарпэткі і споднікі ў людзей заўсёды былі поўныя дзірак, мэбля заўсёды была паламаная і нетрывалая, кватэры недастаткова ацяпляліся, у метро было не ўбіцца, дамы развальваліся, хлеб быў толькі чорны, гарбата была рэдкасцю, кава смярдзела, цыгарэт было замала. Усё было дарагое, усяго не хапала, удосталь было толькі сінтэтычнага джыну. І хоць з гадамі ўсё навокал горшала, гэта нікому не здавалася ненатуральным; не здавалася ненармальным, што ўвесь час баліць сэрца ад няўтульнасці і бруду, недахопу тавараў, бясконцых зім, дзіравых шкарпэтак, заўсёды сапсаваных ліфтаў, сцюдзёнай вады, пясочнага мыла, пакрышаных цыгарэт, штучных харчовых прадуктаў з падазроным смакам. Чаму нясцерпнасць усяго гэтага мог адчуць толькі той, хто захаваў нешта накшталт памяці продкаў, пра тое, што калісьці ўсё было зусім інакшае?

Ён яшчэ раз агледзеў сталоўку. Амаль усе людзі навокал былі брыдкія і засталіся б брыдкімі і тады, калі б насілі не аднолькавыя сінія камбінезоны, а нешта іншае. У дальнім канцы залы сядзеў адзін за столікам маленькі, надзіва падобны да жука чалавек і піў каву, пры гэтым яго вочкі недаверліва зіркалі то ў адзін, то ў другі бок. Як лёгка можна было паверыць, калі толькі не глядзець вакол сябе, што абвешчаны Партыяй фізічны ідэал — высокія дужыя хлопцы і паўнагрудыя дзяўчаты, бялявыя, жыццярадасныя, загарэлыя і бесклапотныя — сапраўды існаваў і нават пераважаў. У сапраўднасці ж, наколькі можна было меркаваць, большасць людзей ва Узлётна-пасадачнай паласе № 1 былі маленькія, чарнявыя і брыдкія. Было дзіўна, як гэты жукападобны тып шырока распаўсюдзіўся ў Міністэрствах: маленькія каржакаватыя людзі, што ўжо ў дзяцінстве былі тоўстыя, з кароткімі нагамі, рэзкімі, нервовымі рухамі і азызлымі абыякавымі тварамі з вельмі маленькімі вачыма. Здавалася, што пад панаваннем Партыі гэты тып людзей дасягаў усё большага росквіту.

Паведамленне Міністэрства Дастатку скончылася фанфарамі, якія змяніліся духавой музыкай. Парсанс, якога навала лічбаў прывяла ў стан няўцямнага захаплення, дастаў з рота люльку.

— Міністэрства Дастатку сапраўды шмат чаго дасягнула сёлета, — сказаў ён з выглядам знаўцы. — Дарэчы, Сміт, ці ў вас выпадкам няма лёзаў для галення, якія вы маглі б мне саступіць?

— Ніводнага, — адказаў Уінстан. — Я сам галюся ўжо шосты тыдзень адным лязом.

— А... Я толькі хацеў у вас спытацца...

— На жаль, — сказаў Уінстан.

Качыны голас за суседнім столікам, які пад час паведамлення на нейкі час змоўк, загучаў зноў на поўную моц. Невядома чаму Уінстану раптам прыгадалася пані Парсанс з яе кудлатымі валасамі і пылам у зморшчынах твару. Праз два гады дзеці здадуць яе Паліцыі Думак. Пані Парсанс выпараць. Бязвокую істоту з качыным голасам ніколі не выпараць. Маленькіх жукападобных людзей, што так спрытна снуюць па калідорах Міністэрстваў, таксама ніколі не выпараць. І дзяўчыну з чорнымі валасамі з аддзела мастацкай літаратуры — яе таксама ніколі не выпараць. Яму здавалася, што ён інстынктыўна адчувае, хто застанецца жыць, а хто будзе знішчаны, хоць і нельга было адразу сказаць, адкуль гэтае адчуванне.

У гэты момант ён раптам прачнуўся ад сваіх летуценняў. Дзяўчына за суседнім столікам напалову павярнулася і глядзела цяпер на яго. Гэта была тая самая чорнавалосая дзяўчына. Яна глядзела на яго крадком, але з дзіўнай пранікліваcцю. Калі іх позіркі сустрэліся, яна зноў адвярнулася.

Уінстан абліўся халодным потам. Яго працяў дзікі страх. Пасля страх суняўся, але засталася нейкая неадчэпная трывога. Чаму яна назірала за ім? Чаму яна ўвесь час ходзіць за ім? На жаль, ён ужо не мог прыгадаць, ці сядзела яна за столікам, калі ён прыйшоў, або прыйшла пазней. Ва ўсякім разе, учора, пад час Двуххвіліннкі Нянавісці яна села якраз за ім, хоць не мела на гэта ніякай пільнай неабходнасці. Цалкам верагодна, што яе заданнем было ўважліва прыслухоўвацца, ці дастаткова актыўна ён далучаецца да ўхвальных воклічаў.

Да яго зноў вярнулася ранейшая думка: магчыма, яна і не была агентам Паліцыі Думак, але віжы-аматары былі яшчэ болей небяспечныя. Ён не ведаў, як доўга яна за ім ужо назірае, можа, усяго пяць хвілін, і магчыма, што ён не ўвесь гэты час добра кантраляваў свой твар. Было страшэнна небяспечна даваць сваім думкам неяк выяўляцца на твары пад час публічных мерапрыемстваў або ў полі зроку тэлегляда. Найменшая дробязь магла выдаць. Нервовая дрыготка, несвядомы трывожны позірк, звычка мармытаць сабе пад нос — усё магло абудзіць падазрэнне. Адзін толькі недарэчны выраз твару (напрыклад, недаверлівы позірк пад час паведамлення пра вайсковыя перамогі) быў ужо сам па сабе злачынствам. У навамоўі было нават адмысловае слова — **тварзлачынства.**

Дзяўчына зноў павярнулася да яго спінай. Можа, яна за ім і не сачыла, можа, яна выпадкова другі дзень запар сядзела так блізка да яго. Цыгарэта патухла, і ён асцярожна паклаў яе на край стала. Ён дапаліць яе пасля працы, калі толькі за гэты час з яе не вываліцца тытунь. Цалкам магчыма, што асоба за суседнім столікам была агентам Паліцыі Думак, і вельмі верагодна, што праз тры дні яго кінуць у сутарэнні Міністэрства Любові—але ўсё роўна ён не меў права змарнаваць недакурак! Сайм склаў сваю паперку і сунуў у кішэню. Парсанс зноў пачаў сваю балбатню.

— Я вам не расказваў, стары, — сказаў ён усміхаючыся, з люлькай у зубах, — як мае дзеткі падпалілі спадніцу старой гандлярцы на рынку, бо ўбачылі, што яна загортвае сасіскі ў плакат з партрэтам Вялікага Брата? Яны крадком падышлі да яе ззаду і падпалілі спадніцу запалкамі. Думаю, ладна яе падсмалілі. Во падшыванцы, га? Але ж чуйныя, як паляўнічыя сабакі! Сёння яны атрымліваюць у шпіёнах першакласную падрыхтоўку — нават лепш, чым за мае часы. Чым, вы думаеце, іх апошнім часам узброілі? Слухавымі трубкамі, каб падслухоўваць праз замочную шчыліну! Мая дачка прынесла адну ўчора дадому — паспрабавалі яе на дзвярах у спальню, і выявілася, што чуваць у два разы лепей, чым калі проста прыставіць вуха. Вядома ж, гэта толькі цацка, вы ж разумееце. Але, ва ўсялякім разе, гэта скіроўвае іх думкі ў добры бок, ці не гэтак?

У гэты момант з тэлегляда пачуўся пранізлівы свіст. Гэта быў сігнал пачатку работы. Усе трое ўскочылі з крэслаў, каб праціснуцца скрозь натоўп да ліфта, і з Уінстанавай цыгарэты высыпаўся астатні тытунь.

З англійскай пераклаў
С. ШУПА.

# «А суд гісторыі цяжкі!»

(Пачатак на стар. 7).

**цыску Скарыну. Думаю, што Вы, як і многія іншыя (у тым ліку і я), марыце пра помнік Гарэцкаму ў Мінску. І гэта тым больш будзе слушна, калі пацвердзіцца ў дакументах, што загінуў ён у Мінску.**

**Пакольні давялося закрануць пытанне пра помнікі, дадам яшчэ некалькі слоў.**

**Як Вам, напэўна, вядома, я займаюся біяграфіяй беларускіх дзеячаў Зах. Беларусі. У мяне ўжо даўно склалася пераканание, што ўсе тыя, хто быў арыштаваны ў Мінску ў 1933(!) годзе (Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін, Родзевіч і інш.), большасць з якіх былі высланы на Салаўкі, былі ў 1937-38 гг. вернуты ў Мінск. Мне зараз цяжка ўспомніць некаторыя дэталі. Сярод іх, як вядома без сумнення, быў таксама Браніслаў Тарашкевіч, які ў маі 1937 г. быў арыштаваны ў Маскве, прывезены ў Мінск, дзе і быў 23.XI.38 г. расстраляны як агент Другога аддзела польскага Генштаба. (Пра гэта таксама ведае С. Шушкевіч, які сядзеў з ім у Мінску ў суседняй камеры. Можа, ён таксама ведае што-небудзь пра іншых?) Не выключаю, што пытанне пра помнік Б.Тарашкевічу, як калісьці прапаноўваў у газеце А. Мальдзіс, узнікне. Я спадзяюся, што імёны арыштаваных у 1933 годзе беларускіх дзеячаў, што прыбылі ў БССР з Зах. Беларусі, будуць успомнены тымі, хто змагаецца за Мемарыял ахвярам сталінскіх рэпрэсій».**

Наогул, прыведзены мною ў ранейшых публікацыях спіс пісьменнікаў, што ў гады сталіншчыны арыштоўваліся, сядзелі ў турмах і лагерах, былі асуджаны і расстраляны, аказаўся далёка не поўны. Вось новыя імёны: Мікола Аляхновіч, Мікола Байкоў, Захар Бірала, Клім Грыневіч, Ігнат Дварчанін, Уладзіслаў Дзяржынскі (Чаржынскі), Антон Крывіца-Ждановіч, Антон Згіроўскі, Мікола Каспяровіч, Фёдар Куляшоў, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Алесь Ляжневіч, Аркадзь Мардвілка, Алесь Пруднікаў, Раман Сабаленка, Тодар Курбацкі, Макар Шалай, Янка Туміловіч, Васіль Хомчанка...

Але і з улікам гэтых імён спіс усё адно няпоўны, бо ў ім няма тых, хто яшчэ і дасюль нерэабілітаваны, бо, як паведамлялася ў друку, у праваахоўных органах рэспублікі адсутнічаюць звесткі пра судзімасць і лёс многіх, у прыватнасці, Рыгора Бахты, Алеся Вазіла, Данілы Васілеўскага, Алеся Гародні (Функа), Макара Краўцова, Антона Луцкевіча, Браніслава Люгаўскага, Язэпа Мазуркевіча, Сяргея Мурзо, Уладзіміра Самойлы-Сулімы, Апанаса Сідарэнкі, Янкі Субача, Алеся Траецкага, Пятра Хатулёва... А колькі загінула моладзі, тых, хто надрукаваў першыя свае вершы, апавяданні, артыкулы, хто рыхтаваў сябе да працы ў літаратуры! Ды і на тых не варта забываць, хто, трапіўшы пад сталінскі прэс, адсядзеўшы ў турмах і лагерах, потым запляміў сваё імя супрацоўніцтвам з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Іх таксама нямала...

Не трэба думаць, што гэтак пацярпела ў тыя гады толькі беларуская літаратура, беларуская пісьменніцкая арганізацыя. Супрацоўнік часопіса «Дружба народов» Эдуард Белтаў, які займаецца зборам матэрыялаў пра беспадстаўна рэпрэсіраваных у 30—50-ыя гады рэвалюцыянераў, вучоных, ваенных, дзеячаў літаратуры і мастацтва, паведаміў у газеце «Книжное обозрение», што ў яго картатэцы ёсць звесткі пра 1000 пісьменнікаў, што загінулі ў турмах і лагерах. «Прычым,— як піша ён,— насуперак маім меркаванням, рэпрэсіраваных рускіх пісьменнікаў аказалася меншасць. З тысячы загінуўшых прыкладна семсот — пісьменнікі саюзных і аўтаномных рэспублік. Па нацыянальных літаратурах быў нанесены такі знішчальны ўдар, што некаторыя з іх ад яго яшчэ не акрыялі, і наўрад ці акрыяюць у бліжэйшыя гады». І далей: «Яшчэ раз паўтараю. Знішчэнню падвяргаліся не якая-небудзь асобная, а практычна ўсе нацыянальныя літаратуры». («Книжное обозрение», 17 чэрвеня 1988 г.). Расказаўшы, што з усіх літаратур найбольш пацярпела украінская («Тое, што зрабілі з украінскай літаратурай, дрэнна паддаецца апісанню»), Э. Белтаў працягвае: «Тое самае з беларускай літаратурай. Яна была распусцілася, расквітнела ў 20 — пачатку 30-х, і раптам нічога няма. А тыя, хто засталіся (Якуб Колас), яны практычна нічога не пісалі, сядзелі і чакалі, калі іх арыштуюць...»

Э. Белтаў памыляецца. Не ўсе сядзелі і чакалі, калі іх арыштуюць. Некаторыя дапамагалі тым, хто арыштоўваў, — пісалі артыкулы, дзе выкрывалі «подлае нутро буржуазных нацыяналістаў, трацкістаў, польскіх шпіёнаў і дыверсантаў», розных іншых адпетых «ворагаў народа», а то не грэбавалі і даносамі ў адпаведныя органы... У гэтай сувязі хочацца спыніцца на «дзейнасці» Андрэя Александровіча. Надрукаваўшы паэму «Цені на сонцы», дзе зняславіў — «выкрыў» — многіх вядомых літаратараў, ён сваю актыўнасць перанёс на сходы. Вось вытрымкі з яго даклада на III пленуме праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР (1936 г.):

**«Паэты дарэвалюцыйнай Беларусі, якія пакінулі ў беларускай паэзіі больш ці менш значны след (Цётка, Максім Багдановіч, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля (Ясакар), Алесь Гурло, Янук Журба, Канстанцыя Буйло і мн. інш.) — усе яны, вар'іруючы крыху каларыт і сродкі мастацкага адлюстравання, ідэйна і тэматычна ўвогуле былі адзіны. Прыйшоўшы ў літаратуру ў гады 1910—1914, яны выхоўваліся на старонках буржуазна-нацыяналістычнай газеты «Наша Ніва» — сталі выразнікамі і носьбітамі яе ідэалогіі. З нарастаннем рэвалюцыйных падзей адны зусім знікалі з літаратуры, другія нясмела, з аглядкамі, з вялікімі ўнутранымі хваравітымі працэсамі, з ідэйнымі правалам ўключаліся ў рэвалюцыйную плынь, трэція пераходзілі ў лагер контррэвалюцыі...**

**Значную гісторыка-літаратурную цікавасць уяўляюць — паэт прыгонніцтва Вінцук Дунін-Марцінкевіч і паэт Францішак Багушэвіч — вяшчальнік народжанай нацыянальнай буржуазіі.**

**Крытыка, якая прапагандавала буржуазна-нацыяналістычныя ідэалы «Нашай Нівы», неаднаразова пісала, што:**

**«Па стылю і па чысціні ўжывання ў творах беларускай мовы Дуніна-Марцінкевіча справядліва лічаць бацькам беларускай мастацкай літаратуры. Бацькам жа беларускіх пісьменнікаў з сапраўды чыстым характарам і з чыста беларускім нацыянальным духам і яшчэ больш чыстай беларускай мовай з'яўляецца Францішак Багушэвіч».**

**Гэтая асепленая нацыяналістычным чадам крытыка з вялікай сілай шкодзіла Янку Купалу і Якубу Коласу. Пачаўшы сваю паэтычную дзейнасць пад велізарным рэвалюцыйным уплывам падзей 1905 г., будучы выразнікамі працоўных, Купала і Колас пачалі здаваць свае рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі, трапляючы пад уплыў пазалочаных фраз беларускіх памешчыкаў і кулакоў аб «залатым веку» беларускай гісторыі...**

**На старонках «Нашай Нівы» пачынае займаць «вядучае» месца заалагічны шавінізм, прыкрыты «філасофіяй» нацыянальнага духу. У гэты перыяд Я. Купала і Я. Колас замест далейшага развіцця дэмакратычных элементаў у сваёй творчасці не ўстоялі, адышлі на буржуазныя пазіцыі, сталі ідэолагамі так званага «адраджэння» — руху беларускай буржуазіі.**

**Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю Я. Купала і Я. Колас не зразумелі. Яны не зразумелі класавай сутнасці пралетарскай рэвалюцыі, і ў першыя савецкія гады творча заставаліся на сваіх ранейшых пазіцыях. Часам у іх творах гучалі ноткі непавагі па адрасу дыктатуры пралетарыяту».**

**Яшчэ больш рашуча А. Александровіч граміў «буржуазна-нацыяналістычнага» паэта Максіма Багдановіча. Нават мовы і то яго не прымаў, бо, бачыце, «мова творчасці Багдановіча з'яўляецца кніжнай, халоднай мовай. З аднаго боку, моўная культура яго расла на базе прымітыву «дзеравеншчыны», з другога боку, ён уключаў у беларускую мову без патрэбы бытавыя словы з моваў суседніх з Беларуссю народаў».**

Што ўжо казаць пра сваіх паплечнікаў па пяру, а тым больш сапернікаў па творчасці і службовай кар'еры! Справа дайшла да таго, што нават прысланага з партыйнай работы для навядзення парадку ў Саюзе пісьменнікаў Міхася Клімковіча, які з усіх пісьменнікаў перш за ўсё вылучаў менавіта яго, А. Александровіча, — нават яго не пашкадаваў, прымусіў пасля аднаго з чарговых пасяджэнняў паласнуць сябе брытвай па горле...

Калі «выкрылі» як «замаскаванага ворага народа» і арыштавалі А. Александровіча, адна з заходнебеларускіх газет з гэтага выпадку змясціла артыкул, які называўся: «Насіў воўк, панеслі і ваўка».

Не з лепшага боку паказалі сябе ў тыя гады і многія іншыя пісьменнікі, ды і не пісьменнікі. Ішоў жа працэс фактычна знішчэння, ліквідацыі ўсяго беларускага ў Беларусі. Падводзілася пад гэта са спасылкамі на творы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна, І. Сталіна нават тэарэтычная база. Асабліва шчыраваў С. Вальфсон. У зборніку «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі», які выдала Беларуская Акадэмія навук у 1932 годзе, надрукавана некалькі артыкулаў, аўтарам ці сааўтарам якіх быў гэты «філосаф». Паставіўшы перад сабою задачу «ўсебаковага раскрыцця беларускага нацыянал-дэмакратызму — гэтай кулацкай буржуазнай ідэалогіі», «перагрусіць на вачах шырокіх мас ідэйны багаж нацдэмаў, выявіць яго надзвычайнае навуковае ўбоства, паказаць, як нацдэмы пад флагам «чыстай навукі» прасоўвалі ў сваіх работах кулацка-шавіністычную кантрабанду, як кантрабандысты ад нацдэмакратызму прыкрываліся маскаю нацыяналізму і патрыятызму, каб лепш і з меншаю небяспекаю ажыццяўляць свае клясавыя мэты — мэты лютага ворага пралетарскай дыктатуры», С. Вальфсон проста знішчаў, палітычна дыскрэдытаваў, абліваў памыямі ўсіх дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху Беларусі, стваральнікаў яе культуры, літаратуры і навукі. У «жалезны інвентар» нацдэмакратызму,— ідэі аб тым, што «беларусы маюць сваю гісторыю», «філосаф» залічыў, а заадно і абліў памыямі Ф. Багушэвіча і Я. Неслухоўскага, В. Ластоўскага і Я. Лёсіка, М. Доўнар-Запольскага і М. Шчакаціхіна, М. Каяловіча і А. Сапунова, Ф. Шантыра і А. Баліцкага, М. Каспяровіча і А. Шлюбскага, Я. Коласа і А. Дудара, У. Дубоўку і М. Лужаніна і многіх-многіх іншых. Нават Ф. Скарыну, К. Каліноўскага і то «філосаф» не абмінуў. Вось што ён пісаў у артыкуле «Ідэалогія і метадалогія нацдэмакратызму»:

**«Адным з вельмі пашыраных метадаў дзейнасці нацдэмаў з'яўляецца самая бессаромная фальсіфікацыя гістарычнага мінулага Беларусі. Адным з важнейшых актаў гэтай фальсіфікацыі з'яўляецца ператварэнне ў продка беларускай пралетарскай культуры Францішка Скарыны. 400-годдзе перакладу Скарынай бібліі на беларускую мову дае нацдэмам повад да шумнай нацыяналістычнай дэманстрацыі, якая пракацілася па ўсёй БССР. Навуковыя ўстановы Беларусі аддаюць сваю энергію высвятленню пытання аб тым, ці быў Скарына «каталікам, хрышчоным паводле лацінскага абраду», ці ён «перакінуўся ў праваслаўе». Шаноўныя вучоныя з запалам абмяркоўвалі «Шчакаціхінскую гіпотэзу», якая ўстанаўлівае на аснове даследавання скарынінскага гербу і астралагічных прынцыпаў XVI веку дакладны дзень нараджэння Скарыны. Імя Скарыны прысвойваецца культурным установам БССР. Навокал Скарыны ўтвараецца арэол роданачальніка беларускай культуры, якая ставіцца пад знак «скарынінскай традыцыі»...**

**Побач з культам Фр. Скарыны ўтвараецца і культ Кастуся Каліноўскага, які ператвараецца амаль не ў продка Беларускай Сацыялістычнай Савецкай рэспублікі. Імя гэтага шляхецкага рэвалюцыянера акружаецца арэолам гераічнага шукальніка «мужыцкай праўды». Пры дапамозе бесцырымонных фальсіфікацый утвараецца вобраз рэвалюцыйнага барацьбіта беларускіх сялянскіх мас, якія падняліся на барацьбу з прыгняталънікамі і эксплуататарамі...» У артыкуле «Мовазнаўства», напісаным С. Вальфсонам у сааўтарстве (Л. Бабровіч, І. Шпілеўскі, В. Бандарэнка, Я. Мацюкевіч), «скарынінская» тэмады і тэма «Кастуся Каліноўскага» знаходзіць свой працяг: «Нацдэмакраты імкнуліся «адрадзіць» беларускую мову пад знакам рэстаўрацыі сівой старыны... У гэтай арыентацыі сваёй яны і ўтварылі культ Францішка Скарыны, ператворанага побач з Кастусём Каліноўскім у гістарычнага продка Беларускай Савецкай рэспублікі, у асновапаложніка беларускай культуры, у найвышэйшы аўтарытэт у пытаннях словатворчасці». Вінаваціцца Я. Лёсік, які яшчэ ў 1917 г. прапаноўваў да 400-годдзя выпусціць скарынінскую Біблію. М. Гарэцкі, які заклікаў паставіць помнік «вялікаму русіну, шчыраму сыну Белай Русі», аўтары кнігі «400-лецце беларускага друку» (Мн., 1926 г.), якія «звыш чым на 20 аркушох культывуюць «скарынінскую традыцыю...»**

С. Вальфсон, а разам з ім і іншыя, адмаўлялі беларусам права мець свае, якія б там ні было, традыцыі, святы, мець сваю гісторыю, культуру, мову, літаратуру. Нават быць патрыётамі, любіць свой край, сваю зямлю. Так, прыводзячы цытаты з выступлення А. Баліцкага * («Жывучы на чужыне, беларусы як найлепш зразумелі, што яны асобны народ, які мае сваю мову, свае звычаі, старыну і дзеля таго маюць права на сваё існаванне...»; «Мы, беларусы, вялікія патрыёты і любім сваю родную, змучаную і аблітую крывёй Беларусь»), С. Вальфсон зазначае, што «пры ўсёй сваёй тэарэтычнай абмежаванасці і палітычнай тупасці, нацдэмы, аднак, добра разумелі, што ўсіх іх довадаў ад «халоднага гаспадарчага розуму і гарачага беларускага сэрца» не хапае, каб схіліць масы да адзінага нацыянальнага фронту...»

Лютую нянавісць С. Вальфсона выклікалі і наступныя радкі з верша У. Дубоўкі:

**Ты думаеш, лёгка пакінуць**
**Усё, што ў стагоддзях**
**збірана?**
**Не выганіш гэнага клінам,**
**Бо будуць няўгойныя раны...**
**Мне кожны памежак**
**знаёмы,**
**Смяецца мне кожны**
**лісточак,**
**Дык што ты мне радзіш для**
**злому,**
**Дык што ты мне радзіш,**
**браточак?**
**Павінен я кінуць, зрачыся**
**Усяго, што з маленства**
**мне міла?..**

Наогул, усё, дзе бачыліся прывіды мінуўшчыны, гістарычнай памяці народа, «старасветчыны», «сівой старыны» ці самабытнасці, выклікала гнеў. «Нацыянал-дэмакраты ў якасці аднаго з асноўных аб'ектаў сваёй дзейнасці абралі этнаграфію,— заяўлялі Л. Бабровіч, І. Шпілеўскі, М. Грынблат, А. Ляўданскі — аўтары артыкула «Этнаграфія. Музейная справа», што таксама змешчаны ў гэтым зборніку.— Этнаграфія давала шырокае поле для «самабытніцкіх» установак нацдэмаў; яна давала шырокі прастор іх арыентацыі на «старасветчыну», на «сівую старыну».

«Дзякуючы сваёй многагранасці, краязнаўства становіла сабою поле, на якім з усёю паўнатою, вычарпальнай яснасцю і выразнасцю нацдэмы развівалі сваю ідэалогію»,— сведчыў Р. Выдра ў наступным артыкуле гэтага зборніка «Беларускі нацдэмакратызм у краязнаўчым руху БССР».

А ў выніку сабранае энтузіястамі, вучонымі — музейныя экспанаты, запісы песень, казак, загадак, прымавак, легенд, складзеныя слоўнікі і даведнікі, старадаўнія кнігі і рукапісы — знішчаліся, выкідваліся як «смецце», а, заадно, «ліквідоўваліся» і тыя, хто займаўся гэтай «контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай справай». У поміргвока белае аб'яўлялася чорным, а чорнае — белым. Так, напрыклад, у канцы 1926 года адбылася Акадэмічная канферэнцыя па пытаннях развіцця беларускай мовы. Канферэнцыя мела шырокі розгалас ва ўсім славянскім свеце, у ёй прынялі ўдзел многія вядомыя вучоныя Масквы, Ленінграда, Кіева, Рыгі, Вільні, Варшавы... «У 1926 г. у Менску адбылася доўгачаканае «аб'яднанне» ўсіх беларусаў-нацдэмаў БССР і фашыстаў-беларусаў іншых суседніх краін пад прыкрыццём «Беларускай Акадэмічнай Канферэнцыі». Значэнне гэтай канферэнцыі, між іншым, заключалася ў тым, што на ёй было завуалявана, падпольна ўстаноўлена дакладнае палітычнае і арганізацыйнае супрацоўніцтва беларускіх нацдэмаў БССР з беларускімі фашыстамі з Польшчы, Заходняй Беларусі і іншых краін»,— такую ацэнку даў гэтай канферэнцыі Р. Выдра ў артыкуле «Беларускі нацдэмакратызм у краязнаўчым руху БССР». Словам, усё, што рабілася дзеля развіцця Беларусі ў дарэвалюцыйны час, аб'яўлялася «буржуазным» і «нацыяналістычным», усё, што

* Баліцкі А. В. — член партыі з 1920 г., у 1926—1929 гг.— нарком асветы БССР. У 1930 г. выключаны з партыі, у 1931 г. беспадстаўна асуджаны на 10 год турэмнага зняволення, а ў 1937 г. — да вышэйшай меры пакарання за «контррэвалюцыйную дзейнасць і шпіянаж». Цяпер рэабілітаваны, у снежні 1988 г. адноўлены ў радах КПСС (пасмяротна).

## З паэтычнай пошты

### Станіслаў ШУШКЕВІЧ

●

Былі ж такія, што рабілі
Папяровыя для пostраху шчыты,
Сябе абараняць, а на другіх
Умела шпаркія пісаць паклёпы.
Яны ўзбіраліся часамі да вышынь,
Аж ладнябесных і крутых,
Былі вядомымі для ўсіх,
Для ўсёй зямлі і для ўсёй Еўропы.

Ах, колькі ж геніяльных звонку,
А з сярэдзіны пустых,
Сабе ўжо помнікі паставіць
Пры жыцці хацелі,
А ставілі Вялікаму
У гісторыю масты,
Ад крыку «Слава мудраму!»
Ажно дурнелі.

Па ўсёй маёй Радзіме,
Дзе ні ступіш і куды ні глянеш,
Было жыццё аплецена калючым дротам,
І з вокнамі ў цёмных кратах,
Умела быў пакладзены
На ўсё ружовы глянец,
Мундзіры звонку новыя,
Пад імі да кашулі ўсё было у латах.

Вучоных, палкаводцаў
І вядомых камуністаў
У беззваротны свет
Заўчасна адпраўлялі.
Пад воплескі,
Узнёсла, урачыста,
Крычалі: — Нас вядзе
Вялікі мудры Сталін!

Над намі як заўжды
Чароўна сонца свеціць,
Схіліліся на нівах каласы
Густога збожжа.
І праўду ўжо заблытаць,
Закруціць у кайданы і сеці,
Народ паставіць на калені,
Больш ніхто не зможа.

### Далёкая згадка

Прыслалі кнігу мне ў Саяны
Зімою лютаю здалёк,
І боль кранУў старыя раны,
Знайшоў я ў кнізе васілёк.

Хоць над палаткаю бураны
Выццём перабівалі сны,
Тут, дзе халодныя Саяны,
Адчуў цяпло маёй вясны.

### На сцежку глянуў васілёк

У слаўны сонечны дзянёк,
З зялёнага густога ўкрыцця,
На сцежку глянуў васілёк,
Драмаў спакойна ён у жыцце.

Бялее домік ля шашы,
Віюцца кветкі па паркане,
Нібы карціна Ці Бай-шы *,
Адразу скажа, хто ні гляне.

Тут не кітайскі краявід, —
Мой беларускі, блізкі, родны.
Палае ў сэрцы і крыві
Бляск хараства высакародны.

Здаецца, я памаладзеў,
Блукаючы ажно да ночы,
Такога хараства нідзе
Не ўбачаць, пэўна, мае вочы.

* Ці Бай-шы, вялікі кітайскі мастак, лаўрэат міжнароднай прэміі міру.

### Плачуць Курапаты

Памяці паэта Юлія ТАЎБІНА (5.9.1911—30.10.1937)

Перапалоханыя совы распачалі крык.
Пачуліся раптоўна стрэлы.
Пасля замоўклі. Страх трывожны знік.
Ляжалі ў катлаване акрываўленыя целы.

Цябе, мой дружа, не пабачу больш.
Хіба ж хоць крышачку ты ў нечым вінаваты?
Я прыгадаў цябе. Кранае сэрца боль.
Галосіць вецер. Плачуць Курапаты.

---

### Валянцін ЛУКША

## АГНІ ДАЛЁКІХ ГАРАДОЎ

### Вечарам ля пірамiды Хеопса

Сляды дзесяткаў капытоў астылі,
Ні мітусні,
Ні лёгкай гаманы.
І дзесь на жоўтых выганах пустыні
Вярблюджыя вярблюд каўтае сны.

Ён цэлы дзень пазіраваў турыстам,
З каленяў на гарбы браў дзецюкоў,
Каб гаспадар хадзіў з наварам чыстым,
Да пірамід ізноў яго прывёў.

Ён столькі бачыў чорных, жоўтых, белых!
Катаць іх налаўчыўся на спіне
Няўклюдных і, як правіла, нясмелых,
Што Гізы госць яго не абміне.

Цямнюткія егіпецкія ночы! —
Калісьці трапна вызначыў паэт.
Але турыст на піраміды хоча
Зірнуць.
Інакш не бачыў белы свет.

І нават не выходзячы з машыны,
Захоплена ўздыхаюць пад віно
Шыкоўныя заморскія мужчыны...
Ды велічы з машыны не відно.
Гучыць ля Сфінкса дружны хор з «Аіды»,
З каменных сгром —
Танклявы птушкі крык.
А на вяршыні вострай піраміды
Сядзіць, нібыта блазан, маладзік.

### Дождж у Лівійскай пустыні

Яшчэ апоўдні віраваў хамсін,
Было з аўчынку неба над Сінаем,
І фары слепаватыя машын
Бездапаможна ў цемрыве міргалі.

Рыпеў пясок пракляты на зубах,
Скуголіў на пустэчах нема вецер,
Кружылася, шалела у дварах
І скручвалася гурбінамі смецце.

Але спачатку кропляю адной
Дождж аб сабе напомніў сарамліва.
Мы Порт-Саід пакінулі...
Ракой
Па шкле хвастаў ужо зімовы лівень.

Лівійская пустыня, нібы ў сне,
Сасмяглая,
Лавіла прагна кроплі.
А дождж шумеў.
І падалося мне, —
Струмень цаляе у гарачы попел.

Дождж не пагнаў па хатах жыхароў —
Служыў сваю прызначаную месу...
Я кроплю на далонь злавіў ізноў, —
Яна грыбным дыхнула мінскім лесам.

### Ханхаліль

Таўчэ вазок з натужным рыпам
Дарог шматвекавую быль.
— Каб ведаць, — кажа друг, — Егіпет,
Ты завітай на Ханхаліль.

О, Ханхаліль!
Усходні рынак —
Адно з дзівосаў на зямлі.
Тут ад струхнелае старызны
Да супер-рэчы вы б знайшлі.

Тут ад Парыжа да Ганконга
Асартымент ва ўсёй красе.
Гандляр нырае лёгкай стронгай —
«Навар» збірае пакрысе.

Не, не купляй тавар адразу —
Круці цану разы са тры,
Інакш ты гандляра абразіш.
З ім неабходна гаварыць.

Зіхцяць пярсцёнкі залатыя
І мішура «пад серабро».
Не крамку — сэрца ён адкрые,
Калі кранеш яго нутро.

Загорне твой пакунак лоўка,
І з твару знікне сумны цень,
Нібы у дзядзькі з Камароўкі,
Калі выключны выпаў дзень.

---

### Алесь БАБАЕД

### Балада дабрыні

Жыў чалавек і на пары юначай
ён думаў так: «Свет белы перайначу.
Адрыну зло і тхло,
падман і скруху»...
Мудрэц яму сказаў:
«Браток, паслухай.
Ты пойдзеш да людзей —
нялёгкая дарога.
На ёй бяда к бядзе,
на ёй маны замнога.
Лепш думай пра сябе,
а боль чужы адпрэч.
Вось золата табе
і меч»...
Да шчасця шмат шляхоў,
ды гэты карацей.
А чалавек пайшоў
па выбранай вярсце.
У радасці й бядзе
ён спадзяваўся й верыў
у дабрыню людзей
і стукаўся у дзверы.
Як на парог ступаў,
«Ты хто?» — яго пыталі.
Ды хтось усё ж спазнаў,
Затым яшчэ спазналі.
«Ты — дабрыні пасол,
цябе даўно чакалі».
І хлеб, і квас на стол,
і песні загучалі.
А людзі да людзей
спагадаю абняць,
а вочы да вачэй
цяплом душы гараць...
І стала больш святла
у маладога дня.
Услед за ім пайшла
людская дабрыня.

## Віншуем!



**У снежні мінулага года споўнілася 50 гадоў пісьменніку Барысу КАЗАНАВУ. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем моцнага здароўя, творчага плёну.**

Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбіляру ўсяго самага добрага ў жыцці і творчасці.

# ШТО НАПАЛОХАЛА ГІСТОРЫКА

### ЗАМЕСТ РЭПЛІКІ

НАШЫ чытачы, супрацоўнікі Акадэміі навук рэспублікі, пазнаёмілі рэдакцыю з нумарам акадэмічнай газеты «За передовую науку» ад 22 снежня 1988 г. Нумар гэты амаль цалкам аддадзены публікацыі матэрыялаў XIII справаздачна-выбарчай канферэнцыі АН БССР пад загалоўкам «Перабудову паглыбляць, удасканальваць». Чытачы звярнулі нашу ўвагу на выступленне загадчыка аддзела Інстытута гісторыі П. Ц. Петрыкава, а мы ў сваю чаргу вырашылі, што «бескампрамісная пазіцыя», з якой вучоны-гісторык пракаменціраваў некаторыя факты і з'явы, таксама вымагае каментарыя.

Трэба адразу зазначыць, што выступіў П. Ц. Петрыкаў, здавалася б, зусім у духу часу — востра, наступальна, крытычна. Прычым, крытыка была не агульная, а самая што ні ёсць персанальная, без піетэту перад аўтарытэтамі, званнямі і пасадамі. Персанальны склад крытыкуемых наступны: маскоўскі прафесар А. Бутэнка, супрацоўнік Інстытута гісторыі З. Пазняк, сакратар Мінскага ГК КПБ П. Краўчанка... Кожнаму, вядома, было ўздадзена па справах яго, што, безумоўна, сведчыць пра своеасаблівыя шырыню і прынцыповасць поглядаў таварыша Петрыкава. Але, пагадзіцеся, спалучэнне прозвішчаў не банальнае.

Напрыклад, выказваючы незадаволенасць дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі, П. Ц. Петрыкаў мімаходзь усумніўся ў ідэйнай выверанасці артыкула А. Бутэнкі «Рэвалюцыйнае абнаўленне сацыялізму», змешчанага летась на старонках «Коммуниста Белоруссии». Маўляў, не да твару «прапагандаваць на старонках часопіса ЦК КПБ ідэю аб тым, што ідэалам сацыялізму для Леніна быў «ваенны камунізм». Але ж той, хто памятае артыкул А. Бутэнкі і не хацеў бы лічыць яго з'яўленне ў «Коммунисте Белоруссии» выпадковасцю, можа запярэчыць, што, найперш, не да твару вучонаму рабіць выцінанку з тэксту апанента, дзе ёсць, напрыклад, думка пра тое, што «і сёння ўсё яшчэ шырока распаўсюджана дагматычнае разуменне навуковага сацыялістычнага ідэалу як пэўнай раз і назаўжды створанай марксізмам лагічнай канструкцыі».

**Што ж, у кожнага свае ўяўленні пра этыку навуковых спрэчак. Праўда, чытаючы выступленне П. Ц. Петрыкава, у прыватнасці, некаторыя пасажы, рызыкуеш забыць, што на трыбуне — гісторык. «Калі савецкая (і партыйная, вядома) бюракратыя,— сказаў ён,— давала магчымасць атрымаць Пазняку вышэйшую адукацыю, дыплом кандыдата навук, выдзеліла яму па-за чаргой кватэру як сыну загінуўшага воіна, дык гэтая бюракратыя была быццам бы і «нішто сабе»... Хіба некаторыя нашы пісьменнікі,— працягваў Петрыкаў,— дзеячы культурнага фронту цураліся падтрымкі «бюракратыі», не атрымлівалі ад яе па заслугах, а часам і звыш таго — сталі вучонымі, членамі акадэміі, лаўрэатамі вышэйшых прэмій, удастоены ордэнаў і званняў. Зараз жа яны «прозрели», крытыкуюць «бюракратыю» і так і гэтак, але... але ад даброт, атрыманых у свой час ад гэтай бюракратыі не адмаўляюцца. Лічаць, што яна, у дачыненні асабіста іх, працавала правільна, была як маці родная, а вось цяпер, з пазіцый застрэльшчыкаў перабудовы, нікуды не вартая»...**

**Мы б параілі Пятру Ціханавічу запатэнтаваць свой падзел носьбітаў перабудовачнага мыслення на «сапраўдных» і «несапраўдных» па маёмасным прынцыпе. І паспяшацца з гэтым, бо не ён адзін сёння блытае канстытуцыйныя правы на жыллё і адукацыю з літасцю «власть предержащих», сыноўнія абавязкі—з палітычнай лаяльнасцю...**

Не абмінуў прамоўца і нацыянальнага пытання: «Вось у адзін цудоўны, як кажуць, дзень, мы раптам убачылі, што ўсе назвы вуліц у Мінску заменены на толькі беларускія. Хтосьці лічыць, што гэта «адраджэнне роднай культуры», а я лічу, што ў сучасных умовах — гэта вядзе да нацыяналізму». У сувязі з гэтым П. Ц. Петрыкаў абвінаваціў партыйныя і савецкія органы... у капітулянцтве. На яго думку, яны «пад напорам» інтэлігенцыі «пачалі здаваць некаторыя патрэбныя пазіцыі». Тут і дасталося ад вучонага-гісторыка сакратару гаркома П. Краўчанку, які — страшна падумаць — «патрабуе, націскае на ўкараненне беларускай мовы паўсюль, нават у дзіцячых садах». «Рэалізуе гэтыя ўстаноўкі» Міністэрства народнай адукацыі рэспублікі. Шкодныя, «беларусізатарскія» палажэнні, аказваецца, знайшлі адлюстраванне і ў некаторых пунктах зацверджаных Бюро ЦК КПБ «Асноўных мерапрыемстваў па далейшаму развіццю народнай асветы ў БССР». Змова? Ай жа і пільны гісторык!

«Дзе ж тут роўнасць двухмоўя?» — пытаецца П. Ц. Петрыкаў.

Сапраўды, дзе? У нумары газеты «За передовую науку» мы налічылі пятнаццаць выступленняў дэлегатаў канферэнцыі. З іх па-беларуску надрукавана (і, адпаведна, прагучала з трыбуны) — адно, Ю. У. Хадыкі, загадчыка лабараторыі Інстытута фізікі. Што адсюль вынікае? Ну хоць бы тое, што П. Ц. Петрыкаў відавочна перабольшвае пагрозу татальнай беларусізацыі...

Выходзячы на трыбуну, кожны з нас вольны гаварыць тое, што лічыць патрэбным. Памятаючы, аднак, што слова — не верабей. Чаму мы так падрабязна спыніліся на выступленні П. Ц. Петрыкава — усяго толькі прыватным эпізодзе ў важнай і прынцыповай гаворцы, якая адбылася на партыйнай канферэнцыі штаба беларускай навукі і была ўзноўлена на старонках акадэмічнай газеты? Ды таму, што ўзнікла ў нас сумненне, ці дапамагаюць «працэс перабудовы паглыбляць, удасканальваць» (нагадаем загаловак газетнай справаздачы) падобныя, скажам так, абывацельскія і далёка не навуковыя разважанні?

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

Вяртаючыся да надрукаванага

# «ЦІ АБЫДЗЕМСЯ «ДАДАТКОВЫМІ МЕРАМІ»?»

**Пад такім загалоўкам у нумары «ЛіМа» за 2 снежня мінулага года быў надрукаваны матэрыял з пасяджэння калегіі Міністэрства народнай адукацыі БССР. Рэдакцыя атрымала адказ за подпісам міністра М. І. Дземчука. Друкуем гэты адказ, а таксама каментарый карэспандэнта «ЛіМа».**

## Ліст у рэдакцыю

**Паважаны таварыш рэдактар!**

**Міністэрства народнай адукацыі БССР прымае меры па адраджэнні беларускай мовы, падняцці яе аўтарытэту і прэстыжу сярод студэнцкай і навучэнцкай моладзі, па развіцці актыўнага беларуска-рускага двухмоўя ў навучальных установах рэспублікі.**

**Канкрэтныя справы, падтрымка зацікаўленай грамадскасці — неабходныя ўмовы для паспяховай рэалізацыі намечанага. І тут вельмі важна, каб тыя сур'ёзныя, складаныя праблемы, што вырашаюцца міністэрствам, упраўленнямі і аддзеламі народнай адукацыі, педагагічнымі калектывамі, знаходзілі праўдзівае адлюстраванне на старонках рэспубліканскага перыядычнага друку. Бо недавер, зняважлівыя адносіны да працы іншых — не лепшыя дарадцы ў нашай агульнай справе.**

**Звяртаючыся ў рэдакцыю штотыднёвіка, Міністэрства народнай адукацыі мае на мэце зрабіць некаторыя заўвагі адносна артыкула «Ці абыдземся «дадатковымі мерамі»?» карэспандэнта Г. Тычка, змешчанага ў адным з нумароў газеты.**

**Аўтар артыкула, спасылаючыся на выступленні некаторых удзельнікаў калегіі, зазначае, што міністэрства залішне вялікі націск робіць на добраахвотнасць вывучэння беларускай мовы, што ў адносінах да роднай мовы як прадмета не можа быць ніякай добраахвотнасці.**

**Мабыць, карэспандэнт няўважліва пазнаёмілася з распрацаванымі мерапрыемствамі, калі прыйшла да такога вываду. Справа ў іншым. Як Вам вядома, на Беларусі пражываюць прадстаўнікі каля 80 нацыянальнасцей, для якіх беларуская мова не родная. Яны і з'яўляюцца аўтарамі шматлікіх лістоў, што ідуць у міністэрства, упраўленні і аддзелы народнай адукацыі, школы з патрабаваннем вызваліць іх дзяцей ад вывучэння мовы. На сённяшні дзень толькі 3,3% вучняў агульнаадукацыйных школ рэспублікі з рускай мовай навучання не вывучаюць беларускай мовы, аднак вырашаць гэтыя пытанні для дырэктараў школ складана, таму што яны як кіраўнікі дзяржаўнай установы павінны кіравацца заканадаўствам. Пры гэтым трэба ўлічваць, што канстытуцыйнае права кожнага грамадзяніна вырашаць гэтае пытанне самастойна. Адмяніць альбо змяніць заканадаўчыя акты не ў кампетэнцыі ні школы, ні міністэрства.**

**Пытанне аб адкрыцці беларускамоўных школ і класаў не здымаецца. Яно адзначана ў загадзе № 32 ад 06.02.1987 г. «Аб стане і мерах далейшага паляпшэння выкладання беларускай мовы ў агульнаадукацыйных школах рэспублікі». А паколькі праект дакумента, які абмяркоўваўся на чарговай калегіі, не з'яўляецца дубліраваннем раней прынятага загада, а яго дадаткам і працягам, гэтае пытанне паўторна не вызначалася. Ды і наданне статуса школе з'яўляецца прэрагатывай не міністэрства, а выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў.**

**Невядома, якім рашэннем калегіі Міністэрства народнай адукацыі БССР кіравалася т. Тычка, паведамляючы чытачу, што «на Беларусі не аказалася ніводнага (!) дастойнага настаўніка роднай мовы і літаратуры, каб трапіць у лік 135 дэлегатаў на Усесаюзны з'езд». Лічым неабходным удакладніць: дэлегатамі на Усесаюзны з'езд абраны 5 настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Гэта Добыш М. Д. (Мікуліцкая СШ Брагінскага раёна), Каркотка М. В. (СШ № 1 г. Ашмяны), Туркевіч В. М. (Моладаўская СШ Іванаўскага раёна), Ганчарова А. Х. (Гомельскае педвучылішча), Герыловіч Р. А. (ПТВ № 34 г. Гомеля).**

**І яшчэ. Няўжо Г. Тычка слухала ўсе выступленні начальніка Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі т. Круглея М. М., каб сцвярджаць, што гэта яго першае выступленне па-беларуску?**

**Калегія Міністэрства народнай адукацыі звярнулася да ўсіх яе ўдзельнікаў, міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў, маладзёжных аб'яднанняў, настаўнікаў падаваць канкрэтныя прапановы па адраджэнні беларускай мовы, якія будуць улічаны пры дапрацоўцы названых мерапрыемстваў.**

**Хацелася б і ад газеты «Літаратура і мастацтва» атрымаць такія прапановы, а не толькі «кампетэнтны» аналіз пасяджэння калегіі.**

**Міністр М. І. ДЗЯМЧУК.**

## Ліст з рэдакцыі

Шаноўны Міхаіл Іванавіч!

Пазнаёміўшыся з Вашым лістом у рэдакцыю, я ўважліва перачытала «План мерапрыемстваў па дадатковых мерах рэалізацыі прынцыпу двухмоўя ў навучальных установах рэспублікі», распрацаваны Міністэрствам народнай адукацыі.

Як удзельнікі пасяджэння калегіі (прозвішчы якіх згадваліся ў нашай публікацыі), так і карэспандэнт «залішне вялікі націск на добраахвотнасць» заўважылі ў пунктах 1 і 9, якія даслоўна гучаць так: 1. «Шляхам правядзення штодзённай мэтанакіраванай растлумачальнай работы з вучнямі і студэнтамі, іх бацькамі дабівацца, каб кожны выпускнік агульнаадукацыйнай школы, прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай навучальнай установы добра валодаў беларускай і рускай мовамі, быў патрыётам нашай шматнацыянальнай Радзімы. У гэтай рабоце зыходзіць з таго, што ў **пытанні аб мове навучання і яе вывучэнні як прадмета недапушчальныя ніякія прывілеі, абмежаванні або прымусы».** (Тут і далей падкрэслена мною.— **Г. Т.**) 9. «З 1989 года ўнесці змены ў практыку правядзення выпускных экзаменаў у агульнаадукацыйных школах, **даючы вучням права выбару мовы пры выкананні пісьмовых работ».**

Відаць, я не зразумела падтэксту. Спасылку на тое, што добраахвотнасць тычыцца толькі прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, трэба было чытаць між радкоў. Дарэчы, пра прадстаўнікоў 80 нацыянальнасцей, што жывуць на Беларусі (калі быць дакладнай, то БелСЭ падае яшчэ больш унушальную лічбу — каля 100). У працэнтах гэта складае недзе каля 20,6 ад усяго насельніцтва Беларусі. Да таго ж, паводле перапісу 1970 (застойнага і цяжкага для нацыянальных моў) года роднай беларускую мову назвалі 76,7 працэнта насельніцтва рэспублікі, у тым ліку не толькі беларусы, але больш як 292 тысячы палякаў, 14 тысяч рускіх, каля 11 тысяч украінцаў, 3,5 тысячы татараў... Што ж да шматлікіх лістоў, якія ідуць у МНА, з просьбай вызваліць дзяцей ад вывучэння беларускай мовы, то іх, згодна паведамленню ў Запісцы МНА, за 10 месяцаў 1988 года (фактычна адзін навучальны год) было — 113. Недзе па адным лісце на прадстаўніка кожнай нацыянальнасці, што жывуць на Беларусі. Многа гэта ці мала? Калі расцэньваць гэтыя лісты як скаргі на дрэнны стан выкладання беларускай мовы — то, безумоўна, многа. А калі — як падставу для прыняцця ажно двух пунктаў з арыентацыяй на добраахвотнасць, то да крыўднага мала.

Як выявілася на пасяджэнні, і прадстаўнікі МНА і ўдзельнікі пасяджэння калегіі ўважліва прачыталі надрукаваны ў восьмым нумары часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» артыкул доктара філасофскіх навук У. М. Конана «Адраджэнне роднай мовы — праблема палітычная». Дазвольце яшчэ раз згадаць выснову вядомага вучонага: «Пытанне руска-беларускага двухмоўя ў Беларусі сёй-той схільны тлумачыць толькі ў сэнсе асабістага выбару жыхароў рэспублікі. Але ж большасць выбірае тую мову, якой карыстаюцца ў сістэме дзяржаўна-палітычнага кіравання і народнай асветы. Таму выбар якраз не за прыватнымі асобамі, а за дзяржавай, яе вышэйшымі органамі».

Думаецца, выказванне гэтае тычыцца не толькі выбару — вывучаць ці не вывучаць родную мову, здаваць на ёй экзамены ці не, але і пытання адкрыцця беларускамоўных школ. Ад часу прыняцця загада № 32 мінула ўжо амаль 2 гады. А справа з адкрыццём беларускіх школ не зрушылася з месца, наадварот — колькасць іх, як паведамляецца ўсё ў той жа Запісцы МНА, змяншаецца. І таму было б лагічным, каб чарговая калегія, з'яўляючыся дадаткам і працягам раней прынятага загада, разабралася, у выніку якіх прычын гэты пункт загада не рэалізуецца, і прыняла адпаведныя дадатковыя меры.

І яшчэ. Вы пішаце, што «наданне статуса школе з'яўляецца прэрагатывай не міністэрства, а выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў». Як вядома, у свой час шмат беларускамоўных школ былі пераведзены на рускую мову навучання без захавання прававых норм, якія дзейнічаюць да сённяшняга дня. Між тым, пакуль што не чуваць, каб хоць адзін з адказных работнікаў, хто ажыццяўляў гэтую супроцьзаконную акцыю, панёс заслужанае пакаранне. Ліквідацыя беларускамоўных школ абгрунтоўвалася тады просьбамі бацькоў, рашэннем мясцовых Саветаў. Цяпер афіцыйна прызнаецца, што гэта была памылка, так званы чарговы «перагіб». І адказнасць за яго ў большай ступені кладзецца на былое Міністэрства народнай асветы, чым на выканкомы, бо ініцыятыва зыходзіла адтуль. Сёння ж, калі заходзіць пытанне аб узнаўленні незаконна пераведзеных на рускую мову беларускамоўных школ, новае міністэрства зноў карыстаецца старымі метадамі — ківае на выканкомы, бацькоў, грамадскасць. Што ж у такім разе вырашае само міністэрства? Чыя прэрагатыва вызначаць, з якога класа вучыць той ці іншы прадмет, да прыкладу — тую ж беларускую мову? Партыйных органаў, бацькоў, грамадскасці, выканкомаў? У «Плане мерапрыемстваў...» трэці пункт абвяшчае: «Пачынаючы з 1989/1990 навучальнага года, увесці вывучэнне беларускай мовы ў школе з рускай мовай навучання з **другога класа».** А на апошнім пленуме праўлення СП БССР (на ім, дарэчы, прысутнічалі і Вы) загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ А. І. Бутэвіч абвясціў, што беларуская мова ў рускамоўных школах будзе вывучацца з **першага класа** з наступнага (1989/1990) навучальнага года.

Думаецца, што не толькі супрацоўнікі міністэрства, педагогі, але і ўся грамадскасць многага чакалі ад Усесаюзнага з'езда работнікаў народнай адукацыі. Так, сапраўды, у артыкуле «Ці абыдземся «дадатковымі мерамі»?» была дапушчана фактычная недакладнасць. У лік 185 (не 135) дэлегатаў трапіла пяць выкладчыкаў роднай мовы, з іх адзін выкладчык ПТВ, і адзін—педвучылішча. Аднак, калі верыць не адзін раз ужо цытаванай Запісцы міністэрства, **«усе** сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы і прафесійна-тэхнічныя вучылішчы працуюць па вучэбных планах, у якіх **няма беларускай мовы і літаратуры.** Гэтыя курсы вывучаюцца факультатыўна, зверх вучэбнага плана...»

І вось з'езд закончыў сваю работу. Грамадскасць мела магчымасць пазнаёміцца з яго матэрыяламі. У Вашым выступленні, паважаны Міхаіл Іванавіч, прагучалі такія словы: «Мы бачым вырашэнне праблемы (адраджэння роднай мовы.— **Г. Т.**) у істотным пашырэнні колькасці нацыянальных школ, узмацненні рэжыму функцыяніравання нацыянальнай мовы ва ўсіх тыпах навучальных устаноў і ў рэспубліцы ў цэлым...» Гэта — абнадзейвае і дорыць добрыя спадзяванні на тое, што ў справе адкрыцця нацыянальных школ, адраджэння роднай мовы Міністэрства народнай адукацыі БССР і энтузіясты-падзвіжнікі будуць дзейнічаць разам, супольна.

І нельга таксама не згадзіцца, што ўсе нашы сённяшнія і будучыя дыскусіі па пытаннях нашай адукацыі і культуры павінны быць канструктыўнымі і карэктнымі.

**Галіна ТЫЧКА.**

**У нумары «ЛіМа» ад 21 кастрычніка мінулага года быў змешчаны артыкул Ніла Гілевіча «Неабачлівасць ці... безадказнасць?», у якім ішла гаворка аб зберажэнні найкаштоўнейшага скарбу ўсяго нашага народа — беларускай літаратурнай мовы, аб недапушчальнасці «расцягвання» яе па рэгіянальных закутках. Артыкул атрымаў шырокі рэзананс у нашых чытачоў. Агляд іх пісьмаў рыхтуецца да друку. Сёння ж змяшчаем ліст А. Лісіцкага, палешука, які нарадзіўся і вырас на Тураўшчыне. Ён выказвае свой, адметны ад М. Шаляговіча, погляд на стварэнне так званай «палескай мовы».**

# НЕ ДЗЯЛІЦЬ РОДНАЙ ХАТЫ

Толькі дзеці, якім далі з адной кішэні аднолькавыя цукеркі, могуць усур'ёз паспрачацца, у каго яна саладзейшая...

Наўрад ці на цвярозую галаву завядуць спрэчку два сябрукі, што атрымалі кватэры ў адным доме, на адным баку і паверсе, хто з іх жыве вышэй...

На пачатку гэтага года, нарэшце, пазнаёміўся са статутам суполкі «Палісься», створанай па ініцыятыве М. Шаляговіча. Цікавасць мая заканамерная: я карэнны паляшук таксама...

У свой час М. Шаляговіч дэбютаваў з вершамі на старонках «Чырвонай змены», напісанымі на заходнепалескім дыялекце.

Мне гэта было зразумела.

Але як ставіцца цяпер да таго, што аўтар і «иже с ним» гэтую «мову» пачалі лічыць агульнапалескай? Сапраўды, брэсцка-пінскія і тураўска-мазырскія гаворкі — гэта далёка не адно і тое. Дастаткова параўнаць творы членаў суполкі з запісамі жывой мовы розных жанраў, змешчанымі ў канцы кожнага з пяці тамоў «Тураўскага слоўніка», што ўбачыў свет у апошнія гады. Тураўскія гаворкі былі ўзяты за аснову ўсяго ўсходнепалескага (мазырскага) дыялекту.

Не ведаць гэтага М. Шаляговіч не мог. Аднак гэта не перашкодзіла яму сцвярджаць у статуце, што мова, на якой пішуць і друкуюць свае творы члены суполкі ў «Чырвонай змене» і «Голасе Радзімы», бытуе таксама і на сённяшняй Тураўшчыне. Ці не дзеля таго гэта зроблена, каб пераканаць усіх у гістарычнай заглыбленасці каранёў «адраджаемай» ім «палескай мовы»? Чаму ж тады ён не сцвярджае, што аўтарам першых твораў на гэтай мове быў не хто іншы, як сам Кірыла Тураўскі? Дзе ж тут логіка?

**Здзівіла мяне пазіцыя паважанага мной публіцыста А. Казловіча ў гэтых адносінах. У аглядзе пісьмаў «Ты нам патрэбна!» («Чырвоная змена», 24 верасня 1988 г., с. 12), што паступілі на творы членаў суполкі «Палісься», пісьменнік ні калі ва не сумняваецца ў бескарыслівасці намераў сваіх землякоў. Больш таго, ён кідае сваім апанентам М. Федзюковічу, І. Навумаву і Е. Мазько суровы вырак: «Вы абразілі чысціню!»**

**Прабачце, але ці такое ўжо цнатлівае імкненне членаў суполкі гаварыць за ўсіх жыхароў беларускага Палесся, бачыць тое, чаго няма ў сапраўднасці, а менавіта свой заходнепалескі дыялект «прышчапіць» да дрэва тураўскіх гаворак?**

**Я сам родам з-пад Лельчыц і Турава, жыву не адзін год у Жыткавічах (а гэта не так ужо далёка да Століна і Лунінца, да Пінска і Іванава), але многае з напісанага членамі суполкі не разумею. Не таму, што не хачу гэтага, а таму, што на такой мове на Ўсходнім Палессі не размаўляюць.**

**Цалкам цытую вынятку з ліста В. Панкаўца, прыведзеную А. Казловічам: «Я аўтар трох вершаў на палескай гаворцы, надрукаваных на старонцы «Балесы Палісься». Ужо тое, што я пішу вершы на мове маіх бацькоў, гаворыць аб маёй ПАЗІЦЫІ (звярніце ўвагу на гэта слова. — А. Л.). Я глыбока перакананы, што мовай кожнага чалавека, а тым больш яго правам на гэта павінна быць мова яго маці і бацькі і мова той мясцовасці, дзе ён нарадзіўся і вырас. А вось студэнт-медык з Гародні заклікае мяне, карэннага палешука, адумацца. Адумацца ад чаго? Ад ужывання роднага слова? Адумвацца мы не збіраемся, таму што мы не руйнуем (ці так гэта на самай справе? — А. Л.), а якраз імкнёмся да адбудовы таго, што ўжо зруйнавана і працягвае руйнавацца. І гэта, мы вельмі спадзяёмся, зразумеюць усе, хто зацікаўлены ў сапраўднай адбудове. Для нас жа адумацца — гэта значыць замаўчаць і назаўсёды пахаваць надзею і на перабудову, і на свайго Мележа».**

Вось так, ні больш ні менш. Хочам мець свайго Мележа! Але ці ведае паважаны В. Панкавец, што І. Мележ быў таксама карэнным палешуком, што менавіта яго «Палеская хроніка» была ўдастоена вышэйшай літаратурнай прэміі нашай краіны? Ад чыйго імя выступае ён і на адраджэнне якога Палесся збіраецца пакласці душу сваю і душу «други своя»? І што, пазіцыю супрацьпастаўлення адных палешукоў другім (І. Мележа, нас, хто родам з усходняга Палесся, — Ф. Савічу, М. Янчуку і членам суполкі) можна назваць стваральнай? Няўжо якраз у гэтым і не ёсць руйнаванне еднасці палешукоў, а значыць і ўсяго нашага народа?

Кіруючыся іх логікай, дык варта і нам, усходнепалескім хлопцам, браць ініцыятыву ў свае рукі змагацца за чысціню мовы І. Мележа? А як жа, бо вунь якім магутным рэхам адгукнулася яго хойніцкая гаворка ў нетрах агульнанароднае мовы, якой у цэлым напісана «Палеская хроніка».

В. Панкавец, супрацьпастаўляючы сябе, карэннага палешука, не менш карэннаму палешуку І. Мележу, падае голас за ўсеагульнае прызнанне заходнепалескага дыялекту ў якасці асновы ўсёй «палескай мовы».

Прабачце, але ў палешукоў ёсць, паўтаруся яшчэ раз, «Палеская хроніка» з усходнепалескім дыялектам у сваёй аснове.

На карысць якой «мовы» сведчыць гэта?

На карысць нашай агульнанацыянальнай — беларускай.

**Алесь ЛІСІЦКІ,**
**журналіст, слухач**
**Мінскай ВПШ.**

# ПЕРАБУДОВА І МЫ: УРОКІ, СПАДЗЯВАННІ, ТРЫВОГІ

(Пачатак на стар. 2—3).

якасці? Маладыя слесары, токары, рабочыя іншых прафесій не ведаюць, што такое культура працы, ім не ўласціва пачуццё адказнасці за тое, што робяць. Іх гэтаму не вучылі, ім гэтага не закладвалі з дзяцінства.

Зразумеў я і тое, што ўсё ў жыцці ўзаемазвязана, што праблема эканамічная вынікае з праблемы духоўнай. Што я маю на ўвазе? Раней для нас, жыхароў Беларусі, не існавала дылемы, на якой мове адказваць, напрыклад, на ўроках у школе або на занятках у інстытуце. Адказвай, калі ласка, хоць на беларускай, хоць на рускай. Галоўнае—каб ты ведаў сутнасць прадмета. Потым жа сталася інакш: калі ты гаворыш па-беларуску, ты—непаўнацэнны. Больш таго, нам сталі даводзіць: вучыце рускую мову, бо калі паедзеце паступаць у інстытут ці універсітэт, дык будуць вам зніжаць адзнакі, не пройдзеце па конкурсе і г. д. Так мы, беларусы, перасталі паважаць сваю мову. А ўслед за гэтым перасталі паважаць наказы, звычаі і традыцыі сваіх дзядоў, бацькоў, тое, што яны закладвалі спрадвеку—рабіць любую справу сумленна, не ганьбіць сваю сям'ю, сваю нацыю, свой спрадвеку працавіты народ. Цяпер жа добрыя традыцыі забываюцца, абясцэньваецца і такое паняцце, як гонар працоўнага чалавека.

Я падтрымліваю думку, што перабудову трэба пачынаць з сябе, а значыць, перабудоўваць сваё мысленне, сваю філасофію. Але трэба дапамагаць людзям у гэтым. Бо многія, асабліва ў вёсцы, жывуць пакуль старымі ўяўленнямі. Калі прыязджаю ў камандзіроўку на сяло, заводжу гаворку пра гады сталінскіх рэпрэсій, даю чытаць матэрыялы пра тыя часы, то адчуваю, што людзі яшчэ не пазбавіліся страху, жывуць яшчэ з аглядкай, новае ўспрымаюць насцярожана. Таму людзям трэба тлумачыць, што цяпер іншы час...

Так што ўсе мы павінны быць яшчэ і актыўнымі прапагандыстамі перабудовы.

**А. БЛІНКОЎСКІ,**
**геолаг:**

— Для мяне важны такі аспект перабудовы, як нацыянальны. Я ў нейкай меры таксама ахвяра так званага двухмоўя, кепска размаўляю па-беларуску. У нас у Баранавічах з ужываннем роднай мовы сур'ёзная дрэнна. Мы звярталіся ў гарвыканкам з пісьмовым пытаннем: што можна зрабіць, каб палепшыць становішча. На наш ліст, які мы пісалі ўтрох, адказаў старшыня Баранавіцкага гарвыканкома. Працытую вытрымкі з гэтага дакумента, які, вядома ж, быў напісаны па-руску: «Згодна з Законам аб народнай адукацыі БССР навучанне дзяцей у школах горада можа быць арганізавана на рускай і беларускай мовах. Мову навучання выбіраюць бацькі. У 1987—1988 навучальным годзе усе бацькі першакласнікаў выбралі мову навучання дзяцей у школе—рускую... Беларуская мова і літаратура вывучаецца ў школах у аб'ёме 599 гадзін, руская мова і літаратура—1097 гадзін за ўвесь курс навучання...»

Вось тут міжволі ўзнікае пытанне: чаму, калі беларус хоча, каб яго дзеці вучыліся на роднай мове, ён павінен пісаць заяву, а для навучання на рускай мове—ніякай заявы не патрабуецца? Гэта адно. А зрішце на аб'ём гадзін, адведзеных на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры і рускай? Дзе тыя «равные условия как для русского, так и для белорусского языков» (словы з адказу), калі на беларускую мову гадзін адведзена ўдвая менш? Акрамя таго, у гарвыканкоме чамусьці не ўлічваюць тое, што за ўсе дзесяць гадоў вучобы ў школе вучні вывучаюць абсалютна ўсе дысцыпліны на рускай мове, нават гісторыю і геаграфію роднага краю. Цытую адказ далей: «Усе школьныя бібліятэкі ўкамплектаваны мастацкай літаратурай на беларускай мове». А ці ж праўда гэта? Майму сыну-сямікласніку спатрэбіліся тры кнігі беларускіх аўтараў. У школьнай бібліятэцы іх не знайшлося. У гарадской я адшукаў толькі томік Цёткі... І гэта ў цэнтральнай Баранавіцкай бібліятэцы! Дык што тут гаварыць пра школьныя?

Я геолаг. І таму пытанні экалогіі мяне таксама вельмі турбуюць. Экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы складаная. Летась у красавіку мне давялося быць у экспедыцыях у Лунінецкім і Пінскім раёнах. Бачыў я пыльныя буры, вялізныя белыя плямы на глебе—значыць, выдзьмулі ветры ўрадлівы пласт зямлі да пяску. Палессе ператвараецца ў стэп. Вось да чаго давяла меліярацыя ў гэтых мясцінах.

**А. ХАТЭНКА,**
**эксперт БФК:**

— Задаю сабе пытанне: ці змянілася што за час перабудовы? Мне здаецца, што пакуль—няшмат. Алег Трусаў гаварыў тут пра тое, што ў Польшчы здзіўляюцца: маўляў, якія беларусы багатыя, збераглі сваю спадчыну. Мне таксама гаварылі пра гэта ў Латвіі, Літве. Там таксама здзіўляюцца нашым вялікім ілюстраваным зборнікам па гісторыі архітэктуры, па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, нашаму трыццацітомніку фальклору. Але ж мы ведаем, што ўсё гэта—толькі кансервацыя спадчыны. Традыцыі занядбаны, вынішчаны амаль начыста. Мы сваёй мовы быццам саромеемся. Дайшло да таго, што просім дазволу ствараць беларускія класы, садкі. Абсурд! Не пытаецца ж дазволу чалавек, каб дыхаць...

Здаецца мне, што ў гэтым плане перабудова пакуль мала што змяніла.

Раней я, працуючы ў абласным навукова-метадычным цэнтры, памаленьку пачала ўводзіць у сцэнарыі хоць трошкі беларускага, традыцыйнага. Мне сказалі: слухай, а навошта табе гэта?..

І гэта—стаўленне і пазіцыя людзей, якія займаюцца культурай!

Перайшла я на працу ў Беларускі фонд культуры. Думала, тут акрыяю. Але ўжо на ўстаноўчай канферэнцыі сутыкнулася з гульнёй у выбары праўлення, прэзідыума і непасрэдных кіраўнікоў БФК. Па старой звычцы з трыбуны прапанавалі кандыдатуры, а ў зале прагаласавалі «за». Не было сапраўднага абмеркавання. Мяркую, што ад таго, як фонд культуры ствараўся, залежыць у пэўнай меры і характар яго дзейнасці.

Напрыклад, шмат якія каштоўныя прапановы актывістаў не знаходзяць падтрымкі, не «зацвярджаюцца».

А фонд культуры мог бы зрабіць нямала, бо мы ўпершыню сабралі вакол сябе, скансалідавалі шматлікіх энтузіястаў нашага культурна-нацыянальнага адраджэння. Энтузіясты працуюць, прапануюць цікавыя думкі, цэлыя праграмы, але...

Згадаем гісторыю з універсітэтам культуры, які так і не адкрыўся («ЛіМ» пісаў пра гэта). А што сталася з распрацоўкай доўгатэрміновай нацыянальнай праграмы «Спадчына», рукамі нашых энтузіястаў зробленай, многа разоў праўленай, каб была яна прыдатнай для ўсёй Беларусі? Яна па-ранейшаму не зацверджана, а рэдагуецца далёка не спецыялістамі...

Колькі месяцаў назад мы паспрабавалі стварыць так званы цэнтр народных святаў, прыцягнулі філфак БДУ імя У. І. Леніна, фалькларыстаў, музыказнаўцаў. Ва універсітэце нам далі залу, куды кожную сераду прыходзіла моладзь. У адпаведнасці з народным календаром мы пачалі рыхтаваць адпаведныя святы. Але пасля вядомых падзей 30 кастрычніка нам адмовілі ў гэтай зале, у дэканаце растлумачылі, што званілі і настойліва параілі не пускаць на пасяджэнні людзей.

Вось і выходзіць, што як толькі мы падступаемся да той справы, з дапамогай якой сапраўды можна выйсці на народ, пачынаюцца розныя перашкоды. Напрыклад, «Купалле». Усю вясну намеснік старшыні праўлення фонду культуры Л. Валяеў мне гаварыў, што нарэшце ўсё ўзгоднена з адказнымі асобамі. Аказалася, што ў камісіі гарвыканкома па арганізацыі свята «Мінск-88» пра «Купалле» ніхто не чуў. Мы да падобных народных святаў рыхтуем маленькія спеўнікі, раздаём іх удзельнікам, такі «лікбез» вельмі сябе апраўдаў. Дык вось, калі я рыхтавала гэтыя спеўнікі, распрацаваныя і зацверджаныя нашай грамадскай фальклорнай камісіяй, першым пытаннем таго ж намесніка старшыні фонду культуры было: а хто аўтар гэтых песень?

Збіраліся ладзіць мы выстаўку маляваных дываноў да юбілею Драздовіча. Згоду нам далі. І раптам пытаюцца: слухайце, а як мы іх расставім? Не можам зразумець: што расстаўляць? «Как—что? Дива́ны ведь надо расставлять!..»

Тое ж і з калядамі. Усё дазваляюць, дапамагаюць, але патрабуюць... поўны спіс калядоўшчыкаў: каб прозвішча было і абавязкова месца працы...

Вось адносіны некаторых кіраўнікоў культуры да культуры. Ці не таму сёння няма належнага паразумення паміж грамадскасцю і фондам культуры?

**А. АЛЯШКЕВІЧ,**
**настаўнік:**

— Спачатку вось пра што. Глыбока перакананы ў тым, што, шануючы сваю мову, нельга адмяжоўвацца ад іншых. Мы павінны вывучаць і замежныя мовы, і мовы народаў нашай краіны. Так, праўду тут казалі, не ведаюць нашы вучні замежнай мовы. Але ж у гэтым вінавата не тая ці іншая мова, а бюракратычная методыка, з дапамогай якой мы спрабуем навучыць дзяцей гэтай мове. Такую методыку трэба кардынальна мяняць.

Другое, пра што хочацца сказаць. Асіповічы не маюць свайго краязнаўчага музея. Паслякастрычніцкую гісторыю Асіповічаў людзі крыху ведаюць: некаторыя вуліцы носяць імёны тых, хто меў дачыненне да горада, нарадзіўся ў ім або вызваляў яго, а што было да Кастрычніка, дык тут поўны прагал, адсутнасць самых элементарных ведаў. Значыць, музей нам вельмі патрэбны. Тым больш, што культустановы ў Асіповічах стваряюцца. Хоць бы, напрыклад, музей лакаматыўнага дэпо. А краязнаўчы спрабавалі стварыць яшчэ недзе ў 60-я гады, калі мае равеснікі хадзілі ў школу, стваралі і праз дзесяць гадоў, але да гэтага часу яго так і няма.

Што яшчэ? Спрабавалі мы стварыць ініцыятыўную групу па прапагандзе ў горадзе беларускай мовы, культуры. Змушаны былі збірацца то ў кавярні, то яшчэ дзе, бо пастаяннага месца нам не далі. Да таго ж на пасяджэнні нашы сталі з'яўляцца «апаненты», пайшлі ў ход адміністрацыйныя пагрозы, біркі нацыяналістаў, а ў дадатак нас яшчэ антысталіністамі назвалі з дакорам...

Вось і мяркуйце, якая перабудова ідзе ў Асіповічах у справе адраджэння, захавання культурных традыцый. Дазволілі правесці «Купалле». Людзі ўзрадаваліся, сабраліся. Аднак усё было зроблена так, каб «Купалле» не трапіла ў разрад спрадвечна беларускіх святаў, не было пазначана народным духам—нават сцэнарый быў русамоўны.

Тут гаварылі пра цэнтры культуры, пра тое, што яны перасталі быць такімі, асабліва ў апошні час. Раней можна было прапанаваць мясцовым уладам запрасіць самадзейныя калектывы выступіць у нас. Я асабіста мог бы запрасіць харавую капэлу мінскага Палаца культуры прафсаюзаў, дзе сам спяваю. Прапанаваў. А ў мяне пытаюцца: як разлічвацца будзем? У нас жа цяпер гаспадарчы разлік. А ці не параболваем мы тут? Ці патрэбен нам гаспадарчы разлік у галіне культуры?

Хачу сказаць колькі слоў аб праблеме роднай мовы ў нас. Тут свае, мясцовыя, амаль непераадольныя цяжкасці, бо ў гарадку шмат прыезджых, часовых людзей. Ды хачу скончыць на аптымістычнай ноце. Прыйшоў да нас у чацвёрты клас вучань з Баку, армянін па нацыянальнасці. Пытаюся ў яго, якія ён мовы ведае. Азербайджанскую, армянскую, рускую, англійскую вывучае. А маці дадае: мы назаўсёды ў Беларусь прыехалі, і ён павінен перш за ўсё ведаць беларускую мову. Гэта было прыемна чуць. І бацька сказаў: хачу, каб мае дзеці ведалі не толькі родную мову, але і мову той зямлі, на якой жывуць.

**А. ВАРАВА,**
**экскурсавод:**

— Тут было выказана шмат цікавага, балючага, слушнага, адмоўнага і станоўчага—словам, усяго, што ёсць у жыцці. І якім бы шляхам мы ні рухаліся, абмяркоўваючы праблемы ці то культуры, ці то эканомікі, ці то мовы, ці то экалогіі і г. д., усе гэтыя шляхі вядуць да муроў Адміністрацыйнай Сістэмы—таго самага «Рыма», над брамай якога красуецца надпіс «Ідэалогія і палітыка». Мы, як гэта не мной заўважана, самае паліцызаванае і ідэалагізаванае грамадства ў свеце, да таго ж, паводле слоў прафесара Ю. Афанасьева, маем самую сфальсіфікаваную гісторыю.

Колькі гадоў мы глядзелі навокал толькі праз прызму «класавых інтарэсаў», падпарадкоўваючы ці вымяраючы ідэалагічнымі схемамі кожны свой крок. Наш сацыяльны зрок ведаў толькі два колеры: белы і чорны. На гэтых колерах мы выхавалі вялізную армію талмудзістаў—выкладчыкаў грамадскіх навук і «даследчыкаў», у якіх ёсць адказы на ўсе пытанні жыцця і якія здольныя гадзінамі спрачацца з так званымі буржуазнымі сацыёлагамі, чыіх прац яны ніколі не чыталі.

Планы і абавязацельствы, выкананні і перавыкананні, працэнты і справаздачы ў эканоміцы, у сувязі з агульнай арыентацыяй грамадства, дзесяцігоддзямі нагадвалі (а дзенідзе і зараз нагадваюць) пераможныя рэляцыі з фронту зацятай барацьбы сацыялізму з капіталізмам. А ў цэнтры гэтай бітвы быў не чалавек з яго патрэбамі—матэрыяльнымі і духоўнымі, а нейкая статыстычная адзінка—«будаўнік сацыялізму», што нават страціў апошнім часам сваё нацыянальнае аблічча.

У культуры, якой заставаліся крошкі ад дзяржаўнага пірага, на змену «ждановшчыне» прыйшла «сусло́ўшчына». Ідэалагічная рэгламентацыя, якая раней вяла іншадумцаў за калючы дрот архіпелага Гулага, з канца 60-х гадоў выпіхвала творчую інтэлігенцыю за мяжу, або шчыльна закрывала рот, або няўмольна схіляла да канфармізму.

Нарэшце, так званая «суперінтэрнацыяналізацыя» — карыкатурнае стварэнне дэнацыяналізаванай бюракратыі—дэманстравалася ўсяму свету як апафеоз ленінскай нацыянальнай палітыкі, што дыскрэдытавала і Леніна, і яго разуменне нацыянальнага і інтэрнацыянальнага.

Такім чынам, ідэалагізацыя і палітызацыя грамадскага жыцця, як вельмі трапна адзначыў Ю. Каракін, — гэта «расширенное воспроизводство бесплодия, размножение интеллектуального импотентства».

Само сабой зразумела, што гэта прамы шлях у небыццё: спачатку сацыяльная апатыя, потым летаргічны сон непраціўлення і, зрэшты, тупік. Перабудова дала нам шанц абуджэння і адраджэння да свядомага і дастойнага чалавечай асобы жыцця. Новае мысленне будуецца на тым, што, як казаў нядаўна М. С. Гарбачоў з трыбуны ААН, іншая думка не павінна ўспрымацца як абавязкова кепская або варожая. Разнявольненне думкі ад ланцугоў усеагульнай палітызацыі і дагматычнай ідэалагізацыі, на мой погляд, універсальны метад вырашэння шмат якіх, калі не ўсіх нашых праблем...

Усіх праблем, сказаў я і ўнутрана ўсміхнуўся. Колькі разоў мы ўжо браліся вырашаць «усе праблемы». Але ж толькі зараз было вымаўлена «на самым высокім узроўні» гэта слова—плюралізм. Тое, што пра яго напісана нашымі айцамі дагматыкі ў іхніх ідэалагічных катэхізісах да Красавіка 1985 года, страшна чытаць.

Пакуль што, аднак, слова гэтае жыве без сацыяльнай аўры, «галышом». Таму і зрухі перабудовы больш чым сціплыя, а ўлада кіруючага функцыянера застаецца практычна неабмежаванай. Грамадства ж па-ранейшаму знаходзіцца ў позе дакучлівага прасіцеля з паперай у руцэ: "Прашу вашага дазволу..."

І ўсё ж такі,—прадбачу я пярэчанні пільнага абаронцы «асноў»—як у такім выпадку быць з кіруючай роляй партыі? Вельмі добра адказаў на гэта пытанне, з майго пункту гледжання, адзін з аўтараў кнігі «Иного не дано», выдадзенай напярэдадні XIX партканферэнцыі. А іменна: з усталяваннем плюралізму і пачнецца кіруючая роля, бо раней яе не было. Так, так, нельга ж сапраўды кіраваць самой сабой. А партыя была ў

нас (і пакуль што застаецца) ўсё і ўся: сяўба і жніво, станкі і машыны, кнігі і кінафільмы, навука і армія... Кіраваць цэлым можна, толькі будучы яго часткай. Усюдыіснае «цэлае» цэлым кіраваць не можа. Гэта закон логікі.

Усюдыісны чыноўнік, які сёння кіруе гаспадаркай, заўтра— культурай, паслязаўтра—спортам, руйнуе і тое, і другое, і трэцяе. Іншага сапраўды не дадзена. Гэта закон жыцця.

**А. ЛЯГУЦКІ,**
**урач:**

— Я працую ўрачом-венеролагам у Асіповіцкай раённай бальніцы. Мае хворыя—вельмі спецыфічныя хворыя. Я заўважыў такую заканамернасць: за апошнія два-тры гады вырасла венерычная захворваемасць непаўналетніх. Уражвае іх абсалютная бездухоўнасць. Падлеткі не ведаюць, як правесці час, чым заняцца. У нас па сутнасці няма сексуальнага выхавання. Праўда, цяпер і мы, урачы, чытаем лекцыі ў школах, вучылішчах, праводзім асветніцкія заняткі, але належнай праграмы ў нас няма.

Паслухаўшы выступаўшых і зыходзячы са сваіх уласных меркаванняў, раблю для сябе такі вывад: са справай перабудовы вельмі складана. І не трэба нам рабіць выгляд, што ёсць вялікія зрухі, бо мы ўвесь час азіраемся назад, нечага баімся. Узяць хоць бы нашу інфармаванасць. Мы ведаем больш, што робіцца ў ЮАР, у Чылі, Карэі, чым пра тое, што ў нас дома дзеецца. Нядаўна адзначаўся саракагадовы юбілей прыняцця ААН дэкларацыі правоў чалавека, а нашы газеты пра гэта амаль не пісалі. Няўжо па-ранейшаму слухаць розныя «галасы»?

Час выходзіць з гэтага абмежаванага кола. Тым больш, што перабудове яшчэ трэба змагацца за кожнага грамадзяніна і з гэтай мэтай даваць яму самую поўную інфармацыю.

Падзяляю думку наконт барацьбы з бюракратамі. У нас, у медыцыне, таксама іх нямала. Возьмем, напрыклад, лісткі па страце працаздольнасці. Аказваецца, і тут ёсць план па захворваемасці. А медыкі ў гэтай захворваемасці «вінаваты» ўсяго на 8—10 працэнтаў. Харчаванне, экалогія, умовы працы— хіба яны не ўплываюць на хваробы? У бульбе, дарэчы, не павінна быць, як нам раней гаварылі, больш за 80 міліграмаў нітратаў на кіло вагі, а наша санітарная бюракратыя зараз падняла гэты парог ажно ў тры разы — да 240 міліграмаў на кіло вагі.

**І. КРЫСАК,**
**рабочы:**

— Я не вельмі добра валодаю беларускай мовай, хоць і «великим могучим русским языком»—таксама не лепш...

Мой партыйны стаж—20 гадоў, і для мяне не ўсё роўна, чым скончыцца перабудова. Сёння наша грамадства стала больш адкрытым, інфармаваным. Галоснасць—галоўная адзнака перабудовы. Але думаю часам вось пра што. Нядаўна ішоў па вуліцы, увагу маю прыцягнула афіша на плоце, дзе паведамлялася: «Состоится эстрадное представление—«Время смелых разговоров». Час такі і сапраўды настаў. Але падумалася: што, калі гэта ўсяго толькі «смелыя гаворкі»?.. Што я маю на ўвазе? Прывяду прыклад з майго асабістага жыцця. Бацька мой быў просты шафёр, гадаваў чацвярых дзяцей, і жылі мы няблага, нават капейчыну маглі адкласці, як кажуць, «на чорны дзень». А што цяпер? Жыву з трынаццацігадовай дачкой. Але я, слесар шостага разраду, не скажу, што ў мяне поўны дастатак, што я магу адкласці нейкія грошы на ашчадную кніжку. Не ведаю, што б я рабіў, калі б мне давялося забяспечваць такую сям'ю, як калісьці карміў бацька. Цэны на тавары растуць, а пойдзеш у магазін—купіць няма чаго...

Дзе ж выйсце? Я ўпэўнены, што перабудова не будзе буксаваць толькі тады, калі наша партыя і надалей павядзе мудрую і разумную палітыку. Успомнім, яшчэ на зары фарміравання нашай партыі, Савецкай улады, калі меншавікі сказалі, што няма такой партыі, якая магла б узяць уладу ў свае рукі, Ленін адказаў: ёсць такая партыя! Гэта партыя бальшавікоў. Тым самым ён падкрэсліў, што за ўсё, за ўсе справы, за ўсе поспехі і беды, за ўсё цалкам нясе адказнасць кіруючая партыя. Мы ж гаворым цяпер так: у тым, што загінула столькі людзей, вінаваты Сталін; Хрушчоў спарадзіў валюнтарызм, Брэжнеў распладзіў хабарніцтва і прыстасаванства. Я лічу, што ва ўсім гэтым вінаваты не толькі асобныя людзі, але і ўсе мы, члены партыі! А каб гэта не паўтаралася, патрэбны сапраўдныя галоснасць і дэмакратыя, павага да іншай думкі, да чалавечай асобы. Калі ўсяго гэтага не будзе, то перабудова будзе буксаваць. Інакш кажучы — пакуль час смелых размоў не зменіцца часам сапраўдных спраў, калі маральнае паветра, якім мы дыхаем, не будзе адпаведна чыстым, перабудова не адбудзецца.

Вось чаму мае сённяшнія спадзяванні азмрочваюцца маімі трывогамі.

**Я. ЯНУШКЕВІЧ,**
**літаратуразнавец:**

— У галоснасці знізу — асноўнае дасягненне перабудовы. Казаць, што ў вяршалінах гудзе, а ўнізе нібыта ціха — значыць, казаць няпраўду. Звычайны рабочы, інжынер, калгаснік цяпер адкрыта выказваецца па ўсіх набалелых для краіны пытаннях. Праўда з «узкого круга» вырвалася на прастор...

Асабіста для мяне моцны подых свежых павеваў уварваўся пад канец 1987 года прапановай ад рэдакцыі часопіса «Маладосць» напісаць юбілейны артыкул да 150-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і падрыхтаваць адначасова публікацыю ягоных *«Лістоў з-пад шыбеніцы»*. Цалкам, без купюр. Наколькі гэта было справай нечаканай не толькі для мяне, можна меркаваць па рэпліцы, пачутай мною ад старэйшых даследчыкаў, якія не раілі публікаваць лісты поўнасцю, бо «гэтым можаш пашкодзіць і сабе, і Каліноўскаму».

Нехта тут слушна зазначыў, што для яго галіны, у якой ён працуе, найбольш падыходзіць слова «рэформа», бо, маўляў, працоўнаму чалавеку асабліва перабудоўвацца не трэба. Застой адбіўся першнаперш на ідэйна-палітычным, духоўным жыцці савецкага народа (пра што трапна выказаўся на старонках «ЛіМа» Уладзімір Калеснік). І тая дэградацыя, якая назіралася ў культурным, палітычным жыцці на працягу паўвека, з перапынкам у канцы 1950 — пачатку 1960 гадоў, можа быць пераадолена самаадданай працай на працягу гэткага ж перыяду. Прыйшоў час пераходзіць ад слоў-маніфестаў да справы, да працы. Як пісаў той жа Каліноўскі, праца, для таго, каб стаць паспяховай, павінна быць сярмяжнай, шчырай і простай, «як тое сэрца, што б'е пад сярмягай, як той розум мужыцкі, што не перабірае, калі рабіць трэба».

У адносінах да духоўнага жыцця народа я таксама ўдакладніў бы тэрміналогію. Перабудова ў культурнай і палітычнай сферах гэта не што іншае, як Адраджэнне. Адраджэнне ленінскіх партыйных прынцыпаў ва ўсіх галінах нацыянальна - культурнага будаўніцтва. Тут на першы план выходзіць не тое, якую праграму складзе Беларускі фонд культуры ці іншая ўстанова. Тут важны стратэгічныя кірункі: перамога галоснасці, паглыбленне дэмакратыі. Ленін на гэты конт выказаўся ясна: «Пусть буржуазия обманывает народ всякими «позитивными» национальными программами. Сознательный рабочий ответит ей: есть только одно решение национального вопроса... и это решение — последовательный демократизм».

Так, паслядоўны дэмакратызм, які пазбавіць грамадства, нас з вамі, многіх прыкрых з'яў, якія мы сёння назіраем.

Перабудова на рабочым месцы. Натуральна, яна заўважаецца. У Інстытуце літаратуры, дзе я працую, упершыню ў гісторыі прайшлі выбары дырэктара з трох прапанаваных кандыдатур. Лічу добрым знакам, што перамагла, хоць і не без цяжкасці, справядлівасць.

**С. ДЫЧОК,**
**інжынер:**

— У мяне ў памяці ўсплыў такі факт: на ашчадных кніжках па Саюзу ляжыць недзе 280 мільярдаў рублёў, гэта ці не цэлы гадавы бюджэт краіны. Чаму ляжыць? А таму, што мы не забяспечаны таварамі, іх проста няма. Нагадаю, што калі на XIX партыйнай канферэнцыі спыталі ў акадэміка Абалкіна, як ён бачыць сабе нашы перспектывы, ён сказаў, што ў бліжэйшыя год-два, а, можа, тры, будзе яшчэ горш. У сувязі з гэтым мой песімізм грунтуецца на тым, што значнай часткі насельніцтва не хопіць вытрымкі, каб прайсці праз гэтыя выпрабаванні, праз гэтыя эканамічныя цяжкасці. Што яшчэ наводзіць на трывожныя думкі? Некаторыя публікацыі і падзеі, звязаныя з утварэннем «Мартыралога Беларусі», са спробамі правесці мітынг-рэквіем. Што надае аптымізму? Я працую на «Інтэграле», у нас вялікі калектыў. Тут створаны некалькі груп падтрымкі народнага руху за перабудову «Адраджэнне». У мяне такое ўражанне, што за гэтымі групамі пойдзе пераважная большасць рабочых «Інтэграла». Праўда, удакладню: не толькі ў нацыянальным пытанні, але, можа, перш за ўсё ў дачыненні да праблем экалогіі, сацыяльнай справядлівасці, ліквідацыі рэштак сталіншчыны. Гэта і выклікае мой аптымізм, маю веру, што «ўнізе» перабудова будзе падтрымана.

**АД РЭДАКЦЫІ. Маналогі, якія прагучалі за нашым «круглым *сталом», можна назваць своеасаблівымі чытацкімі пісьмамі*, запісанымі на рэдакцыйны дыктафон. Рыхтуючы гэтыя «пісьмы» да друку, мы сям-там падкарацілі, апусцілі агульныя, неабавязковыя словы (плошча газетных палос усё ж абмежаваная), сёе-тое адаптавалі альбо пераказалі (маналогі ёсць маналогі, яны прамаўляліся, а ў гаворцы эмоцыі часам бяруць верх над логікай, ацэнкі не заўсёды вызначаюцца выверанасцю, высновы не заўсёды падмацоўваюцца фактамі і назіраннямі).**

**Апошніх кропак аўтары выступленняў, як сведчыць падрыхтаваная намі справаздача, таксама не паставілі. Не будзем ставіць іх і мы. Зрэшты, зрабіць гэта не так проста. Шляхі перабудовы не прамыя і не гладкія. Працэсы, якія сёння праходзяць у краіне, у розных сферах эканамічнага, сацыяльнага, духоўнага жыцця, не раўназначныя. Сям-там крокі перабудовы досыць упэўненыя і шырокія, сям-там —нясмелыя і сціплыя, а сям-там яна наогул топчацца на месцы. Натуральна, што і разважанні нашых чытачоў за «круглым сталом» у многім адлюстроўвалі гэтую няпростую сённяшнюю сітуацыю. І патрабаваць, каб яны былі цалкам завершанымі, лагічна пераканаўчымі і ва ўсім доказнымі, было б празмерна. Галоўнае ў тым, што гаворка, абмен думкамі, трывогамі, сумненнямі і спадзяваннямі адбыліся.**

**Хочацца верыць, што гаворка гэтая была карыснай не толькі для тых, хто браў у ёй удзел непасрэдна. Магчыма, яна прынясе карысць і многім іншым нашым чытачам — дасць ім спажыву для роздуму, падштурхне ўзяцца за пяро і напісаць у газету ліст альбо і самім прыйсці ў рэдакцыю.**

Матэрыялы «круглага стала» падрыхтавалі да друку
Марыя ГІЛЕВІЧ і Людміла КРУШЫНСКАЯ.

# Часопісы ў студзені

## «ПОЛЫМЯ»

**«Аблава» — новая аповесць В. Быкава.**

**Змешчаны вершы А. Вольскага, С. Грахоўскага, С. Панізніка, В. Макарэвіча, А. Бадака, Я. Пушчы.**

**Друкуюцца драма І. Чыгрынава «Чалавек з мядзведжым тварам», апавяданне М. Дубоўскага «Шапэн», рубаі А. Хаяма ў перакладзе Р. Барадуліна.**

**У раздзеле «Публіцыстыка. Нарысы» — нарыс М. Васькова «Ваша ўлада: дзейнічайце», пачатак артыкула А. Ліса «Браты Гарэцкія».**

**Чытач пазнаёміцца з запіснымі кніжкамі У. Караткевіча «У дарозе і дома», артыкулам А. Гардзіцкага «Перазовы сяброўства», пачаткам артыкула Г. Коласа «Аўтографы дзевяты і дзесяты», нататкамі З. Азгура «Дзень ёсць дзень...».**

**Кнігі рэцэнзуюць Г. Тычка («Творы» Я. Лучыны), В. Локун («Зеніт» І. Шамякіна), Г. Шупенька («Лесавік» А. Кажадуба).**

**Завяршае нумар гумарыстычная падборка «Дзядоўнік на Парнасе».**

## «МАЛАДОСЦЬ»

**Публікуюцца вершы А. Алешынай, М. Мятліцкага, М. Кусянкова, Ю. Голуба, С. Грахоўскага, Г. Мяцеліцы.**

**Змешчаны пачатак рамана Г. Далідовіча «Свой дом», апавяданні І. Васілеўскага.**

**«Старая сядзіба» — публіцыстычны роздум У. Глушакова.**

***Сярод іншых матэрыялаў* — артыкулы А. Бяляцкага «Да гісторыі адной палемікі», Б. Крапака «Тупік з шэрай лесвіцай», І. Скурко «Нялёгкія дарогі да сябе».**

## «БЕЛАРУСЬ»

**«Рэспубліка на новым рубяжы» — выступленне намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыні Дзяржплана БССР В. Ф. Кебіча.**

**Да 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі прымеркавана падборка дакументаў «Нараджэнне рэспублікі», выступленне Г. Бураўкіна «Калі я ўсвядоміў сябе *беларусам...»***

**Інтэрв'ю А. Ліопы з С. Станютай «Бабуля, якая бачыла Леніна...» прапануецца ў раздзеле «У гасцінай «Беларусі».**

**У нумары вершы Я. Міклашэўскага, Л. Родзевіча, апавяданне Г. Марчука «Як памёр Даніла Штоўба», пачатак аповесці В. Гігевіча «Штучны розум». Прыцягнуць увагу публікацыі «Дарогі і смерць Фелікса Дзяржынскага» В. Лапіна, гутарка Г. Грыбоўскай з В. Быкавым «Выпрабаванне дэмакратыяй», артыкул М. Тычыны «У святле гістарычнага дня», выступленне акадэміка Л. Абалкіна «Дэмакратыя павінна быць шматпавярховай», якім адкрываецца новая рубрыка «Беларусь: погляд збоку».**

## «КРЫНІЦА»

**А. Мальдзіс прадстаўляе чытачу ўспаміны Я. Дылы «Гады барацьбы і выпрабаванняў». Р. Мядзведзеў дзеліцца ўспамінамі пра Ю. Трыфанава.**

**«Анатомія аднаго дазнання» — публіцыстычныя нататкі Н. Громавай прапануюцца пад рубрыкай «Канфліктная сітуацыя».**

**«Высоцкі, якім я яго ведаю» — згадкі Д. Альбрыхскага.**

**Г. Брацішоў выступае з нататкамі «Наменклатура», дырэктар *клуба самадзейнай* тэхнічнай творчасці «Мір» А. Здрок дзеліцца сваімі развагамі — «Крылы».**

**Друкуецца пачатак апавядання Г. Гарысона «Шлях на Галгофу» (пераклад з японскай А. Камарова), «Адчыніце, паліцыя! Ці нататкі з жыцця групы «Поліс» А. Панаева, апавяданне Л. Дранько - Майсюка «Пра тое, як я чытаў забароненую літаратуру», вершы А. Бембеля, роздум рэжысёра Беларускага тэлебачання Г. Тананаева «Мае блізкія», іншыя матэрыялы.**

## «БЯРОЗКА»

**Першыя старонкі прысвечаны 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Друкуюцца верш П. Макаля «Нараджэнне дзяржавы», нарыс М. Кузняцова «Шабля Хаджы-Мурата», «Маніфест», напісаны рукою Цішкі Гартнага...**

**Змешчаны нататкі С. Анупрыенкі «Што па сілах нам?» і В. Марозава «Дзе ты, птушка шчасця?»**

**Сярод літаратурных матэрыялаў — апавяданне В. Хомчанкі «Незнаёмы салдат Славік», гумарэска М. Зарыцкага «Вынаходнік», вершы Г. Булыкі, Н. Галіноўскай і В. Макарэвіча.**

**Гасцюе на старонках «Бярозкі» савецка-балгарскі маладзёжны часопіс «Дружба».**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

**Першы нумар года адкрываецца артыкулам У. Конана «Этапы адраджэння» (да 70-годдзя ўтварэння БССР і КПБ). Пра гісторыю стварэння Дзяржаўнага герба БССР і Дзяржаўнага сцяга БССР расказвае А. Цітоў («Сімвалы новага поступу»).**

**«Дыскусійная трыбуна» прапануе матэрыял А. Сабалеўскага «Зноў пра шляхі і ростані купалаўскага тэатра». Т. Гаробчанка разважае *пра сцэнічны* лёс «Тутэйшых» Я. Купалы ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры.**

**Аддзел выяўленчага мастацтва прапануе роздум А. Дабравольскага пра творчасць В. Цвіркі, агляд Л. Маленкі дыпломных работ выпускнікоў БДТМІ 1988 года.**

**Музычнае жыццё рэспублікі разглядаецца ў матэрыялах Г. Салапахі «Не толькі натхненне...» (штрыхі да партрэта народнага артыста БССР Л. Гарэліка), М. Валодзіна «Ад першай асобы» (пра развіццё аўтарскай песні), «Няхай прыходзяць кампазітары...» («круглы стол» па пытаннях супрацоўніцтва кампазітараў з культасветнікамі).**

**Пытанні кіно і тэлебачання ўзнімаюцца ў артыкулах У. Мароза «З любоўю да людзей», В. Чаніна «Агонь і медныя трубы, радасць і боль...»**

**Народнаму мастацтву прысвечаны публікацыі Н. Ляшчонак «Рэзчык з Глушыцы», В. Ермаловіч «Абудзіць у чалавеку творцу», А. Карацеева «Капыльскія музыкі».**

# ЧАРГОВЫ ВЫПУСК «БРАТЭРСТВА»

**Выйшаў чарговы выпуск літаратурнага зборніка «Братэрства». Адкрываецца ён вядомай аповесцю В. Распуціна «Пажар» у перакладзе М. Дубянецкага з прадмовай А. Адамовіча. Нядрэнна прадстаўлена сучаснае літоўскае апавяданне (творы М. Слуцкіса, С. Шальцяніса, Б. Радзявічуса пераклалі А. Асташонак і В. Грыгалюнас). Раздзел «З рускай савецкай класікі» — вершы П. Васільева, перакладзеныя С. Гаўрусёвым. Падборка «З рускай класічнай лірыкі» — А. Кальцоў, А. Ржэўскі, Я. Палонскі, Ф. Цютчаў, А. Фет, пераўвасобленыя па-беларуску Я. Міклашэўскім, Ф. Баторыным, П. Макарэвічам.**

**Чытач пазнаёміцца з творамі казахскіх пісьменнікаў М. Аўэзава і Т. Рахімава (пер. А. Тоўсціка і У. Шахаўца), азербайджанскіх — А. Лачынлы і Ч. Алі-аглы (пер. В. Макарэвіча і А. Емяльянава), эстонскіх — Ф. Тугласа і А. Сійга (уступныя словы і пераклад С. Шупы, Р. Барадуліна). Прадстаўлены паэты — украінец Р. Лубкіўскі (пер. В. Зуёнка), латыш К. Элсбергс (уступнае слова і пераклад В. Сёмухі), узбек Шукрула (пер. М. Маляўкі).**

**І, вядома ж, адкрыццё выпуску — раздзел «Перазовы». Пра сувязі паміж пісьменнікамі Брэстчыны і Валыні расказвае ў артыкуле «Паэтычныя святы» У. Калеснік. Творы ж П. Маха, Ё. Струцюка, В. Гэя і іншых (усяго дзевяць аўтараў) пераклалі іх беларускія сябры М. Пракаповіч, А. Каско, М. Купрэеў, І. Арабейка, М. Рудкоўскі, В. Сахарчук, М. Аляхновіч, З. Дудзюк.**

**Ёсць у выпуску рубрыкі «Слова любові», «У лучнасці братняй», «Нашы інтэрв'ю», «Пытанні перакладу», «Вясёлая сябрына», «У творчай майстэрні», «Хроніка перакладных выданняў».**

**Раздзел «Наш конкурс» дае магчымасць паспаборнічаць у перакладзе вядомага лермантаўскага верша «Ветразь» В. Сахарчуку, Ю. Свірку, У. Скарынкіну, П. Макарэвічу.**

